№ 41 (313) ◂ 26 кастрычніка ◂ 2012 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ**

Стар. 4

**ПАМЕРЛЫЯ ГЛЯДЗЯЦЬ НА «СВЯТА ЖЫЦЦЯ»**

Рэстаран і лазню «Бульбаш Хол» пад бокам Курапатаў амаль дабудавалі. Хутка адкрыццё

Стар. 5

**ЧАТЫРЫ АРГУМЕНТЫ СУПРАЦЬ КААРДЫНАЦЫЙНАГА САВЕТУ**

Беларуская апазіцыя абмяркоўвае ідэю імпарту з Расіі мадэлі інтэрнэт-выбараў каардынацыйнага савету апазіцыі. Звернем увагу на слабыя бакі эксперыменту

Стар. 28

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ВАЙНА І МОВА**

Эсэ Віталя Воранава з цыклу «Куды ідзеш, мая краіна»

З НАГОДЫ

# НОВЫМІ ПРАВІЛАМІ ПА ІП

Вольга ХВОІН

**Са студзеня 2013 года частка дробных бізнэсоўцаў, магчыма, будзе вымушаная згарнуць сваю дзейнасць. Прычыны — у новым тэхрэгламенце, прынятым Камісіяй Мытнага саюза.**




1 студзеня 2013 года павінен уступіць у сілу тэхнічны рэгламент Мытнага саюза «Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці». У адпаведнасці з рашэннем Камісіі Мытнага саюза, прадугледжваецца ўвядзенне забароны на рэалізацыю на тэрыторыі Мытнага саюза прадукцыі лёгкай прамысловасці без пацверджання яе адпаведнасці патрабаванням тэхрэгламенту і маркіроўкі адзіным знакам абароту прадукцыі на рынку дзяржаў-сябраў Мытнага саюза. Для пацвярджэння адпаведнасці патрабаванням бяспекі мяркуецца ўкараненне ў Беларусі працэдур «ідэнтыфікацыі і сертыфікацыі» (у тым ліку правядзенне выпрабаванняў) адпаведнай прадукцыі лёгкай прамысловасці.

Старшыня рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Перспектыва» Анатоль Шумчанка выказаў меркаванне, што новаўвядзенне можа паралізаваць працу дробных прадпрымальнікаў, якія прадаюць абутак і вопратку.

«Цяпер ад прадпрымальнікаў, якія рэалізуюць прадукцыю лёгкай прамысловасці на рынках і ў гандлёвых цэнтрах, не патрабуецца наяўнасць сертыфікатаў. Калі ІП прымусяць маркіраваць тавары і атрымліваць сертыфікаты, гэта прывядзе да таго, што праца малога бізнэсу ў Беларусі будзе паралізаваная», — заявіў БелаПАН Анатоль Шумчанка. Ён адзначыў, што працэдура сертыфікацыі і маркіроўкі — дарагая і затратная па часе. «І прадпрымальнікам няма сэнсу аддаваць на сертыфікацыю частку тавару, а потым чакаць месяц–два сертыфікаты», — адзначыў кіраўнік «Перспектывы».

Шумчанка прагназуе, што калі правілы рэалізацыі прадукцыі лёгкай прамысловасці на тэрыторыі Мытнага саюза зменяцца з 1 студзеня 2013 года, усе рынкі і гандлёвыя цэнтры ў Беларусі будуць зачыненыя. Паводле ацэнак прадпрымальнікаў, больш за 100 тысяч ІП будуць вымушаныя спыніць сваю дзейнасць.

РГА «Перспектыва» накіравала ліст віцэ-прэм'еру Сяргею Румасу з просьбай патлумачыць, ці патрэбна будзе прадпрымальнікам з новага года праводзіць выпрабаванні прадукцыі легпрама ў мэтах ідэнтыфікацыі і сертыфікацыі, а таксама забяспечваць яе маркіроўку адмысловымі знакамі, прадугледжанымі ў рэгламенце. Прадпрымальнікі спадзяюцца, што ўмовы іх працы не пагоршацца. Аднак паказальна, што да меркаваных новаўвядзенняў засталося літаральна два месяцы, а прадпрымальніцкая супольнасць фактычна ніяк не абазначыла сваёй заклапочанасці, хаця гэта тычыцца не адной тысячы «іпэшнікаў», а таксама фактычна кожнага жыхара краіны.

Лакальныя канфлікты з прадпрымальнікамі — справа ў цэлым звыклая для Беларусі. Правілы гульні мяняюцца часта, інструментаў, якія б дазвалялі эфектыўна прасоўваць інтарэсы дробнага бізнэсу, фактычна няма.

Так, у кастрычніку ў Гомелі прадпрымальнікі, якія працуюць у гандлёвым цэнтры «Сакрэт», былі вымушаныя правесці нават аднадзённы страйк. 5 кастрычніка ў ГЦ «Сакрэт» з'явіўся новы ўласнік, які ўзняў арэндную плату з 45 да 120 еўра за квадратны метр і прапанаваў да падпісання новыя дамовы. У гандлёвым цэнтры працуюць прыблізна 400 прадпрымальнікаў. 23 кастрычніка прадпрымальнікі не адкрылі свае гандлёвыя пункты, павесіўшы аб'явы «Сандзень» і «Пераўлік», і правялі сход. Яны перадалі ў міліцыю калектыўную адозву пра магчымае махлярства з боку новага ўласніка.

Гомельскі аблвыканкам пасля нарады з удзелам прадстаўнікоў выканаўчай улады, уласніка ГЦ і прадпрымальнікаў стаў на бок «іпэшнікаў». Да 1 лістапада ўласнік гомельскага гандлёвага цэнтра «Сакрэт» павінен урэгуляваць праблемныя пытанні з прадпрымальнікамі, якія там працуюць. Калі да 1 лістапада бакі не дамовяцца, то справу будзе разглядаць гаспадарчы суд.

Начальнік аддзела прадпрымальніцтва камітэта эканомікі Гомельскага аблвыканкама Марына Крывунь паведаміла, што змена ўласніка ў гандлёвым цэнтры згодна з Грамадзянскім кодэксам не цягне змены арэндных адносінаў для арандатараў.

«Купля гэтага цэнтра ніякім чынам не мяняла б умовы арэнды для прадпрымальнікаў, калі б не адно: на момант куплі ГЦ яны ўсе ў добраахвотным парадку падпісалі пагадненні аб скасаванні раней дзейнага дагавору арэнды. У прынцыпе, гэта і справакавала магчымасць новага ўласніка прапанаваць умовы арэнды з арэндnай стаўкай, якая ў два і больш разы перавышае раней дзейную», — цытуе начальніка аддзела БелаПАН.

Пасля 2008 года, калі прадпрымальнікі правялі некалькі шматлюдных вулічных акцый пратэсту супраць увядзення абмежаванняў на найм работнікаў, падобнай салідарнасці і гучнасці прадпрымальніцкая супольнасць больш не мела. Відаць, зразумеўшы, што ступень кансалідацыі і гатоўнасці адстойваць свае правы не на такім узроўні, каб спрабаваць змагацца з існай сістэмай, прадпрымальнікі пацюху разрульваюць свае праблемы на лакальных узроўнях ці шукаюць выйсці тыпова беларускімі метадамі — у абыход і партызанскімі сцежкамі.

Разам з тым цягам апошняга года павялічыўся памер штрафу (вырасла базавая велічыня), скарацілася пакупная здольнасць насельніцтва, выраслі падаткі, і як вынік — колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў зменшылася на 10 тысяч. Разам з тым бізнэсоўцы сярэдняй рукі граюць важную ролю падаткаплацельшчыкаў. Так, за восем месяцаў гэтага года паступленні ад суб'ектаў малога і сярэдняга прадпрымальніцтва ў кансалідаваны бюджэт Мінскай вобласці склалі больш за 2,4 трыльёна рублёў (27% агульных паступленняў), што ў 2,3 разы больш у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

# ФАКТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ



▸ САЦЫЯЛОГІЯ

## ЦЁМНЫЯ СПРАВЫ РОБЯЦЦА ЦІШКОМ

Вольга ХВОІН

**Адзіны ў Беларусі штомесячны незалежны гуманітарны часопіс на беларускай мове апынуўся пад пагрозай закрыцця. Прадстаўнікі рэдакцыі «ARCHE» кажуць, што закрыццё выдання будзе непапраўнай стратай для інтэлектуальнай супольнасці краіны.**

Пасля інцыдэнту, які адбыўся 14 верасня на прэзентацыі кнігі Яна Шумскага «Саветызацыя Заходняй Беларусі. Навука і прапаганда на службе ідэалогіі» ў Гродна паміж галоўным рэдактарам часопіса Валерам Булгакавым і мясцовымі падаткавікамі, пачалі разгортвацца падзеі, якія цяпер пагражаюць існаванню часопіса «ARCHE». Дэпартамент фінансавых расследаванняў шукае парушэнні ў дзейнасці выдаўцы ды апелюе да незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

Разам з тым прадстаўнікі рэдакцыі адзначаюць, што ў прэтэнзіях да «ARCHE» ўжо выразна прасочваецца палітычная замова. Днямі Беларускае тэлебачанне ў праграме «Зона Х» паказала сюжэт, у якім выказваліся прэтэнзіі да кніжных выданняў «ARCHE». Журналіст Аляксандр Вярбіцкі распавядаў пра «сумнеўны змест» выданняў, якія быццам бы пераацэньваюць падзеі Другой сусветнай вайны ды займаюцца прапагандаю фашызму. У якасці ілюстрацыі да адпаведных каментараў паказвалі, напрыклад, кнігі Яна Станкевіча «Язык і языкаведа», Уладзіміра Ляхоўскага «Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)». Кандыдат гістарычных навук Уладзімір Ляхоўскі накіраваў у рэдакцыю Беларускага тэлебачання ліст з патрабаваннем публічных прабачэнняў.

«Пагром інтэлектуальнага асяродку «ARCHE», закрыццё часопіса нанясе непапраўную шкоду інтэлектуальнай супольнасці. Калі ўлады зачыняць часопіс, то прастора для выказвання інтэлектуальнай, акадэмічнай думкі яшчэ больш звузіцца, — канстатуе адзін з заснавальнікаў часопіса «ARCHE» Андрэй Дынько. — Сёння ўлады зачыняюць часопіс «ARCHE», потым — літаратурны часопіс А, пасля — штотыднёвік В, інтэрнэт-партал С. У гэтай сітуацыі мы мусім звяртацца да міжнароднай падтрымкі і салідарнасці».

Старшыня ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Жанна Літвіна гаворыць, што прагназаваць развіццё падзей вакол часопіса «ARCHE» цяжка, бо гэта палітычнае рашэнне. «Але мы не адзін раз сутыкаліся з сітуацыяй, калі спачатку па Беларускаму тэлебачанню выходзіць адпаведны матэрыял, што як бы фарміруе грамадскую думку, а потым улады прымаюць у дачыненні да суб'екта жорсткія рашэнні. Часопіс «ARCHE» выбітны, і страціць мы яго не можам. Часопіс фармуе інтэлектуальнае поле і тым самым стварае перашкоды дзяржаўнай ідэалагічнай лініі», — кажа кіраўніца БАЖ. Яна падкрэслівае, што цяпер для выдання і медыйнага поля Беларусі вельмі важная салідарнасць і галоснасць, бо «ўсе цёмныя справы робяцца цішком па цёмных кутках».

Прадстаўнікі «ARCHE» кажуць, што нічога не прадказвала такой хады падзей. Адзінае, супадзенне ці не, але ганенні на «ARCHE» пачаліся аднachасова з прэсінгам на гісторыкаў Гродзеншчыны.

▸ САЛІДАРНАСЦЬ

## ЦІ ДАХОДЗЯЦЬ ДА ПАЛІТВЯЗНЯ ЛІСТЫ?

**Сябры Яўгена Васьковіча хочуць праверыць, ці даходзяць іх лісты да адрасата. Пасля неаднаразовых скаргаў Яўгена Васьковіча на тое, што да яго не даходзяць лісты, яго бабруйскія сябры і калегі вырашылі зладзіць своеасаблівую праверку.**

Былы працадаўца Васьковіча, рэдактар газеты «Бабруйскі кур'ер» Анатоль Санаценка звяртаўся з гэтай жа нагоды ў грамадскую назіральную камісію Галоўнага ўпраўлення юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама.

— Я вельмі доўга не атрымлівала лістоў ад Яўгена, і вось нядаўна адзін прыйшоў, — кажа бабруйская грамадская актывістка Галіна Смірнова. — Але іншыя дасюль скардзяцца, што лісты не прыходзяць. Мы вырашылі праверыць у мясцовых маштабах, як ідзе гэтае ліставанне. Мы сабраліся з сябрамі і калегамі Васьковіча, і напісалі яму адразу шмат лістоў, яны павінны дайсці да яго прыблізна ў адзін час. Потым звернемся да яго бабулі Тамары Уладзіміраўны, каб расказала, ці дайшлі нашы вестачкі да адрасата.

Галіна Смірнова кажа, што далучыцца да гэтай акцыі пажадалі нават людзі, якія не ведаюць асабіста Яўгена.

— Калі людзі даведваюцца, што ёсць праблемы з перапіскай, выказваюць жаданне падтрымаць хлопца і адправіць яму ліст. Спадзяемся, што да нас далучыцца шмат людзей. Вельмі не хочацца, каб Жэня адчуваў там сябе забытым, — кажа бабруйская актывістка.

Напісаць вязню можна на адрас: Яўген Васьковіч, 212011 г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4.

**spring96.org**

▸ СУД

## ПЕРАМОГА РЫГОРА ГРЫКА

**У панядзелак, 22 кастрычніка, у судзе Баранавіцкага раёну і г. Баранавічы завяршыўся суд па справе звальнення Рыгора Грыка з Баранавіцкага аўтаагрэгатнага заводу.**



Папярэдні суд, які адбыўся 28 жніўня, не аднавіў Рыгора Грыка на працы, але прыняў рашэнне аб кампенсацыі яму ў памеры 500 тысяч рублёў. Таксама прадпрыемства павінна было сплаціць былому працаўніку 300 тысяч рублёў судовых выдаткаў.

Судовае пасяджэнне 22 кастрычніка вяла суддзя Жана Капачэўская, сакратар — Алена Пашкевіч. Інтарэсы Грыка ў судзе прадстаўлялі праваабаронца Сяргей Гоўша і грамадскі актывіст Віктар Сырыца.

— Я патрабаваў, каб мне выплацілі сярэдні заробак за затрымку разліку пры звальненні, бо адміністрацыя заводу мне недаплаціла ў час звальнення, парушыўшы тым самым артыкул 77 ПК РБ. Яшчэ я настойваў, каб мне кампенсавалі 5 мільёнаў маральнай шкоды. Перакананы, што звольнілі мяне з Баранавіцкага аўтаагрэгатнага заводу з-за маёй актыўнай грамадзянскай пазіцыі, — патлумачыў Рыгор Грык.

Прадстаўніца заводу Алена Пашкевіч тлумачыла суду, што звальненне з працы Рыгора Грыка было выклікана выключна вытворчымі прычынамі, а затрымка поўнага разліку была выклікана тым, што Рыгор Грык не здаў на склад спецадзенне.

Аднак суддзя Жана Капачэўская сваім рашэннем абавязала Баранавіцкі аўтаагрэгатны завод выплаціць Рыгору Грыку сярэдні заробак за затрымку разліку пры звальненні ў памеры 179 410 рублёў, а таксама спагнаць з заводу ў даход дзяржавы дзяржпошліну ў памеры 8 970 рублёў. У астатняй частцы іску Рыгору Грыку суд адмовіў.

▸ САЦЫЯЛОГІЯ

## НІСЭПД НЕ ПАЦВЕРДЗІЎ БАЙКОТ

**Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Вільнюс, Літва) абвяргае меркаванне апазіцыйных палітыкаў, што парламенцкія выбары ў Беларусі не адбыліся з прычыны байкоту.**

Апытанне грамадскай думкі праводзілася ў верасні-кастрычніку. Даследаванне паказала, што яўка выбаршчыкаў на выбарах перавысіла 50%. Байкатавалі выбары 9,6% выбаршчыкаў, яшчэ 24% — не ўдзельнічалі па іншых прычынах, гаворыцца ў каментарах да вынікаў апытання, размешчаных на сайце НІСЭПД. 17,4% апытаных прагаласавалі датэрмінова (18–22 верасня), 49% — 23 верасня. Як адзначаюць сацыёлагі, яўка перавысіла 50-працэнтны парог за кошт выбаршчыкаў з абласных цэнтраў (без уліку Мінска) і рэгіёнаў, дзе пражывае 80% беларускага электарату.

На думку НІСЭПД, не адпавядаюць рэчаіснасці і заявы пра тое, што «калі выбары і адбыліся», то, перш за ўсё, дзякуючы датэрміноваму галасаванню, на якім «было здзейснена большасць фальсіфікацый». «На самай справе, датэрмінова прагаласавала крыху больш за чвэрць усіх удзельнікаў галасавання — нават менш, чым на папярэдніх парламенцкіх выбарах (тады датэрмінова прагаласавала 24%, а ў дзень выбараў — 41,1%). Прычым, толькі 2,2% сказалі, што іх «да гэтага прымусілі», а 15,2% зрабілі гэта «па ўласнай ініцыятыве», — адзначае НІСЭПД.

Больш за тое, па дадзеных апытання, 47,5% рэспандэнтаў назвалі выбары, якія прайшлі, «свабоднымі і справядлівымі», 27% з гэтым не пагадзіліся. Практычна такімі ж былі суадносіны і ў верасні 2008 года (48,7% супраць 27,1%), паведамляе НІСЭПД.

З тым, што «падчас выбараў мелі месца фальсіфікацыі», пагадзіліся 27,2%, а 41,7% — не (26,5% супраць 44,1% у 2008 годзе). «Такім чынам, выбары адбыліся, але іх вынікі не адпавядаюць чаканням значнай часткі грамадства і не асабліва хвалююць большасць. Сур'ёзных пераменаў у сваім жыцці мільёны беларусаў не чакалі ад гэтых выбараў да іх правядзення, не чакаюць і пасля», — робіць выснову аналітыкі НІСЭПД .

Ацэньваючы папулярнасць Аляксандра Лукашэнкі, сацыёлагі канстатуюць, што «рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі «фактычна» стабілізаваўся». У параўнанні з чэрвенем рэйтынг Лукашэнкі вырас з 29,7% да 31,6%, гэта значыць у межах памылкі выбаркі (у сакавіку ён складаў 34,5%).

Ацэньваючы дабрабыт, 27,8% апытаных заявілі, што «сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Беларусі ў бліжэйшыя гады пагоршыцца», і толькі 18,4% — што палепшыцца (у чэрвені паляпшэння чакалі 21,4%). «Як бачна, няўстойлівасць эканамічнай стабілізацыі, пра якую кажуць шматлікія эксперты, адчуваецца і мільёнамі нашых суграмадзян», — мяркуюць у НІСЭПД.

Пра пачатак новай праграмы Еўрасаюза «Дыялог аб мадэрнізацыі Беларусі» ведаюць ці чулі што-небудзь толькі 20,9% рэспандэнтаў, але лічаць, што «такая праграма патрэбна Беларусі» 40,3% (не — 18,2%, не змаглі адказаць ці не адказалі 41,5%). «Іншымі словамі, калі стаўленне да Расіі (ад сяброўства да крыўды) у большасці беларусаў будуецца на аснове ўласнага вопыту, то да Еўропы (ад надзей да асцярог) — хутчэй, на аснове даступнай інфармацыі і стэрэатыпаў», — канстатуюць у НІСЭПД.

▸ СПАДЧЫНА

## ЗІНАІДА БАНДАРЭНКА ЧЫТАЕ ЛАРЫСУ ГЕНІЮШ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Беларусы Беласточчыны ажыццявілі выпуск аўдыёдыска «Птушкі без гнёздаў». Ён прысвечаны творчасці беларускай паэткі Ларысы Геніюш.**




Аўдыёдыск «Птушкі без гнёздаў» выпусціла Беларускае гістарычнае Таварыства ў рамках праекту «Памяць па-над часам і межамі». На дыску запісаны ўспаміны Ларысы Геніюш. Гэтыя ўспаміны цудоўна чытае Народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка.

Прэзентацыя дыска ў Беларусі запланавана ў Гродне ў пачатку лістапада.

Дарэчы, у 1996 годзе пад назвай «Птушкі без гнёздаў» на кінастудыі «Беларусьфільм» вышаў мастацкі фільм пра Ларысу Геніюш.

А напрыканцы гэтага года ў Беластоку плануецца выхад кнігі Ларысы Геніюш «Споведзь» на польскай мове. На польскую мову ўспаміны Ларысы Геніюш пераклаў Чэслаў Сэнюх.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ШОЎ ЗАЦЯГНУТЫХ ПАЯСОЎ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Катастрафічныя прагнозы эканамічнага развіцця краіны пасля парламенцкіх выбараў працягваюць ажыццяўляцца. Зараз зноў пайшло павышэнне коштаў, прычым улады б'юць па самым святым для свайго ж электарату.**

Што казаў прэзідэнт пра «чарку і шкварку»? «Шкварка» падаражэла тры тыдні таму. А зараз нас па ілбе ўдарылі і чаркай. З 25 кастрычніка павялічыліся гранічныя мінімальныя цэны на алкаголь моцнасцю больш за 28%. Такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове Мінэканомікі №87 ад 18 кастрычніка 2012 года.

Згодна з дакументам, лімітавая мінімальная адпускная цана (без ПДВ) на алкаголь моцнасцю 40% за 0,5 літра (з коштам спажывецкай тары) павялічана на 51,4% — да 21,5 тысяч беларускіх рублёў. Пры гэтым рознічны кошт (з ПДВ) павялічаны на 51% — да 29,6 тысяч, а лімітавая мінімальная адпускная цана на імпартныя алкагольныя напоі моцнасцю 40%, што рэалізуюцца на тэрыторыі Беларусі, складае 43 тысячы (на 51,4% больш).

Павышэнне кошту на 50% для моцнага спіртовага напою, з аднаго боку, дае падставы для таго, каб таварыству непітушчых пляскаць у далоні. Маўляў, будуць менш піць. Але, хутчэй, будуць не менш піць, а менш закусваць. Больш за тое, зараз міністэрства здароўя павінна запасацца сваёй жа прадукцыяй — пігулкамі ад галаўнога болю, бо пад крытэр «алкаголь моцнасцю больш за 28%» не падпадаюць «пладова-выгадныя» «чарнілы» і ім падобная прадукцыя. Іх моц, як правіла, складае 18–22%.

Так што большым будзе спажыванне «бырла», і меншым — якаснага і дарагога алкаголю.

**Рознічны кошт на алкаголь павялічаны на 51% — да 29,6 тысяч, а лімітавая мінімальная адпускная цана на імпартныя алкагольныя напоі моцнасцю 40% складае 43 тысячы (на 51,4% больш)**

А каб людзі менш трындзелі з нагоды павышэння коштаў на спірытус, таксама павысяцца кошты на мабільную сувязь, але не так хутка. З 25 лістапада аператар Velcom павысіць тарыфы на паслугі сувязі.

У кампаніі сцвярджаюць, што кошты для абанентаў паднімуцца ў сярэднім на 8%. Падаражэюць званкі, абаненцкая плата на галасавых тарыфных планах і SMS. Павелічэнне цэн таксама закране зыходзячыя міжнародныя званкі і дадатковыя паслугі. Павысяцца таксама тарыфы на паслугі, якія аказваюцца праз кантэнт-правайдараў з дапамогай адпраўкі SMS, MMS, USSD-запытаў і званкоў на кароткія нумары.

Без зменаў застануцца памеры штомесячных плацяжоў за абсталяванне, набытае раней у растэрміноўку, а таксама тарыфы на мабільны інтэрнэт. Варта адзначыць, што Velcom у гэтым годзе ўжо некалькі разоў падвышаў тарыфы. Так, з 1 жніўня кошты на яго паслугі ў сярэднім выраслі на 7–9%. У прыватнасці, кошт зыходзячых міжнародных званкоў павысіўся на 12%.

Што ж, ёсць амаль месяц для таго, каб прааналізаваць свае званкі, і перайсці на больш выгадны тарыфны план. Дзякуй за тое, што хаця б папярэдзілі загадзя.

А тым часам, уладзе трэба аптымізаваць выдаткі, і тут яна не спыняецца ні перад чым. Пра адно самае святое мы ўжо казалі, зараз яна парэжа іншае самае святое — сілавікоў. У рамках аптымізацыі структуры Следчага камітэта Беларусі будзе звольнена каля 40 чалавек, якія займаюць кіруючыя пасады. Пра гэта паведаміў 23 кастрычніка кіраўнік СК Уладзімір Вакульчык на дакладзе ў Аляксандра Лукашэнкі.

Паводле яго слоў, у ліку звальняемых — 34 кіраўнікі, 15 з якіх — з адмысловым званнем палкоўніка юстыцыі.

Варта адзначыць, што Лукашэнка асабліва цікавіўся рэакцыяй сілавых структур на наступствы стварэння СК. «Хацелася б пачуць, як рэагуюць вашы калегі, у якіх фактычна забралі следства, — перш за ўсё КДБ, пракуратура, КДК. Што адбываецца наогул на гэтым полі?» — пазначыў Лукашэнка адну з тэмаў даклада Вакульчыка.

На месцы Лукашэнкі я б паасцярогся з такімі скарачэннямі. Палкоўнікі юстыцыі — гэта табе не абы-хто. Асабліва ва ўмовах, калі не расследаваныя і пакуль што знаходзяцца ў следчых дзеяннях справы Завадскага, Ганчара, Красоўскага, Захаранкі, Чаркасавай, дагэтуль пад пытаннем тэракт у метро і расстрэл Канавалава і Кавалёва.

Карацей, можа адбыцца як з адвакатамі, якіх пазбавілі ліцэнзій за абарону палітычных зняволеных і ўдзел у палітычна матываваных справах. «Безліцэнзійныя» прафесійныя адвакаты разбегліся па праваабарончых цэнтрах, пачынаючы ад Цэнтра прававой трансфармацыі і заканчваючы незарэгістраваным цэнтрам «Вясна». Калі зараз гэты адвакацкі корпус будзе «ўзмоцнены» не менш прафесійнымі следчымі ў званні палкоўнікаў юстыцыі — гэта ж будзе проста гамон беларускім следчай і судовай сістэмам.

Што зможа гэтаму супрацьпаставіць міліцыя? Анічога, акрамя таго, што было вырашана адрадзіць практыку «афіцэрскіх сходаў». 24 кастрычніка беларуская міліцыя правяла першы афіцэрскі сход. «Мы маем намер адрадзіць традыцыю правядзення афіцэрскіх сходаў беларускай міліцыі», — заявіў міністр унутраных спраў Беларусі Ігар Шуневіч, дадаўшы, што гэты сход праводзіцца «ўпершыню за 100 гадоў».

У Шуневіча, здаецца, нейкае зацямненне было, калі ён казаў такія словы. Сто гадоў таму на тэрыторыі Беларусі не было ніякай міліцыі — выключна «царская ахоўка» і жандармерыя, сто разоў потым заклеймаваная самімі міліцыянтамі. Не было ў 1912 годзе ані «жалезнага Феліксa», ані не менш жалезнага Фрунзе, які стаў першым кіраўніком беларускай міліцыі толькі 4 сакавіка 1917 года. Пра што, дарэчы, напісана на афіцыйным сайце МУС, які Шуневіч, пэўна, не чытаў.

Цікава таксама, якія традыцыі правядзення афіцэрскіх сходаў меў на ўвазе Шуневіч, калі казаў, што гэта першы сход за сто год? Няўжо былі нейкія патаемныя сходы? Цікава, што на іх адбывалася?

З пункту гледжання скарачэння апарату міліцыі, усе, хто ўдзельнічаў у гэтым сходзе, «дэлегаты ўсіх падраздзяленняў органаў унутраных спраў Беларусі, найбольш падрыхтаваныя, добрасумленныя і адказныя афіцэры», як казаў Шуневіч, павінны быць звольненыя за прагул. Варта прыглядзецца да гэтага кантынгенту, Аляксандр Рыгоравіч!

З такімі падначаленымі і з такімі захадамі не дзіва, што рэйтынг Лукашэнкі не павялічыўся, нягледзячы на парламенцкія выбары, «Дажынкі», «Зажынкі» і шматлікія інтэрв'ю розным журналістам. Паводле апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Вільнюс, Літва), праведзенага ў верасні—кастрычніку, рэйтынг Лукашэнкі вырас з 29,7% да 31,6%. Прычым сацыёлагі адзначаюць, што гэта не рост: гэта ў межах памылкі выбаркі ў 3%. Сацыёлагі кажуць, што ён усяго толькі «стабілізаваўся».

І гэта бяда. Бо рэйтынг усіх астатніх навакольных прэзідэнтаў, за выключэннем толькі Януковіча ва Украіне, перавышае 50%. Так што варта высветліць, хто абваліў рэйтынг прэзідэнта, і пакараць каго-небудзь.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### N.R.M.



Беларускі гурт N.R.M. падаў заяўку на нацыянальны адборачны тур конкурсу «Еўрабачанне».

«Так атрымалася, што мы напісалі новы дыск, песні з якога цалкам адпавядаюць умовам конкурсу «Еўрабачанне», — паведаміў БелаПАН лідар гурта Піт Паўлаў. — Прэзентацыі гэтага дыска яшчэ не было, песні на радыё мы пакуль не аддавалі. Для нацыянальнага адбору мы абралі песню «Кузнічка». Яна ідэальна кладзецца на гэты конкурс, і я ўпэўнены: яна пераможа, калі журы нас прапусціць у другі тур галасавання, у якім прымуць удзел гледачы. Мы падалі заяўку на конкурс, каб перамагчы!»

Гаворачы пра мову кампазіцый, прадстаўленых на адборачны тур прэстыжнага песеннага конкурсу, Піт адзначыў: «Наша прадстаўленая на конкурс песня, як і ўсе іншыя, напісана па-беларуску. Мы не збіраемся ўводзіць у тэксты песень нейкія англіцызмы. Наогул не разумею, чаму наша краіна так імкнецца паказваць на конкурсе песні на англійскай мове з беларускім акцэнтам. Гэтыя выступы заўсёды атрымліваюцца такімі ганебнымі! І, заўважце, мы ніколі не ўздымаемся высока з англамоўнымі кампазіцыямі. А мы ўздымемся, калі будзем выконваць песню па-беларуску».

Паўлаў паведаміў, што ў бліжэйшыя некалькі дзён не плануе паказваць аўдыторыі прапанаваную на «Еўрабачанне» песню. Лідар папулярнай групы спадзяецца, што «Кузнічку» прапусцяць у другі тур нацыянальнага адбору.

Паўфінал нацыянальнага адбору «Еўрабачання» запланаваны на 16 лістапада. Пераможца, які паедзе ў Швецыю, будзе абвешчаны 7 студзеня. Зараз на нацыянальны адборачны тур паступіла каля 60 заявак. Канчатковая колькасць канкурсантаў будзе абвешчана пасля таго, як па пошце прыйдуць усе заяўкі, датаваныя 22 кастрычніка.

### АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ



Лідар руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч гатовы прэтэндаваць на статус адзінага дэмакратычнага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. Пра гэта ён заявіў 20 кастрычніка ў Мінску падчас правядзення справаздачна-выбарнай канферэнцыі руху «За Свабоду».

«Я сябе ніколі не адчуваў такім маладым, як сёння, але мне 65 гадоў. Аднак я не адмаўляюся ад таго, каб прэтэндаваць на статус адзінага кандыдата, адпрацаваць не горш, чым у 2006 годзе. Але абяцаю: калі абяруць іншага адзінага кандыдата, то буду працаваць на яго», — цытуе палітыка БелаПАН.

Пры гэтым Мілінкевіч лічыць, што «не трэба адразу ўсіх заганяць у адзінства». «Калі група ўплывовых арганізацый гатова працаваць на яго абранне [адзінага кандыдата], то трэба сустракацца і размаўляць», — адзначыў лідар руху.

Мілінкевіч лічыць вельмі небяспечным для апазіцыі тое, што яна «ўвесь час канцэнтруецца на адным Лукашэнку». «Гэта ўжо становіцца нашым комплексам. Праблема не ў Лукашэнку, а ў тым, што робіцца ў галовах людзей. Прыбярэм з галоў людзей Лукашэнку, не будзе яго і ва ўладзе», — лічыць палітык. Ён падкрэсліў неабходнасць «ісці да людзей». «Калі мы пераможам у іх галовах, то станем самай моцнай арганізацыяй», — заявіў Аляксандр Мілінкевіч, які быў адзіным кандыдатам у прэзідэнты Беларусі ад дэмакратычных сіл на выбарах 2006 года.

Аляксандр Мілінкевіч быў пераабраны на пасаду старшыні руху «За Свабоду». Ён аказаўся адзіным кандыдатам на пасаду старшыні. Першым намеснікам старшыні абраны Юры Губарэвіч, якога Мілінкевіч назваў «класным менеджарам». Намеснікамі старшыні сталі Алесь Лагвінец і Галіна Скараход. Як адзначыў Мілінкевіч, Лагвінец «душу і сэрца аддаваў руху, быў яго выдатным прадстаўніком на міжнароднай арэне», а Скараход — «адказны і ўплывовы чалавек, добра вядомы ў трэцім сектары».

### БАРЫС ПАНЬШЫН



Прафесар БДУ Барыс Паньшын у артыкуле «Пра кадравы патэнцыял мадэрнізацыі» ў «Народнай газеце» выказаў сваё меркаванне, як рыхтаваць высакакласных спецыялістаў праз сістэму ПТВ і якія сферы могуць быць запатрабаваныя.

На яго думку, у тым ліку і СМІ павінны стварыць культ сучаснага працоўнага чалавека. «Маладых рабочых трэба рыхтаваць з улікам нашых ключавых канкурэнтных пераваг. У Беларусі ёсць дакладныя вытворчасці, развіта сярэдняе і цяжкае машынабудаванне. Гэта не айфоны, для масавай зборкі якіх даводзіцца прыцягваць тысячы інжынераў і сотні тысяч зборшчыкаў. Тут з Кітаем не зможа канкураваць нават радзіма айфонаў — ЗША. Беларусь — радзіма БелАЗаў, МАЗаў і трактароў «Беларус». Без айфона чалавецтва абыдзецца. Без трактароў ужо ніяк», — піша Барыс Паньшын.

«Асаблівасць мадэрнізацыі ў Беларусі — гэта стаерскі забег на доўгую дыстанцыю, без збіваючых эканамічнае дыханне рыўкоў і катастрафічных для сацыяльнага здароўя перабудоў. Сённяшнюю дыстанцыю ў гэтым бясконцым марафоне Беларусь праходзіць, маючы ў запасе стоадсоткавую харчовую забяспечанасць, практычную адсутнасць беспрацоўя, адладжаную сістэму дзяржкіравання. Можна спакойна імкнуцца ў будучыню», — рэзюмуе прафесар Паньшын.

НЯСКОРАНЫ

# ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Апошнім часам імя Змітра Дашкевіча зноў заняло медыйную прастору. Аднак за шматлікімі навінамі пра новы прысуд, чарговыя нядопускі адваката ды жорсткія катаванні ў калоніі, здаецца, губляецца сама асоба палітвязня — сімпатычнага бялявага хлопца, які вывучаў сельскую навуку і філалогію, некалі «паслаў» Паўла Севярынца ды займеў мянушку «сектант».**






## Бацькі вярнуліся нараджаць з Магадана ў Беларусь

Ёсць фатаздымак маленькага Змітра, дзе той сядзіць побач з бацькам і чытае «Сельскую газету». Фотаздымак сімвалічны — бацькі Змітра, Вольга і Вячаслаў Дашкевічы, працавалі журналістамі. Прафесія занесла іх ажно на Далёкі Усход, на Магадан. І тут можна знайсці сімвалізм — на Магадане, на сумнавядомай Калыме, у савецкія часіны месціліся шматлікія «выхаваўча-працоўныя лагеры». Цяпер у беларускай турме спрабуюць перавыхаваць Змітра. «Спакойна пражываючы ва ўлонні маці дзевяць месяцаў, запатрабаваў я з'явіцца на свет на генетычнай Бацькаўшчыне. З гэтай пазіцыяй бацькі павінны былі лічыцца, і таму адправіліся ў падарожжа да родных мясцінаў», — піша ў сваёй біяграфіі для кніжкі «Маладафронтаўцы» Зміцер Дашкевіч. Хлопец узгадвае яшчэ адну цікавую дэталь — нарадзіўся ён у Ельску, на Гомельшчыне, але быў зарэгістраваны… у вёсцы Кушняры на Берасцейшчыне. Справа ў тым, што ў Кушнярах нарадзіўся тата Дашкевіча, які вырашыў такім чынам выказаць пашану сваёй малой радзіме. Па нараджэнні сына, Дашкевічы вярнуліся ў Магадан і толькі праз 5 гадоў уже назаўжды пераехалі ў Беларусь, у Старыя Дарогі.

Пасля школы Зміцер паступіў у Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт, аднак вучобу там не ўпадабаў — кінуў праз пару месяцаў. Пазней, перабраўшыся ў палітычны вір у Мінск, ён паступіў у Віленскі педагагічны ўніверсітэт на завочнае аддзяленне па спецыяльнасці «беларуская філалогія». Праз арышт у 2007 годзе хлопец быў вымушаны перапыніць навучанне, але па выхадзе з турмы ўсё ж такі атрымаў дыплом. Агулам на атрыманне вышэйшай адукацыі ў Дашкевіча пайшло часу нават болей, чым у медыкаў — каля 8 гадоў. Па спецыяльнасці Зміцер папрацаваць яшчэ не паспеў, але не адмаўляе, што калі-небудзь пойдзе вучыць дзяцей роднай мове, і абавязкова ў вясковую школу.

## Падручнік па англійскай мове — Біблія

Тыя, хто калі-небудзь быў у Дашкевіча ў гасцях, адзначаюць яго разнастайную бібліятэку з навуковых кніг — пераважна паліталагічных ды сацыялагічных, — якія не проста пыляцца на паліцах, а актыўна чытаюцца і прапаноўваюцца для чытання гасцям.

Сацыялогія — гэта жарсць Змітра. Нават у турме, адбываючы двухгадовы тэрмін зняволення быццам бы за збіццё выпадковых мінакоў, Зміцер супрацоўнічаў з вядомым сацыёлагам Алегам Манаевым, кіраўніком Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Літва). Дашкевіч і Манаеў супольна напісалі кнігу «Моладзь і грамадзянская супольнасць у Беларусі. Новае пакаленне», якая выйшла ў 2011 годзе. Даследчыкі НІСЭПД прааналізавалі дзейнасць моладзевых арганізацый на прыкладах «Маладога фронту» ды БРСМ.

Зміцер Дашкевіч рыхтаваў выніковы аналітычны артыкул «Новае пакаленне Беларусі», які, праўда, выйшаў не зусім у такім выглядзе, як бачыў яго аўтар. Паводле нявесты Дашкевіча, Насты Палажанкі, Змітру давялося дапрацоўваць артыкул ужо ў турме, што, насуперак спадзяванням, апынулася практычна не магчыма — турэмныя цэнзары рэдка прапускалі кіпы раздрукоўак з незразумелымі азначэннямі ды лічбамі; у карцарах, дзе Дашкевіч правёў не адзін месяц, забаронена чытаць і пісаць.

У турме Зміцер вывучае англійскую мову, і вывучае сапраўды па-хрысціянску — па Бібліі! Ён карыстаецца двухмоўнай Бібліяй, на старонках якой англійскі тэкст выкладзены побач з рускім. Канешне, хлопец не абыходзіцца і без спецыялізаваных падручнікаў ды… выкладчыка. Адна з адвакатак Змітра выдатна валодала англійскай мовай і нават у студэнцтве падпрацоўвала ў сталічнай лінгвістычнай школе, а таму на сустрэчах з падабаронным нярэдка абмяркоўваліся не толькі юрыдычныя акалічнасці справы, але і асаблівасці ўжывання артыкляў ды няправільных дзеясловаў. Таму на будучых занятках у школе Зміцер будзе вітацца з дзецьмі правільна, а не фразай: «Хаў а ю, дзеці?»

Міф пра беспрацоўных апазіцыянераў Дашкевіч таксама абвяргае. Прадавачкі на Чэрвеньскім кірмашы дагэтуль памятаюць беларускамоўную тройцу — Змітра Дашкевіча, Артура Фінькевіча і Барыса Гарэцкага (Дашык, Фінік і Бора, як называюць іх сябры), якія ў 2000-х гадах разносілі па кірмашы гарачую каву ды гарбату ў тэрмасах. Зімою Дашкевіч цягаў з Вільні баўлы з калядными цацкамі ды прадаваў іх на мінскіх базарах. Пасля вызвалення ў 2008 годзе Зміцер Дашкевіч працаваў рэдактарам часопіса пры адной з беларускіх недзяржаўных арганізацый, а перад выбарамі ў 2010 годзе вучыўся… усталёўваць жалезныя дзверы! «Мы пралічылі, што гэта не вельмі цяжкая, аднак прыбытковая справа, таму думалі нават рэгістравацца ІП. Грамадскай дзейнасцю грошай сумленна не заробіш», — тлумачыць Наста Палажанка.

Цяпер Зміцер Дашкевіч жыве паміж камерай крытага тыпу і карцарам, таму да працы ў турме яго не прыцягваюць. Падчас мінулага зняволення хлопец, маючы хранічную хваробу спіны, працаваў на лесапавале. Грошай, зробленых за паўтара года штодзённай турэмнай працы, хапіла толькі на некалькі кубкаў вакзальнай гарбаты ды простае печыва, якім ён частаваў сяброў, што прыехалі сустракаць яго з калоніі.

## Дашкевіч — Севярынцу: «Пайшоў ты са сваім загадам!»

Заснавальнік «Маладога фронту» Павал Севярынец прыгадвае, што падчас першага знаёмства са Змітром той яго… паслаў куды падалей. Гэтую забаўную гісторыю Севярынец падрабязна апісаў у кнізе «Маладафронтаўцы»: «Мы пазнаёміліся ў камеры на Акрэсціна пасля Дня Волі–2002. Тады, пасля мітынгу з кветкамі і спевамі ля помніка Янку Купалу, АМАП перакрыў выхады з парку, і арганізатары абвясцілі: разыходзімся. Маладафронтаўцы, якія не ўяўлялі сабе Дня Волі без шэсця, прапачыліся скрозь кардон, узнялі сцягі і павялі людзей праспектам. Каля скрыжавання з Варвашэні (цяпер пр. Машэрава — Т. Ш.) да мяне падляцеў падпалкоўнік Гірэль: «Прыбярыце сцягі! Зараз выставім кардон; без сцягоў прапусцяць, з імі — не! Будзе хапун!» І праўда, праз паўхвіліны ўпоперак праспекту пашыхтаваўся АМАП. Свята ўсё-такі ж, думаю. Усім, хто нясе сцягі, камандую: «Згортваем. Падымаем пасля скрыжавання». Згарнулі амаль усе, і толькі наперадзе з самым вялікім палотнішчам працягвае ісці шараговы маладафронтавец Зміцер. «Згортвай сцяг!» — крычу яму. Ён на секунду прыпыняецца, глядзіць на мяне яснымі вачыма: «Гэта не сцяг». «А што гэта?!» — «Гэта нацыянальная святыня!» І рушыць далей. На Змітра шыкаюць усе вакол, Гірэль літаральна вісне на руках. «Загад згарнуць!» — раву яму на вуха. «Пайшоў ты са сваім загадам», — сцяўшы зубы і падымаючы сцяг вышэй, адказвае Дашкевіч. Кардон пераходзіць у наступ. Змітра за рукі-ногі ледзь заносяць у аўтобус чацвёра здаравенных амапаўцаў… У той дзень усе расейскія тэлеканалы паказвалі разгон дэманстрацыі. Дзясяткі мільёнаў даведаліся пра БНР, бачылі бел-чырвона-белы сцяг і яшчэ раз пачулі: «Жыве Беларусь!». У нашай камеры ўдзельнікі акцыі вырашылі аднадушна: менавіта Зміцер Дашкевіч выратаваў Дзень Волі».

Старшынёй «Маладога фронту» Зміцер стаў у 2004 годзе (супольна з Сяржуком Бахуном). У моладзевай арганізацыі распачалася татальная рэфармацыя, на якую, паводле Паўла Севярынца, у мінулага кіраўніцтва не хапала духу. Канешне, ніхто нікога не выключаў за ўжыванне алкаголю ці паленне, аднак з таго моманту сталі асабліва культывавацца не толькі дэмакратычныя прынцыпы, але і хрысціянскія каштоўнасці. «Малады фронт» набыў новыя рысы, за якія цяпер яго часта называюць сектаю, а Дашкевіча — галоўным сектантам ды інквізітарам.

Асабіста даводзілася чуць, як Дашкевіч размаўляе з маладзёнамі, якія ставіліся абыякава да беларушчыны, негатыўна — да любых праяваў рэлігіі, аднак шчыра хацелі дзейнічаць на карысць Беларусі. Зміцер Дашкевіч не цягнуў іх за руку ў царкву, не прымушаў размаўляць па-беларуску, не ўшчуваў за апухлы твар пасля ўчорашняй папойкі з сябрамі. Ён распавядаў пра сябе — пра тое, як не любіў нацыянальную сімволіку да рэферэндуму ў 1996 годзе, калі быў прыбраны бел-чырвона-белы сцяг, — гэтая падзея зварухнула яго свядомасць. Пра тое, як смяяўся з веры ў Бога сваіх сяброў-пратэстантаў. Пра тое, як па запрашэнні гэтых самых сяброў у першы раз прыйшоў у пратэстанцкую царкву «Ян Прадвеснік» (вернікам якой цяпер з'яўляецца), так бы мовіць, з бадуна.

Гэтыя апавяданні былі асабліва каштоўныя, бо кожны разумеў — не святыя гаршчкі лепяць. Словы падмацоўваліся справамі. Зміцер часта нароўні з паплечнікамі ўдзельнічаў у маладафронтаўскіх акцыях накшталт збору подпісаў ці вывешвання сцягоў, у якіх, падаецца, старшыні арганізацыі зусім неабавязкова браць удзел. Калі ў лістападзе 2008 года 18-гадовую Насту Палажанку затрымалі за антыкамуністычную акцыю і нечакана адправілі на Акрэсціна (быў жа перыяд «лібералізацыі»), Зміцер у РАУСе пад зайздрослівыя позіркі міліцыянтак аддаў дзяўчыне сваё цёплае паліто, а сам застаўся ў адной кашулі.

Чытач, напэўна, здзівіцца, што мы апусцілі гісторыю рамантычнага кахання Змітра Дашкевіча і Насты Палажанкі — пра гэта ўжо шмат напісана, дык і яны не любіць афішаваць свае стасункі. Разлуку дапамагаюць перажываць штодзённыя ліставанні. Зміцер дасылае напісаныя каляровымі асадкамі лісты на квяцістай паперы ў капэртах, упрыгожаных налепкамі ды пяшчотнымі допісамі. Наста скаччае свае лісты чырвонымі пацалункамі, зробленымі губной памадаю, ды пырскае на капэрты духі. Можна падумаць, што гэта перапіска закаханых пяцікласнікаў, калі не ведаць, што Змітру і Насце дагэтуль не дазволілі пабрацца шлюбам, яны не бачыліся амаль 2 гады…

Яшчэ шмат чаго цікавага можна было б распавесці — пра любімае кацяня Леапольда, пра сад, пасаджаны хлопцам, пра шторанішнюю зарадку на вуліцы. Усё гэта часова сышло ў гісторыю. Цяпер зарадку Зміцер Дашкевіч робіць у душнай камеры. Жвавы Леапольд за 2 гады без гаспадара ператварыўся ў лянівага ката. У гэтым годзе на дрэвах, пасаджаных Зміцерам Дашкевічам, упершыню з'явіліся яблыкі. Ці хутка ён пакаштуе іх сам?

ПАМЯЦЬ

# ПАМЕРЛЫЯ ГЛЯДЗЯЦЬ НА «СВЯТА ЖЫЦЦЯ»

Алена БАРЭЛЬ

**Рэстаран і лазню «Бульбаш Хол» пад бокам Курапатаў амаль дабудавалі. Хутка адкрыццё. Вынікае, што ахоўная зона — недарэчная памылка, якую заўсёды можна выправіць?**

## Усё ідзе па плану

*«Мы вплетаемся в город, в его кровеносную систему»,* — мудрагелістым шрыфтам напісана ў рэкламнай «споведзі» на сецевай старонцы ўладальнікаў «Бульбаш Хола» — nrg.by. *«У нас долгий и продуманный план»,* — паведамляюць стваральнікі буйнога рэстарана з лазняй на костках. — *«Каждый шаг — фундамент для следующего».*

Чарговы «фундамент» для наступнага «кроку» будзе ўяўляць сабой *«ресторан на 400 посадочных мест с живой музыкой, большую баню с банкетным залом, беседки, отдельные домики и детский городок»* — на жаль, у рэкламе не ўдакладняецца месцазнаходжанне комплексу, толькі пазначана сціпла-абагульняючае «МКАД».

Мяркуючы па палітыцы ўжо існуючых рэстаранаў і кавярняў НРГ — «Кушавель», «Тусэ», «Дача» — да крыжовай ціўшыні Курапатаў з боку «Бульбаш Хола» апрача музычных хітоў, п'янага смеху з банкетаў і дзіцячага віску з горак, будуць даносіцца крыкі заўзятараў футбола і пах кальяна.

Кандыдат гістарычных навук, спецыяліст па масавых рэпрэсіях і рэабілітацыі ахвяраў тэрору, лідар міжнароднай арганізацыі «Мемарыял» у Беларусі Ігар Кузняцоў абураны ганебным «суседствам» і таптаннем памяці. Ён распавядае НЧ пра парушэнні і падкарэктоўкі чыноўнікаў у гэтай справе.

— Існуе дакумент, які быў створаны яшчэ падчас першай і другой эксгумацый парэштак з Курапатаў, — кажа гісторык. — Археолагі Інстытута гісторыі складалі схему пахаванняў, яе копія ёсць і ў мяне. Згодна ёй, пахаванні распасціраюцца на тэрыторыю нашмат далейшую за Курапацкі лес — нават аўтазаправачная станцыя, паміж якой і лесам зараз будуецца «Бульбаш Хол», месціцца на костках...

— Але як у свой час улады далі згоду на будаўніцтва гэтай АЗС?

— У сувязі з тым, што гэтую схему археолагаў чыноўнікі праігнаравалі, з'явілася запраўка. Наогул, гэтая гісторыя пачалася ў 2001 годзе, калі пашыралі кальцавую дарогу, і адбылося супрацьстаянне ўладаў і грамадскасці. Пасля гэтага, добра памятаю, у газетнай рэкламе з'явілася наступная аб'ява: «Будаўніцтва катэджнага мястэчка «Сонечны» ў экалагічна чыстай зоне». Дык вось, «Сонечны» мусіў знаходзіцца менавіта на полі паміж Курапатамі і «Аквабелам». Мы распачалі разнастайныя меры супраць будаўніцтва, сустракаліся з чыноўнікамі, звярталіся ва ўсялякія інстанцыі. І гэтае пытанне заўважылі зверху і не дазволілі будаўніцтва.

Ахоўныя зоны Курапатаў мы лічым умоўна па перыметру лесу: з боку «Аквабела» па краі поля, дзе стаяць крыжы, з боку Заслаўскай шашы, з боку Зялёнага Лугу — лес паміж кальцавой дарогай і шматпавярховікамі, якія стаяць перад мяжой ахоўнай зоны.

Дарэчы, Заслаўская шаша стаіць на пахаваннях, і нават за ёй іхняя колькасць складае не менш, чым у цэнтральнай частцы саміх Курапатаў! І катэджная забудова Цна, што справа ад Заслаўскай шашы, таксама закранае пахаванні.

Усе згаданыя вышэй межы пахаванняў улады праігнаравалі, усталяваўшы іх толькі па краю лесу. Але нават і ў гэтым выпадку атрымліваецца, што ахоўная зона павінна быць не менш за 50 метраў ад мяжы пахаванняў. Аднак ад бліжэйшай хвоі да сметніка і кучаў пяску з будаўніцтва «Бульбаш Хола» не будзе і такой адлегласці. 50 метраў для ахоўнай зоны — гэта самае мінімальнае, звычайна — 100–200 метраў. Тым больш, што Курапаты — найбуйнейшыя могілкі ў Беларусі, ніводныя могілкі не змяшчаюць столькі пахаванняў, як там. Паводле самых сціплых падлікаў, ва ўрочышчы знаходзяцца рэшткі ад 30 тысяч да 200 тысяч забітых падчас рэпрэсій людзей. Атрымліваецца, што «Бульбаш Хол» адчыняецца на костках, і ягоныя кліенты будуць задавальняць свае, як гаворыцца, свінскія юрлівасці і капрызы побач з магіламі, калі не на іх саміх. Гэта як з гледзішча маралі — натуральна?.. Навет калі ніхто не ведае, не чуў пра Курапаты, гэта не змяняе сутнасці справы. Зноў жа, пытанне да будаўнікоў: калі будуеш, няўжо не звяртаеш увагі на шматлікія крыжы побач? І, канешне, уладар гэтай забаўляльнай установы мусіць задаць сабе тое ж пытанне, — мяркуе Ігар Кузняцоў.



Фота аўтара




## Госці ад чорта

Каля двух месяцаў таму да навуковага кіраўніка мемарыяльнай зоны «Курапаты» і дачкі рэпрэсаванага паэта Маі Кляшторнай завіталі госці, якія прывялі прадстаўніка інвестара рэстараннага комплексу.

— Маладзёны хацелі, каб я паставіла свой подпіс на іх праекце — дала згоду на будаўніцтва іх аб'екту ў ахоўнай зоне, — кажа Мая Тодараўна. — Зразумела, я нічога не падпісала, а вось Міністэрства культуры ім дало дазвол. Паўтаралі мне ўсё: «А хто зараз ведае пра вашыя Курапаты? Мы пыталіся ў суседзяў, сяброў — ніхто нічога не ведае!»

Калі на наступны дзень я даведалася, які ж аб'ект дакладна яны збіраюцца адчыняць каля месца масавых расстрэлаў і пахаванняў, то захварэла — у мяне адняліся ногі, — кажа жанчына праз слёзы. — Калі мы жывы, і на нашых вачах такое робіцца — жах... Толькі нядаўна здолела ўстаць з ложку, зараз ужо па хаце хаджу, дабралася і да Екацярынінскай царквы (Свята-Петрапаўлаўскі сабор — А.Б.).

**Гісторык Ігар Кузняцоў: «Бульбаш Хол» адчыняецца на костках, і ягоныя кліенты будуць задавальняць свае, як гаворыцца, свінскія юрлівасці і капрызы побач з магіламі, калі не на іх саміх**

## 200 метраў як карова злізала?

Па словах навуковага кіраўніка мемарыялу «Курапаты», ахоўная зона вакол урочышча складае 300 метраў. Гэтую лічбу потым праігнаравала, не зацвердзіўшы праект, Міністэрства культуры падчас спробы будаўніцтва катэджнага мястэчка «Сонечны», пра якое ўжо казаў гісторык Ігар Кузняцоў.

— Паводле папераў Мінкульта, гэтая зона зараз — 100 метраў, скарацілі ў тры разы, падсунулі сваю, не распрацаваную спецыялістамі, схемку, — адзначае Мая Кляшторная. — З кім яна ўзгаднялася і хто канкрэтна даваў дазвол, спытайцеся ў Мінкульце, у Чарняўскага. Але адлегласць паміж лесам і краем «Бульбаш Хола» зараз менш і за тое. Ахоўная зона Курапатаў — самае цяжкое і балючае для мяне пытанне. І Мінкульт, і Камітэт архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкаму даюць дазвол на будаўніцтва ў ахоўнай зоне. Са мной, як з навуковым кіраўніком, ніхто гэтае пытанне не ўзгадняў.

Такім чынам, і згаданая раней АЗС таксама ўвайшла ў сапраўдную, а не па міністэрскіх паперах, ахоўную зону.

Апрача таго, Курапаты павінны мець супрацьпажарны праект, што таксама даўно ўжо парушана. Болей за тое, будаўнікі «Бульбаш Хола» кучамі пяску засыпалі адзіны ўезд у Курапаты.

— Як вы лічыце, з гледзішча маралі, ці можна будаваць забаўляльныя комплексы побач з месцамі масавых пахаванняў?

— Нельга ў ніякім разе! Тым больш, што ніхто з уладаў не цікавіўся меркаваннем грамадскасці. Між тым, Курапаты сёння даглядаюцца толькі дзякуючы плённай працы грамадскіх актывістаў, звычайных людзей. Ні Міністэрства культуры, ні Міністэрства архітэктуры, ні Мінгарвыканкам — ніхто з іх не зрабіў унёску ў захаванне памяці у Курапатах. Нядаўна я пачула ад аднаго інвестара, што тутэйшыя землі прадаюцца на зачыненых аўкцыёнах, так атрымалася і з зямлёй побач з Курапатамі.

## Што адказаў чыноўнік

Ці ўвайшоў «Бульбаш Хол» у ахоўную зону? На падставе якога выраку вылучаўся ўчастак пад будаўніцтва аб'екта, і хто даў дазвол? З гэтымі пытаннямі я звярнулася да чыноўніка, які мусіць мець непасрэднае дачыненне да справы, — начальніка ўпраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Беларусі Ігара Чарняўскага.

Размова атрымалася цікавай — Ігар Мяфодзьевіч увесь час перапытваў, здзіўляўся, жартаваў, кашляў, уздыхаў, раздражняўся, а я адчувала сябе амаль следчым НКУС ці гестапа, які выцягвае адказы абцугамі.

***— Ігар Мяфодзьевіч, вы, напэўна, у курсе будаўніцтва «Бульбаш Хола» каля Курапатаў...***

— Будаўніцтва чаго?..

***— Рэстараннага комплексу. Ці ўваходзіць гэты аб'ект у ахоўную зону?***

— Які? Рэстаран ці Курапаты?

***— Вядома ж, рэстаран.***

— Там ёсць ахоўная зона, зона рэгулявання забудовы, зона ахоўна-прыватная. Да нас, напрыклад, па рэстаранах ніхто не звяртаўся...

***— Зараз ідзе гаворка пра «Бульбаш Хол».***

— Я ж не ведаю... Я па рэстаранах не хаджу, у мяне столькі працы, што няма калі займацца рэстаранамі.

***— Ну, як гэта — не ведаеце? Упрытык да Курапатаў, па кальцавой шашы, ён там адзін такі.***

— Назва мне нічога не гаворыць, мне трэба ведаць месца... Некалі ўзгаднялася пытанне па будаўніцтву ў зоне рэгулявання забудовы. Але гэты рэстаран, не гэты...

***— Менавіта гэты. Значыць, ён уваходзіць у зону рэгулявання забудовы? Дык на падставе якога выраку, хто і калі даў на гэта дазвол?***

— Я не ведаю, першы раз пра гэты рэстаран чую — ад вас. Трэба паднімаць дакументы. Гэта было, дай Бог памяці, чатыры ці пяць год таму.

***— Дык усё ж узгадалі? Вынікае, што Міністэрства культуры тады выдала дазвол на будаўніцтва...***

— Ну, адкуль я ведаю? Вы — вельмі дзіўныя людзі! Гэта пяць гадоў таму было, я што, павінен усё памятаць? У нас штогод праходзіць па 500 узгадненняў. Трэба паднімаць дакументы ў архіве.

***— Згодна, давайце іх паднімем. Вы мне дапаможаце?***

— Звяртайцеся ў Міністэрства культуры.

...Прабачце, а з супрацоўнікам якой установы я зараз размаўляла? З дыспетчарам па рамонце ліфтаў?

ЯК ЖЫВУЦЬ НАШЫ СУСЕДЗІ

# НАВЫКІ СУМЯШЧЭННЯ: САВЕЦКАЯ СПАДЧЫНА І ЕЎРАПЕЙСКАЯ БУДУЧЫНЯ

Вольга ХВОІН

**Адна з бліжэйшых да Беларусі краін — Латвія — ахутаная міфамі і стэрэатыпамі. Выпраўляючыся ў падарожжа ў нашу прыбалтыйскую суседку, давялося грунтоўна падрыхтавацца, каб не глядзець на краіну і яе жыхароў выключна праз прызму медыйных штампаў, як то: «рускамоўных у Латвіі хіба што камянямі не б'юць», «фашысты маршыруюць вуліцамі», а «Рыга — ідэальны горад для сярэднявечнай натуры ў кінаіндустрыі». Але рэальнасць сама развенчвае ўсе гэтыя міфы, як толькі ступаеш на рыжскі перон.**



Рыга, стары горад

## Этнічныя спрэчкі

Паўсюль чуваць рускую мову. Латышская — рэдкая ў побыце, нават у Вільні літоўская мова значна больш распаўсюджаная сярод мясцовых жыхароў. Адпаведна, і праблем з паразуменнем тут няма, нават калі ведаць толькі рускую. Калі ж раптам надарыцца нечаканасць, і ў сферы абслугоўвання (да прыкладу, у кавярні) афіцыянт не зможа з вамі гаварыць па-руску, англійская мова без праблем дапаможа паразумецца. Цікавы штрых: на бэджах у тых жа афіцыянтаў, апроч імя, пазначана, якімі мова валодае чалавек.

Распаўсюджанасць рускай мовы ў Латвіі абумоўленая гісторыяй краіны. Калі ў 1991 годзе Латвія атрымала незалежнасць, то суадносіны латышоў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў былі ў прапорцыі прыблізна 50 на 50 працэнтаў. Рускія, паводле перапісу 1989 года, складалі 34% насельніцтва ў Латвійскай ССР і былі найбуйнейшай нацыянальнай меншасцю ў рэспубліцы. 73% рускага насельніцтва Латвіі пражывалі ў гарадах. Рускія сярод насельніцтва Рыгі складалі 47%, Даўгаўпілса — 58,3%

Другой па колькасці этнічнай меншасцю ў Латвіі былі і застаюцца беларусы. У 1989 годзе беларусаў у Латвіі пражывала амаль 120 тысяч, цяпер прыблізна 70 тысяч. Фактычна, кожны мой суразмоўца распавядаў ці пра свае беларускія карані, ці пра жонку-беларуску, ці пра суседзяў-беларусаў.

## 20 гадоў вакол адной тэмы

Натуральна, такі этнічны склад насельніцтва ўплывае на моўны стан у дзяржаве. Афіцыйная мова ў Латвіі — латышская, але не так даўно зноў на дзяржаўным узроўні было ўзнятае пытанне пра статус рускай мовы. На нацыянальным рэферэндуме наконт увядзення рускай мовы



Прафесар Андрыс Спрудс

ў якасці другой дзяржаўнай рускамоўная суполька паказала значныя вынікі: 25% галасоў «за» ў цэлым па краіне, каля 40% — у Рызе, і больш за 50% — у адным з чатырох рэгіёнаў краіны, Латгаліі. Да слова, цяпер прыблізна 15% насельніцтва Латвіі не маюць статусу «грамадзянін» і, адпаведна, не могуць галасаваць. Да ведама, трацiна насельніцтва Латвіі — больш за 700 тысяч чалавек, якія пражывалі тут на момант аднаўлення незалежнасці, атрымалі статус «неграмадзянаў», а яшчэ 160 тысяч чалавек, у асноўным прапісаныя ў інтэрнатах або ў дамах ваеннага ведамства, апынуліся «нелегаламі». Цяпер у Латвіі 300 тысяч жыхароў маюць статус «неграмадзянаў». Але да тонкай тэмы «неграмадзянаў» вернемся пазней, бо гэта цэлы пласт палітычных рашэнняў, гістарычнай спадчыны і ментальнасці людзей.

Канешне, 25% галасоў у падтрымку дзяржаўнага статусу рускай мовы недастаткова. Таму афіцыйнай мовай застаецца латышская. Староннямy позірку гэтыя моўныя жарсці праз 20 гадоў ад набыцця незалежнасці падаюцца дзіўнымі, бо варта было б не таптацца на месцы вакол тэмаў мовы і грамадзянства, а рухацца далей у развіцці, тым больш свет робіцца ўсё больш глабальным, вырасла новае пакаленне, якое на мовы глядзіць як на сродак камунікацыі і інструмент для свайго росту, а не выключна як на этнічную прыкмету.

Прафесар Рыжскага ўніверсітэта, кіраўнік Латвійскага інстытута міжнароднай палітыкі Андрыс Спрудс прызнае, што ў Латвіі асабліва стаўленне да этнічнай тэмы, але і па нацыянальных». «Але гэта не выключна латышскі феномен, пытанні нацменшасцяў ёсць у многіх краінах, хіба што не заўсёды ёсць такі градус. У Беларусі, наколькі я ведаю, ёсць моцная супольнасць польскай этнічнай меншасці, — адзначае Андрыс Спрудс. — Пытанні меншасцяў рэдка бываюць простымі, асабліва ў дзяржавах, якія не так даўно атрымалі суверэнны статус. Ведаеце, той факт, што пытанне мовы было пастаўлена ў палітычную плоскасць і яго паспрабавалі цывілізавана вырашыць — пазітыўная з'ява. Людзі пайшлі галасаваць, каб выказаць сваю пазіцыю, а не на вуліцу. Гэта нармальна».

Прафесар Андрыс Спрудс падкрэслівае, што этнічная сітуацыя не ёсць такой трагічнай, як тое часам паказваюць медыя. «Напачатку 1990-х гадоў тут была няпростая сітуацыя, бо суадносіны латышоў і нелатышоў у краіне былі прыкладна 50 на 50 працэнтаў. Але цяпер у нас ёсць выдатны прыклад — Ніл Ушакоў, мэр Рыгі. За ўсю гісторыю Рыгі ніколі яе мэрам не быў этнічны рускі. І цяпер мы маем прыклад, калі нелатыш паводле нацыянальнасці, «неграмадзянін» у мінулым паспяхова прайшоў працэс натуралізацыі, пацвердзіў веданне мовы, гісторыі і стаў кіраўніком горада. Гэта пазітыўны прыклад для тых, хто песімістычна глядзіць на этнічнае пытанне ў Латвіі», — адзначае спадар Спрудс. Ён гаворыць, што за 20 гадоў усталяваліся «правілы гульні», і цяпер было б нелагічна карэнным чынам ламаць усю сістэму. «Значна важней інтэграваць тых, хто прайшоў працэс натуралізацыі, заахвочваць да гэтага іншых, паказваць, што гэтыя людзі могуць уплываць на жыццё ўнутры краіны», — рэзюмуе прафесар.

Між іншым, блізкасць да Расіі і моцны ўплыў расійскага інфармацыйнага поля робяць свой унёсак у этнічныя канфлікты. Да слова, «неграмадзяне» Латвіі маюць магчымасць без візаў ездзіць у Расію, шлях у краіны ЕС для іх абмежаваны візавымі працэдурамі.

## Не мець ілюзій

Для тых, хто сімпатызуе заходняму кірунку знешняй палітыкі, сяброўства ў ЕС можа падавацца ў пэўным сэнсе чароўнай палачкай, што ўмомант вырашыць усе праблемы. Між іншым, падобныя погляды (праўда, пакуль без ідэі сяброўства ў Еўрасаюзе) можна пачуць і ад беларускіх палітыкаў. Але досвед Латвіі паказвае, што сяброўства ў клубе моцных не робіць аўтаматычна такой жа краіну.

Ад 2004 года Латвія з'яўляецца паўнапраўным сябрам Еўрасаюза, уваходзіць у шэнгенскую зону. Да сусветнага эканамічнага крызісу ў Латвіі назіраўся актыўны рост дабрабыту, «тлустыя гады» — кажуць пра гэты перыяд мясцовыя палітыкі. Але ў 2009 годзе ВУП Латвіі ўпаў на 17,8% — гэта самы горшы паказчык дынамікі ВУП у свеце. Цяпер паступова Латвія выбіраецца з эканамічнага абвалу, засвоіўшы яго ўрокі.

Але ў краіне ёсць некалькі істотных праблемных пунктаў. Так, агенцтва TNS, тэлекампанія LNT і перадача «900 секунд» правялі апытанне, у якім удзельнічалі 700 жыхароў Латвіі. Найбуйнейшымі праблемамі дзяржавы яе грамадзяне назвалі беспрацоўе, карупцыю, эміграцыю і імклівы рост цэн. Толькі 11% рэспандэнтаў назвалі праблемай нізкі ўзровень адукацыі ў краіне, 7% — неэфектыўную працу праваахоўных органаў, 1% — нізкі ўзровень даходаў жыхароў Латвіі. Пры гэтым дзве трацiны жыхароў Латвіі ацэньваюць сваё матэрыяльнае становішча і сваіх сем'яў як дрэннае ці вельмі дрэннае.

Адкрытыя межы даюць права свабоды і выбару, таму вялікая колькасць жыхароў Латвіі задумваецца наконт эміграцыі. Людзей працаздольнага ўзросту эмігруе з Латвіі ў пяць разоў больш, чым прыязджае ў краіну. Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне рэспублікі паведамляе, што з 2000 па 2012 гады з Латвіі з'ехалі 211,4 тысячы жыхароў, а ўсяго насельніцтва краіны скарацілася на 340 тысяч чалавек. Скарачэнне колькасці на 128,6 тысячы чалавек адбылося з-за перавышэння смяротнасці над нараджальнасцю.

Сёлета ж эксперт Арганізацыі аб'яднаных нацый Сепхас Луміна ў сваёй справаздачы па Латвіі адзначыў, што найбольш праблемнымі момантамі ёсць нізкі ўзровень жыцця, міграцыя і дэмаграфія. Міграцыйныя працэсы назіраюцца фактычна ва ўсіх краінах-сябрах ЕС, якія саступаюць у сваім развіцці краінам Старой Еўропы — Германіі, Брытаніі, Францыі. Праблема масавага ад'езду людзей эканамічна актыўнага ўзросту на працу і потым на ПМЖ ёсць у Польшчы, Літве, Славакіі, Чэхіі. Але, як падкрэсліваюць эксперты, рашэнне палягае не ў закрыцці межаў ды будаванні муроў, а ў стварэнні на месцы канкурэнтных працоўных месцаў, якія будуць прывабнымі для людзей.

«Сяброўства ў Еўрасаюзе дало нам магчымасці выбару — дзе жыць, працаваць, вучыцца. У 1990-я гады, калі я быў студэнтам, у нас не было столькі магчымасцяў, каб выехаць на Захад, былі патрэбныя візы. Цяпер жа дастаткова сесці ў машыну — і чалавек можа рухацца куды заўгодна. Для мяне, маёй сям'і гэтыя рэчы вельмі важныя. Мы сталі больш глабальнымі і менш правінцыйнымі, — разважае прафесар Рыжскага ўніверсітэту Андрыс Спрудс. — Мяркую, прынцып «Think global, act local» у нас добра працуе, мы атрымалі дынаміку да развіцця. Да таго ж пакуль мы былі проста суверэннай дзяржавай, то заўсёды недзе падсвядома існавала думка, што Латвія — маленькая краіна, а ёсць вялікая суседка Расія, якая можа на нас уплываць. Заўсёды заставалася можа быць не артыкуляванае пытанне бяспекі. Цяпер жа, калі мы частка ЕС, NATO, пытанне бяспекі адышло. Гэта дазваляе нам ісці далей, не азіраючыся на нейкія ўнутраныя трывогі».

У наступных выпусках «Новага часу» чытайце ў працяг латышскай тэмы пра настальгію па вялікаму ўсесаюзнаму мінуламу, пра жыццё ў дэнацыяналізаваным доме без святла і ацяплення, адкрытасць вялікага свету і зайздрасць да стваральнікаў skype.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 29 КАСТРЫЧНІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Вакол планеты.
**11.25** Журналісцкае расследаванне.
**12.10** Моладзевая камедыя «Краіна садоў» (ЗША).
**14.05** Мультфільм «Адважнае аленяня».
**14.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**16.35** Драма «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**17.35** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.30** Камандзіроўка.
**18.45, 23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.05** Дзень спорту.
**00.20** Моладзевая камедыя «Краіна садоў» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** АНТ прадстаўляе: «Сардэчна запрашаем у Беларусь».
**12.00** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Самая абаяльная і прывабная».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.55** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** «Вячэрні Ургант».
**23.55** «Без сведак».
**00.25** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Іншая краіна».
**15.10** Канцэрт М.Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** Фільм «Паляванне за ценем». Украіна, 2005 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.05** «Пякельная кухня».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.40** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**11.55** Лірычная камедыя «Дзеці Дон-Кіхота» (СССР).
**13.30** Вышэйшая мера.
**14.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.50** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі».
**15.30** Дэтэктыў «Развод і дзявоцкае прозвішча» (Расія). 1-я серыя.
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Развод і дзявоцкае прозвішча» (Расія). 1-я серыя.
**22.40** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі».
**23.15** Авертайм.
**23.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Усё будзе добра!».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «На сонечным баку вуліцы».
**22.20** Тэлесерыял «Санта Лючыя».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Маляваць, потым спяваць». Муслім Магамаеў.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Праграма Максімум «.
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.05** «Справа густу».
**15.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Брацянікі-3».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Пятніцкі».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Вострасюжэтны серыял «Асноўная версія».

### EUROSPORT

**00.00** Тэніс: Выніковы чэмпіянат WTA. Стамбул - Фінал.
**01.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 1.
**09.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 2.
**11.00** Тэніс: Выніковы чэмпіянат WTA. Стамбул - Фінал.
**12.00** Тэніс: «Матс пойнт».
**12.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 2.
**13.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 2.
**16.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 2.
**17.30** Тэніс: Выніковы чэмпіянат WTA. Стамбул - Фінал.
**18.30** Футбол: Еўрагалы.
**19.15** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 2.
**20.15** Тэніс: Выніковы чэмпіянат WTA. Стамбул - Фінал.
**21.15** Тэніс: «Матс пойнт».
**21.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**22.00** Пра рэстлінг.
**22.30** Пра рэстлінг.
**23.30** Футбол: Еўрагалы.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.20** Зона «Свабоды».
**07.55** Навігатар.
**08.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.35** Дак. гадзіна: «Молатаў: цень Сталіна», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**09.30** Два на два (тэледыскусія).
**09.55** Euromaxx.
**18.00** Назад у будучыню.
**18.10** Вагон.
**18.20** Еўропа сёння.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** «Апантаныя», дак. цыкл.
**19.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.25** Эксперт.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Не прапусці! (параднік гледача).
**21.45** Фільматэка майстроў: «Грамадзянін Гавэл», 2008 г., Чэхія.
**23.50** Аб'ектыў.
**00.15** Маю правы (юрыдычная праграма).
**00.35** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 30 КАСТРЫЧНІКА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.15** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**10.20** Камандзіроўка.
**10.35** Таямніцы следствы.
**11.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.10** Дакументальны фільм «Валянцін Елізар'еў. Люстэрка часу».
**13.25** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе!» (Аўстралія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.20** Медычныя таямніцы.
**16.45** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**17.35** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Пры загадкавых абставінах» (Украіна).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Рэальны свет.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.00** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смеху дзеля».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Развод». Шматсерыйны фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** «Вячэрні Ургант».
**00.15** «Без сведак».
**00.45** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**08.40** Фільм «Паляванне за ценем». Украіна, 2005 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** Фільм «Саламон Кейн». Францыя-Чэхія-Вялікабрытанія, 2009 г.
**15.45** «Дарогі лёсу: Мікалай Чаргінец». Дакументальны фільм.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінршчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Чалавек ніадкуль». СССР, 1961 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Аўтапанарама».
**23.30** «Дэтэктыўныя гісторыі».
**00.00** «Доктар Тырса». Серыял.
**00.50** «Прагнасць».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**11.05** Авертайм.
**11.35** Цела чалавека.
**12.15** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**13.10** Школа рамонту.
**14.50** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі».
**15.30** Дэтэктыў «Развод і дзявоцкае прозвішча» (Расія). 2-я серыя.
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Серыял «Сяброўка Восень» (Беларусь-Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Развод і дзявоцкае прозвішча» (Расія). 2-я серыя.
**22.40** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі» (Расія).
**23.20** Драма «Дзюба-Дзюба» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Усё будзе добра!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Пакой смеху».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Чужы твар».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Серыял «На сонечным баку вуліцы».
**22.20** Тэлесерыял «Санта Лючыя».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Серп супраць свастыкі. Сутычка гігантаў».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Брацянікі-3».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Пятніцкі».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Серыял «Асноўная версія».

### EUROSPORT

**00.15** Тэніс: Выніковы чэмпіянат WTA. Стамбул - Фінал.
**01.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 2.
**09.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 3.
**11.00** Футбол: Еўрагалы.
**11.45** Тэніс: Выніковы чэмпіянат WTA. Стамбул - Фінал.
**12.45** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 3.
**13.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 3.
**16.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 3.
**17.30** Футбол: Еўрагалы.
**18.15** Тэніс: Выніковы чэмпіянат WTA. Стамбул - Фінал.
**19.45** Тэніс: «Матс пойнт».
**20.15** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 3.
**22.00** Бокс: Чэмпіён свету па версіі IBF.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** «Апантаныя», дак. цыкл.
**07.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Эксперт.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Не прапусці! (параднік гледача).
**09.45** Еўропа сёння.
**17.55** «Апантаныя», дак. цыкл.
**18.05** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**18.15** На колах.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.20** Відзьмо-невідзьмо.
**20.00** Студыя «Белсат».
**20.30** Асабісты капітал.
**20.50** Вагон.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Глыбокая вада», серыял: 8 серыя.
**22.30** Форум (ток-шоў).
**23.15** Аб'ектыў.
**23.45** Невядомая Беларусь: «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**00.25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 31 КАСТРЫЧНІКА, СЕРАДА

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**11.00** Дэтэктыўны серыял «Пры загадкавых абставінах» (Украіна).
**12.15** Рэальны свет.
**13.25** Дакументальны серыял «Самабытныя культуры» (Германія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.25** Каробка перадач.
**17.00** Заўтра - гэта мы!
**17.35** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.30** Адмысловы рэпартаж.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Пры загадкавых абставінах» (Украіна).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Рэальны свет.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.00** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смеху дзеля».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Развод». Шматсерыйны фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** «Вячэрні Ургант».
**00.15** «Без сведак».
**00.45** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.00** Фільм «Чалавек ніадкуль». СССР.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** «Не хлусі мне!».
**14.45** «Доктар Тырса». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Птушка шчасця». Украіна, 2006 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Дабро пажаліцца».
**23.30** «Мінск і мінчане».
**00.00** «Доктар Тырса». Серыял.
**00.50** «Дзіўная справа».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Наперад у мінулае.
**10.45** Гістарычная драма «Магіла льва» («Беларусьфільм»).
**12.25** Цела чалавека.
**13.00** Серыял «Сяброўка Восень» (Беларусь-Расія).
**14.55** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі» (Расія).
**15.30** Дэтэктыў «Развод і дзявоцкае прозвішча» (Расія). 3-я серыя.
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыў «Развод і дзявоцкае прозвішча» (Расія). 3-я серыя.
**22.45** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі» (Расія).
**23.20** Гандбол.Чэмпіянат Еўропы 2014. Мужчыны. Ісландыя - Беларусь.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Усё будзе добра!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Пакой смеху».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Чужы твар».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «На сонечным баку вуліцы».
**22.20** Тэлесерыял «Санта Лючыя».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Няскончаная вайна Анатоля Папанава».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Браценікі-3».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Пятніцкі».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Вострасюжэтны серыял «Асноўная версія».

### Eurosport

**00.00** Аўта і Мотаспорт.
**00.15** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно - Агляд сезону.
**01.00** Аўтагонкі: Кітай.
**02.00** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 3.
**09.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 4.
**11.00** Аўта і Мотаспорт.
**11.15** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно - Агляд сезону.
**12.00** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 4.
**13.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 4.
**16.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 4.
**18.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**19.30** Усе віды спорту.
**20.00** Футбол: - :Ювентус (Італія) - Манчэстар Сіці (Англія).
**23.00** Усе віды спорту.
**23.30** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**22.35** Конны спорт: Кубак свету. Хельсінкі - Спаборніцтвы па скачках.
**23.35** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**23.40** Гольф: Тур PGA.

### Белсат

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**08.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**18.15** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Таямніца шыфру Марабу».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** Беларусы ў Польшчы.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.45** «Праведнікі», тэлесерыял: 7 серыя.
**22.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**23.00** Аб'ектыў.
**23.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**23.50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 1 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**10.10** Адмысловы рэпартаж.
**10.30** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**11.00** Дэтэктыўны серыял «Пры загадкавых абставінах» (Украіна).
**12.10** Рэальны свет.
**13.20** Мультфільм «Умка».
**13.30** Культурныя людзі +.
**14.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Мультфільм «Умка шукае сябра».
**15.40** Серыял «Добры дзень, мама!».
**16.40** Перазагрузка.
**17.25** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Пры загадкавых абставінах» (Украіна).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Рэальны свет.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.00** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смеху дзеля».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Развод». Шматсер. фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** «Вячэрні Ургант».
**00.15** «Без сведак».
**00.45** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Дабро пажаліцца».
**08.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.00** Фільм «Птушка шчасця». Украіна, 2006 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** «Не хлусі мне!».
**14.45** «Доктар Тырса». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Аголеная зброя». Ганконг.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Аўтапанарама».
**23.30** «Цэнтральны рэгіён».
**00.00** «Доктар Тырса». Серыял.
**00.50** «Хораша жыць».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Вышэй за дах.
**10.45** Страсці па культуры.
**11.30** Вышэйшая мера».
**12.20** Цела чалавека.
**12.55** Меладрама «У Амерыцы» (Ірландыя-Вялікабрытанія).
**14.50** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі» (Расія).
**15.30** Дэтэктыў «Развод і дзявоцкае прозвішча» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Серыял «Сяброўка Восень» (Беларусь-Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Час футболу.
**22.15** Дэтэктыў «Развод і дзявоцкае прозвішча» (Расія). 4-я серыя, заключная.
**23.25** Камедыйны серыял «Дзяўчонкі» (Расія).
**23.55** Меладрама «У Амерыцы» (Ірландыя-Вялікабрытанія).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Усё будзе добра!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Пакой смеху».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Чужы твар».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «На сонечным баку вуліцы».
**22.20** Тэлесерыял «Санта Лючыя».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Характар і хваробы. Хто каго?».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.05** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Брацекікі-3».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Пятніцкі».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Серыял «Асноўная версія».

### Eurosport

**00.35** Гольф: Гольф Клуб.
**00.40** Усе віды спорту.
**00.45** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**00.50** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**01.05** Алімпійскі часопіс.
**01.35** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - Дзень 4.
**09.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - 1/4 фіналу.
**11.00** Футбол: - :Ювентус (Італія) - Манчэстар Сіці (Англія).
**12.00** Усе віды спорту.
**12.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - 1/4 фіналу.
**13.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - 1/4 фіналу.
**16.30** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў - 1/8 фіналу.
**18.00** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў - 1/8 фіналу.
**20.00** Футзала: Кубак свету. Тайланд - Групавы этап: Бразілія - Японія.
**21.00** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай - 1/4 фіналу.
**22.00** Баявыя мастацтвы.: Байцоўскі клуб.

### Белсат

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Беларусы ў Польшчы.
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** Праект «Будучыня».
**17.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.15** Euromaxx.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**19.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 8 серыя.
**22.30** «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 2 серыя, «Марцін Лютэр Кінг. Смерць у Мэмфісе».
**23.15** Аб'ектыў.
**23.40** Два на два (тэледыскусія).
**00.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

**Выпуск №10 (74)**
**(кастрычнік)**

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»

Анонс



**ЛІТКАЛЯНДАР**

# БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ: ВЯРТАННЕ Ў КАЗКУ

**Сёлета распачалася праца над фотапраектам «Беларускі фальклор», скіраваным на прапаганду традыцыйнай культуры ды сучаснай літаратуры і прымеркаваным да 80-гадовага юбілею Саюза беларускіх пісьменнікаў. Паводле задуманага, беларускія пісьменнікі пераўвасабляюцца ў персанажаў народных міфаў, казак і легенд — і сустракаюцца з чытачамі-гледачамі на старонках адмысловага календара. Пра асаблівасці гэтай творчай ініцыятывы, распачатай Саюзам беларускіх пісьменнікаў пры падтрымцы грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма», распавядае яе каардынатар і ўдзельніца — паэтэса Ірына Хадарэнка.**

Фота Валерыя Дубоўскага



«Міфалагічна-літаратурны» стоп-кадр: Анатоль Вярцінскі і Ірына Хадарэнка

***— Спадарыня Ірына, на якой стадыі цяпер знаходзіцца праект? Колькі вобразаў яшчэ засталося стварыць?***

***Ірына Хадарэнка:*** — На дадзены момант фотамастаком Валерыем Дубоўскім у супрацы з нашымі «мадэлямі» выканана большасць тэматычных сюжэтаў. Беларускія пісьменнікі сфатаграфаваліся ў вобразах Лёлі, Бая, Дамавіка, Лазніка, Бордзі, Русалкі, Цёці, Жыценя. У бліжэйшых планах засталіся Лесавік, Жыжаль, Зюзя і чэрці, якіх, хутчэй за ўсё, будзе двое. Таксама ў праект быў спантанна інтэграваны Вадзянік, якога цудоўна ўвасобіў Максім Клімковіч падчас карыснай працы па ачышчэнні сажалкі. Увогуле, праект мае высокі ўзровень імправізацыі, таму некаторыя рэчы даводзіцца змяняць ужо непасрэдна падчас ажыццяўлення здымачнага працэсу.

***— Як старэйшыя літаратары паставіліся да прапановы зрабіцца міфалагічнымі персанажамі? Можа, прыгадаеце якія-небудзь цікавыя (казусныя) эпізоды, што здараліся ў часе працы?***

***І. Х.:*** — Нашыя літаратары (між іншым, незалежна ад узросту) часам рэагавалі трохі скептычна і нават спрабавалі далікатна пераадрасаваць гэтую фотамісію камусьці іншаму. Аднак пасля абгрунтаванага раскрыцця ўсіх нюансаў і выяўлення мэтазгоднасці ідэі — сумневы зніклі і прачынаўся пэўны імпэт.

Цікавых момантаў падчас працы, вядома, хапала. Напрыклад, паездка на Лагойшчыну з Анатолем Вярцінскім, каб зняць яго ў ролі Жыценя, адбывалася якраз у перыяд актыўнага збору збожжа. І менавіта ў гэты дзень абранае для здымак наваколле павінен быў наведаць губернатар вобласці спадар Батура. Таму побач з намі двойчы спыняліся аўтамабілі супрацоўнікаў гаспадаркі, якія з відавочным хваляваннем пыталіся, хто мы і што мы робім на полі. Але пасля адпаведных тлумачэнняў нам шчыра зычылі ўсялякіх поспехаў...

Было даволі весела і калі мне самой давялося ўвасабляцца ў вобраз Русалкі. Здымкі вяліся ў парку ля берага Свіслачы. Вось вылажу я з рэчкі, а на ўзгорку ўжо стаяць здзіўленыя падлеткі з акругленымі вачыма, адзін з якіх крычыць: «Глядзіце! Русалка!». «Прызналі, — засведчыў фатограф, — значыць, вобраз атрымаўся».

***— Якім будзе каляндар? Акрамя ўласна фотавыяваў ці будзе прысутнічаць тэкставая частка? Можа — аўтарскі тэкст беларускіх літаратараў?***

***І.Х.:*** — Гэта перш за ўсё візуальна-фатаграфічны праект. Яго далейшае развіццё яшчэ вызначаецца. Гэта можа быць не толькі каляровы каляндар, але і паштоўкі, плакаты, штосьці яшчэ... Калі ж разглядаць магчымасць падрыхтоўкі каляндарнага макета, канешне, прадугледжваецца, што там неабходна прадставіць не толькі кароткую інфармацыю пра нашых нацыянальных міфалагічных персанажаў на беларускай і англійскай мовах, але і цытаты з твораў кожнага з удзельнікаў, бо менавіта пісьменнікі паводле роду сваёй дзейнасці найбольш шчыльна знітаваныя з казачна-міфалагічнай сферай.

***— Ці арыентаваліся Вы на падобныя «каляндарныя» праекты***?

***І.Х.:*** — Аніякага эпатажу, постмадэрнісцкай трэшавасці і псеўдагламуру мы рабіць не будзем. Наша мэта заключалася не ў стварэнні нейкага маскараднага шэрага архаічных істотаў, а ў першую чаргу ў прэзентацыі асоб пісьменнікаў, адлюстраванні прыгажосці іх унутранага свету скрозь прызму казачнага ўвасаблення. Таксама хацелася прадэманстраваць і некаторую разнастайнасць — прынамсі ў тым, што ўдзельнікамі сталі пісьменнікі розных пакаленняў, розных тэматычна-жанравых накірункаў. І, бясспрэчна, істотны момант прысутнічае ў тым, каб вобраз быў натуральным, а не штучным, каб ён адпавядаў літаратару не толькі вонкава, але і меў некаторыя карэляцыі з характарам ягонай творчасці.

***— Які міфалагічны вобраз Вам асабіста даспадобы і чаму?***

***І.Х.:*** — Мяне ўвогуле цікавіць міфалогія як культурны феномен. Мушу зазначыць, што гэта надзвычай захапляльны і, на жаль, не ў поўнай ступені асэнсаваны намі скарб вуснай народнай творчасці, на які трэба звярнуць увагу кожнаму чалавеку. Беларуская міфалагічная прастора досыць багатая, і таму тут складана вылучыць толькі адзін персанаж. Усе яны пасвойму цікавыя і адметныя, нават калі маюць адмоўны характар. Асабіста мне вельмі падабаецца актуальная цяпер ідэя прасоўваць вобраз цмока ў якасці аднаго з нашых нацыянальных сімвалаў. У мяне дома нават маецца невялічкая калекцыя разнастайных цмокаў з розных краін. Фактычна «раскрутка» таго ці іншага казачнага персанажа можа не толькі садзейнічаць прыцягненню ўвагі да айчынных культурных здабыткаў, але і прыносіць прыбытак. Вось глядзіце: мы звычайна любім атаясамліваць Беларусь з бусламі і зубрамі. Але буслоў ужо даўно «запатэнтаваў» Эльзас, і калі вам давядзецца наведаць Страсбург, там можна пабачыць мноства адпаведных сувеніраў. На зуброў актыўна прэтэндуюць палякі. Апошнія, дарэчы, разгарнулі цэлы бізнэс на падставе легенды пра кракаўскага цмока. А мы хіба горшыя? Нашы цмокі таксама заслугоўваюць павагі і ўсеагульнага прызнання. Дый не толькі яны!

Беларуская міфалогія, як і літаратура, вартыя таго, каб іх больш актыўна папулярызаваць, у тым ліку і пры дапамозе найноўшых крэатыўных тэхналогій.

**Анатоль ІВАШЧАНКА**

▸ ЛІТКІРМАШ

# ГЁТЭБОРГ-2012

**Напрыканцы верасня ў шведскім Гётэборгу прайшоў найбуйнейшы ў Скандынавіі кніжны кірмаш, які праводзіцца ад 1985 года. Сёлета ён меў сваёй галоўнай тэмай літаратуру Скандынаўскіх краін, бо акурат у 2012-м спаўняецца 60 гадоў з дня заснавання Паўночнай Рады, рэгіянальнай арганізацыі супрацоўніцтва Даніі, Ісландыі, Нарвегіі, Фінляндыі і Швецыі, і 50 гадоў з моманту заснавання прэстыжнай Літаратурнай прэміі Паўночнай Рады, галоўнага партнёра Гётэборгскага кніжнага кірмаша.**

Удзел у сёлетніх сустрэчах у Гётэборгу ўзялі 60 замежных пісьменнікаў і 100 шведскіх, былі сярод іх і беларускія літаратары. Нашу краіну прадставілі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў Дзмітры Плакс (які ўжо працяглы час жыве ў Стакгольме), а таксама Юля Цімафеева і Анка Упала.




На беларускай сцэне Юля Цімафеева і Дзмітры Плакс

Для Юлі Цімафеевай гэта першая вандроўка ў Гётэборг. Тым не менш, пісьменніца ўзяла ўдзел і перамагла ў адкрытым паэтычным слэме. «Гэта быў мой першы досвед удзелу ў кніжным кірмашы такога ўзроўню, — адзначыла Юля. — Таму практычна ўсё было ў навінку. Вялізная колькасць самых разнастайных кніг наўкола, самых розных пісьменнікаў... Па-мойму, кожную хвіліну на ўсіх кутках кірмаша праходзіла не менш за паўсотні самых розных мерапрыемстваў, з якіх кожны аматар літаратуры мог бы выбраць нешта сваё. Аўтаркі любоўных раманаў, закінуўшы нага за нагу, распавядалі пра тое, дзе яны чэрпаюць сваё натхненне. Дзіцячыя ілюстратары перад сваімі маленькімі прыхільнікамі стваралі цікавыя вобразы герояў проста ў «жывым эфіры», а іх малюнкі дэманстраваліся на экранах. Праваабарончыя арганізацыі і валанцёры спрабавалі данесці да гётэборжцаў інфармацыю пра тыя праблемы, з якімі штодня сутыкаюцца жыхары краінаў Блізкага Ўсходу і Афрыкі. І ўсё наўкола віруе, жыве. Асабліва мяне здзівіў склад наведнікаў кірмаша. Большасць з іх мілыя бабулі і дзядулі, таксама шмат бацькоў з маленькімі дзецьмі, хаця моладзі таксама было даволі шмат».

Анка Упала так пракаментавала свой удзел: «Гэта добрая загартоўка для аўтара. Наведнікі не стаяць на месцы, людзі прыходзяць купіць кнігі сабе і дзецям, паслухаць выступы любімых пісьменнікаў, узяць у іх аўтографы... Сцэн і залаў, дзе адначасова адбываюцца розныя прэзентацыі, гутаркі і семінары, вельмі шмат. Таму трымаць увагу наведнікаў складана, асабліва калі ты невядомы ў Швецыі аўтар і, да таго ж, іншамоўны. І ўсё ж, мне падаецца, нашыя выступы прайшлі даволі ўдала. Аўдыторыя была нешматлікая, але цёплая і ўважлівая, ніхто здаецца, не збег... Дарэчы, менавіта на нашым стэндзе прэзентаваў сваю новую кнігу вядомы шведскі празаік Мікаэль Ніемі. Ягоны бэстсэлер «Папулярная музыка з Вітулы» перакладзены і на беларускую. Паўдзельнічаў у імпрэзах на беларускім стэндзе і амбасадар Стэфан Эрыксан. З кніжнага кірмаша я з’ехала з цудоўнымі кніжкамі, якія купіла для свайго трохгадовага пляменніка. Яны па-шведску, але ў іх вельмі прыгожыя і зразумелыя ілюстрацыі. Можа, калі-небудзь ён зацікавіцца замежнымі мовамі...».

▸ САЮЗ



# ШКОЛА МАЛАДЫХ ЛІТАРАТАРАЎ

**3 кастрычніка адбылася арганізацыйная сустрэча выкладчыкаў і навучэнцаў Школы маладых літаратараў пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.**

Як расказалі старшыня СБП Барыс Пятровіч і яго намеснік Эдуард Акулін, Школа будзе працаваць цягам васьмі месяцаў. Навучэнцы змогуць наведваць лекцыі спецыялістаў па тэорыі літаратуры, паэтыцы, прозе, драматургіі, кіно ды інш. У групах пройдуць асобныя семінарскія заняткі, на якіх маладыя аўтары будуць разбіраць і ацэньваць свае і чужыя творы разам з куратарамі.

Весці практычныя семінары па прозе і эсэістыцы будуць першы намеснік старшыні СБП Алесь Пашкевіч і Валянцін Акудовіч, паэтаў і перакладчыкаў паэзіі будуць «курыраваць» Уладзімір Някляеў і Андрэй Хадановіч.

СБП папярэдне правёў літаратурны конкурс «Экслібрыс». Удзел у конкурсе прынялі больш за сто маладых паэтаў і празаікаў. Журы з дзевяці чалавек вызначыла пераможцаў, якім і было прапанавана ўзяць удзел у Школе маладых літаратараў.

Цягам васьмі месяцаў яны будуць наведваць агульныя тэарэтычныя лекцыі і кожны ў сваім аддзяленні спасцігаць творчую навуку. Тэорыю будучым пісьменнікам запрасілі выкладаць прафесараў Вячаслава Рагойшу, Пятра Васючэнку, Сяргея Кавалёва, Арсеня Ліса, Ірыну Шаўлякову ды іншых знаных адмыслоўцаў літаратуразнаўства.

Першыя заняткі ў Школе маладых літаратараў прайшлі 10-га кастрычніка. Пятро Васючэнка прачытаў лекцыю па тэорыі прозы, а майстар-клас правёў Алесь Разанаў.

Праз восем месяцаў творы першых навучэнцаў Школы маладых літаратараў складуць выпускную кнігу, а яе аўтары атрымаюць адпаведныя сертыфікаты.

# ЮБІЛЕЙ ЦВЯТАЕВАЙ

**9 кастрычніка ў Магілёўскай гарадской бібліятэцы адбылася літаратурна-музычная вечарына «Букет Марыніных вершаў», прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Марыны Цвятаевай.**

Шматлікія прысутныя паслухалі аповед пра жыццёвыя шляхі вядомай рускай паэтэсы. Гучалі вершы М. Цвятаевай у выкананні ўдзельнікаў народнага тэатра Палаца культуры вобласці. Свае вершы прачыталі паэты Надзея Палубінская і Леанід Сідараў. Гучала музыка і песні на вершы М. Цвятаевай у выкананні народнага канцэртнага ансамбля гітарыстаў «Аквілон» і салісткі Русланы Уласавай.

У вечарыне прыняў удзел паэт і кампазітар, старшыня Магілёўскага аддзялення СБП Мікола Яцкоў, які спецыяльна да гэтай юбілейнай даты выпусціў зборнік «В огромном городе моём» з песнямі на вершы Марыны Цвятаевай і зрабіў прэзентацыю гэтай кнігі. У выкананні Міколы і Алы Яцковых гэтыя песні і прагучалі на вечарыне.



▸ MEMORIA

# ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ

**Спачыў у вечнасці Мікалай Іванавіч Мішчанчук, паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**



Мікалай Іванавіч нарадзіўся 26 кастрычніка 1939 года на прыіску Майск Мазанаўскага раёна Амурскай вобласці. Выступаць у друку пачаў з вершамі. Першы верш «Метал» быў апублікаваны ў 1962 годзе ў часопісе «Бярозка». Асобныя вершы і падборкі друкаваліся ў беларускай літаратурнай перыёдыцы. Выйшлі зборнікі паэзіі «Вернасць», «Трывожуся за белы свет».

З 2004 года Мікалай Іванавіч, доктар філалагічных навук, прафесар, загадваў кафедрай беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С.Пушкіна.

Апошнім часам Мікалай Мішчанчук выступаў з літаратурна-крытычнымі артыкуламі. У жнівеньскім выпуску «Літаратурнай Беларусі» выйшаў яго артыкул «Людзям на дабро» пра кнігу берасцейскага аўтара Міколы Сянкевіча «Незваротны шлях».

Выказваем шчырыя спачуванні родным і блізкім Мікалая Іванавіча.

Вечная памяць!

Прэсавая служба СБП

## ЛІСТАПАДАЎСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



02.11.1932 — Мікалай Іванавіч Дзелянкоўскі (Дубровін)
04.11.1967 — Андрэй Фёдаравіч Гуцаў
11.11.1942 — Уладзімір Аляксандравіч Яварыўскі
14.11.1952 — Алёна Адамаўна Котава
20.11.1947 — Галіна Мікалаеўна Дашкевіч
27.11.1947 — Анатоль Кірылавіч Цітоў
28.11.1947 — Таццяна Іванаўна Гарэлікава
29.11.1947 — Соф’я Мікалаеўна Шах

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

**ПЕРАСЦЕРАЖЭННЕ**

# ЗОНА РАЗБУРЭННЯ

*Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ*

**Некалі, працуючы ў часопісе «Беларусь», давялося браць інтэрв'ю ў аднаго высокага чыноўніка. Між іншым зайшла гаворка пра брыдкаслоўе. І калі я выказаў трывогу ў звязку з тым, што ў нашым грамадстве яго зона імкліва пашыраецца, чыноўнік весела пасміхнуўся — маўляў, дробязі ўсё гэта, у нашым жыцці праблем шмат і паважней.**



Фота press.org.ua

«Да таго ж гэта карысна для здароўя, — дадаў ён, — калі я не буду часам выкідваць негатыў з сябе, дык інфаркт будзе!»

Магчыма, пэўная доля ісціны тут і ёсць — нездарма ў асяроддзі гімалайскіх шэрпаў, дзе лаянка забароненая, ім раз на год у спецыяльна адведзеныя дні дазваляецца пераступаць абсалютна ўсе нарматыўныя межы мовы. Але ў нас сітуацыя, мякка кажучы, крыху іншая, чым у шэрпаў...

Патрапіў неяк у кампанію, скажам так, далёкую ад беларускасці. Але вёў там рэй якраз вядомы нацыянальна з'арыентаваны творца. Спачатку ён годна прадстаўляў наш беларускамоўны асяродак, але праз пару чарак пачаў перамежваць свае спічы з так званымі «слоўцамі для сувязі». А паколькі гэта быў чалавек творчы, то і слоўцы тыя былі не абы якія...

Гэты «матавы» фон моцна разануў па маіх вушах. Ну ніяк не стыкаваўся ў маім сэрцы адборны мат з вуснаў гэтага чалавека са шляхетнымі і прыгожымі вобразамі, якія «выляпляў» ён у сваёй творчасці!

Аднак адзначу, што якраз наш беларускамоўны асяродак усё ж такі доўгі час быў найменш заражаны брыдкаслоўем. Праўда, апошнім часам і ў ім той-сёй можа з гонарам фарсануць сваёй «приобщенностью» да гэтых нятленных скарбаў «великого и могучего». Але гэтая з'ява, на шчасце, не масавая і звязана хутчэй з пэўнымі творчымі прынцыпамі асобных людзей, для якіх апрыёры мала чаго ёсць святога...

Што ж датычыцца асноўнай масы беларускага грамадства, то там брыдкаслоўе сёння відавочна пануе. Яно выдатна прыжылося на ўсіх сацыяльных паверхах грамадства. Яшчэ можна зразумець наш шаноўны рабочы клас ці сялянства — для іхняй моўнай нястрыманасці, відавочна, ёсць сёння нямала жыццёвых падставаў. Але тая атмасфера, што пануе на больш шляхетных узроўнях нашага соцыума, выразна паказвае, якой формы культурную будыніну мы ўзвялі ў нашай дзяржаве за 20 гадоў незалежнасці. Нешта накшталт выродлівай архітэктурнай пачвары, што сёння ганарыста пануе ў раёне Траецкага прадмесця над беларускай сталіцай... Зрэшты, усё гэта з'явы аднаго кшталту: даць дазвол на будаўніцтва згаданага архітэктурнага монстра маглі толькі людзі з вельмі спецыфічным разуменнем культуры!

На вялікі жаль, сёння ў незалежнай Беларусі натхнёна брыдкасловяць практычна ўсе: з дзіцячасадаўскага ўзросту да салідных пенсіянераў. Сумнiўны прыклад грамадству дае ўсялякага кшталту начальства і чынавенства. Колькі мне давялося ў свой час чуць такіх моўных практыкаванняў у розных кіруючых кабінетах падчас працы ў журналістыцы!..

Татальная эпідэмія мацяршчыны віруе сёння ў навучальных установах рознага ўзроўню, не адстаюць працаўнікі творчага фронту — артысты, спевакі, прэса і інш. Часта найбольш шчыруюць людзі, якія самі сябе лічаць адукаванымі і культурнымі, часам з выразнай прэтэнзіяй на духоўнае лідэрства ў грамадстве. Калі я завёў размову на гэтую тэму з адным з выкладчыкаў ВНУ, ён патлумачыў, што мацяршчына пры зносінах з моладдзю нават патрэбная, бо яна робіць нашую мову больш «сакавітай».

Мусіць з гэтай мэтаю ў адным з нашых сталічных ВНУ запрасілі аднойчы на творчую сустэчу, як рэкламавалася, «вядомага расійскага паэта», які славіўся сваёй ненарматыўнай лексікай. У зале, дзе выступаў шаноўны госць, яблыку не было дзе ўпасці! Што і казаць: госць спадзяванні спраўдзіў — ён аказаўся проста каралём брыдкаслоўя! У канцы сустрэчы ён да ўсяго яшчэ і прадэманстраваў сеанс стрыптызу, ды і гэтым не скончылася... За такую экзотыку якога-небудзь нашага эксгібіцыяніста хутка і заслужана адправілі б у месцы «не вельмі аддаленыя». А тут скандал хуценька замялі і «генія» цішком праводзілі на цягнік...

Згаданая «сакавітасць» у многім пануе сёння і на нашых вуліцах. Часам узнікае адчуванне, што ты знаходзішся не ў сталіцы цывілізаванай дзяржавы, а ў нейкай крымінальнай зоне. Асабліва абсурдна гучыць адборная мацяршчына, да прыкладу, з вуснаў яўна закаханых адно ў аднаго хлопца і дзяўчыны, ці зграйкі юных, з выгляду зусім цнатлівых прыгажунь. Жахлівыя словаформы, якія яны натхнёна прамаўляюць, не сцішаючы тон голасу, проста да зямлі прыціскаюць нейкай сваёй звыкласцю і спакоем. Як казаў калісьці мой калега па «Беларусі» Янка Сіпакоў: «Калі такое чуеш, валасы дыбарам падымаюцца!». Прычым відавочна, што большасць маладых проста не разумеюць, што яны прамаўляюць. Як, зрэшты, і большасць падлеткаў у школах, малыя ў дзіцячых садках! Для іх брыдкаслоўе — важны элемент «круцізны», як тая ж цыгарэта і піва, асабліва калі дарослыя даюць таму заўсёдны прыклад. Што такое брыдкаслоўе, які яно робіць уплыў на чалавечую душу і г.д., яны не ведаюць...

А між тым такія веды ўжо больш за тысячу гадоў існуюць у арсенале нашай хрысціянскай царквы, якая мае вельмі цікавы досвед барацьбы з мацяршчынай. На думку царквы, спрабуючы запляміць самае святое — маці — чалавек па сутнасці ступае на шлях самога адмаўлення жыцця. Таму брыдкаслоўе царква без усялякіх скідак называе малітваю д'яблу — сіле, якую вядомы вучоны Л. Гумілёў назваў Антысістэмай.

**Зону ўлады брыдкаслоўя можна назваць «зонай разбурэння», а па вялікім рахунку — і зонай смерці. Небяспечны вірус у нашым сацыяльным арганізме набірае ўсё большую моц**

Цалкам салідарная з царквой і сучасная навука, якая параўноўвае ўздзеянне брыдкаслоўя на нашыя мову і цела з уздзеяннем небяспечнага віруса. Словы, іх гукі — як хвалевы імпульс пэўных частот — бяруць актыўны ўдзел ў прасцэсах існавання клетак жывой матэрыі. Ужо шмат гадоў праводзяцца доследы па ўплыву розных гукаў і слоў, у тым ліку і матных, на рост раслінаў. Дык вось, уздзеянне так званай ненарматыўнай (як многія, кажуць, бяскрыўднай!) лексікі, якая адносіцца да так званых «нізкіх» частот, аказалася адэкватным моцнаму радыёактыўнаму апраменьваньню. Расліны пад уздзеяннем брыдкаслоўя пачыналі імкліва выраджацца і гінуць. Калі ж уздзейнічалі на іх словамі рэлігійных малітваў, то ў выніку атрымліваўся адваротны эфект. Тлумачэнне простае: брыдкаслоўе літаральна ўрываецца ў святая святых нашых генаў. Структура ДНК відазмяняецца і перадаецца нашчадкам. Такім чынам у эстафеце пакаленняў запускаецца так званая «праграма самаліквідацыі». Тыя, хто сёння аддае шчодрую даніну пачвары брыдкаслоўя, запускаюць пэўную ланцуговую рэакцыю, якой няма канца-краю і якую калісьці ўжо нішто і ніхто не зможа спыніць.

Мы быццам заключылі між сабою нейкую жахлівую дамову: хто каго перамацярыць! Разбураючы пры гэтым не толькі цэльнасць свайго «я», але і імпэтна забруджваючы энергетыку акаляючага духоўнага свету. А ў ім усё вельмі шчыльна зніталавана: жыццё і смерць, дабро і ліха. Зону ўлады брыдкаслоўя можна назваць «зонай разбурэння», а па вялікім рахунку — і зонай смерці. Небяспечны вірус у нашым сацыяльным арганізме набірае ўсё большую моц і ўрэшце можа атрымаць там канчатковую перамогу.

Выразны для нас усіх прыклад — лёс так званых асацыяльных элементаў, у асяродку якіх брыдкаслоўе заўсёды на троне, яно проста неад'емны элемент зносін. Маральная і фізічная дэградацыя такіх людзей заўсёды вельмі імклівая, і вынік жыцця большасці з іх прадказаць няцяжка...

Як жа супрацьстаяць гэтаму ліху? Як вядома, для беларусаў вельмі характэрны патэрналізм — у выніку сваёй эвалюцыі мы сталі празмерна падатлівымі для ўплыву сваіх правадыроў, як для станоўчага, так, на жаль, і для адмоўнага. І вось якраз тут мне і бачыцца магчымасць хаця б крыху аслабіць уціск «матавай» пачвары на бедныя душы насельнікаў гэтай зямлі.

Перакананы, што калі б нашыя сённяшнія так званыя «эліты» (уладныя і духоўныя) сталі прыкладам у барацьбе з ёю, перасталі аддаваць ёй шчодрую даніну, сітуацыя хутка памянялася б у лепшы бок. І тут, да прыкладу, у тых жа чыноўнікаў павінна быць крэўная зацікаўленасць, бо вірус брыдкаслоўя, як элемент анархічнасці, безумоўна патачвае і апоры самой дзяржавы, якая заўсёды была і ёсць іх прыватнай уласнасцю. Відавочна, што ўсе тыя і дзяржаўныя і вытворчыя структуры, у якіх ненарматыўная лексіка — галоўны стымулятар пры вырашэнні надзённых праблемаў, рана ці позна асуджаны на разбурэнне. Адназначна інфернальны сродак, якім ёсць брыдкаслоўе, наўрад ці можа дапамагчы пабудаваць якую б там ні было структуру, а тым больш дзяржаву. Нездарма пра небяспеку брыдкаслоўя горача папярэджвалі многія вялікія мысляры мінулага і сучаснасці (пачытаем Ф.Дастаеўскага, В.Розанава, Л.Гумілёва і інш.) Але ці часта мы прыслухоўваемся да такіх папярэджанняў?

У нашым грамадстве трэба стварыць прэстыж, калі хочаце, моду, на «чыстаслоўе», калі лаянка будзе рэзаць слых не толькі «кісейным» паненкам, але і ўсім нармальным людзям, адразу даючы сігнал, што побач з вамі небяспека! А пачынаць трэба з малога, ствараючы «тэрыторыі, вольныя ад брыдкаслоўя» — «установу без ...», «кавярню без ...», «школу без...», і г.д. І прыклад тут мог бы падаць якраз наш беларускамоўны асяродак — тыя ўстановы, грамадскія аб'яднанні, тусоўкі, якія карыстаюцца роднай мовай паўсядзённа, у якіх яшчэ жывы здаровы інстынкт нацыянальнага самазахавання.

Паказальна: ад таго творцы, пра якога я згадаў напачатку, мне ніколі не даводзілася чуць ненарматыўнай лексікі ў беларускамоўным асяродку. Яна там яму проста непатрэбная. Бо ні пад каго не трэба мімікраваць, тут цябе і так паважаюць і цэняць... Хаця справа тут, відаць, не толькі ў мімікрыі. Мне здаецца, што большасць з тых, хто сёння актыўна выкарыстоўвае ненарматыўную лексіку ў зносінах з іншымі людзьмі, хутчэй за ўсё хавае за гэтым самую што ні на ёсць сваю звычайную чалавечую, асабістасную няўпэўненасць і слабасць, а значыць, і сваю непаўнавартаснасць. І гэта, відавочна, характэрна для большасці з тых, хто шчодры на брыдкаслоўе. Мат становіцца ў такіх выпадках чалавеку нейкім апірышчам, ён быццам бы дазваляе акрэсліць недастатковую мужнасць. Але гэта найвялікшая ілюзія — бо чалавек радыкальна змяншае маштаб сваёй душы...

У пэўны перыяд жыцця і я аплаціў шчодрую даніну пачвары брыдкаслоўя, асабліва падчас службы ў войску на пасадах малодшых камандзіраў. Тады здавалася, што без гэтага аніяк! Скончылася ўсё гадкоў дваццаць таму ў адзін дзень — дзякуючы выпадку, на першы погляд, быццам бы містычнаму, але насамрэч вельмі рэальнаму.

Здарылася гэта крыху больш чым праз год пасля смерці майго бацькі. Я тым вечарам вярнуўся дадому з працы ў вельмі дрэнным настроі: атакавалі нейкія непрыемнасці. Дома нечакана сарваўся на жонку, выкарыстаўшы пры гэтым (як, можа, ніколі дасюль) ледзь не ўсю вядомую мне ненарматыўную лексіку. Ноччу мне выразна прысніўся мой нябожчык бацька, які стаяў да мяне спіной. Калі ён павярнуўся — увесь ягоны твар быў быццам зрэзаны глыбокімі шрамамі.

У той жа момант я прачнуўся, расштурхаў жонку і распавёў пра свой сон. Я неяк імгненна і празрыста зразумеў тады ягоны сэнс: бацька быў пры жыцці заядлы мацяршчыннік, і ўбачаныя мною ў сне шрамы на твары выразна сведчылі пра вялікія пакуты ягонай душы ў іншым свеце ад таго свайго граху. Відаць, такім вось чынам ён пасылаў мне з іншасвету сігнал-перасцеражэнне: не мацярыся!

Перасцеражэнне аказалася дзейсным.

▸ ПОГЛЯД

# ГЛЫБОЦКІ ВІР СВЯТА ПІСЬМЕНСТВА

Марыя БАРАВІК



Фота БелТА

## Пацягнула халадком

...У працаздольнасці па падрыхтоўцы пляцоўкі свята Пісьменства можна было не сумнявацца. Старшыня райвыканкама спадар Алег Морхат — малады энергічны чалавек з камсамольскай выпраўкай — пакіруе. Гэты — зробіць, абы грошы. Вось толькі недахоп іх стрымлівае.

У арбіту яго дзеяннаў відавочна не ўваходзіла «літаратурная частка» пісьменнікаў-глыбачан. На гэта ёсць сябра СПБ, паэт Жыгуноў і ідыёлаг Чарапкоўскі. На цэнтральнай плошчы, зразумела, зоймуць месца вышэйшыя госці: прадстаўнікі ўлады і СПБ. Гасцям з літаратурнай плыні раённых груп у рэспубліканскай праграме адведзена «Літпляцоўка» на плошчы «17-га верасня», каля рэспубліканскай выставы друку. Што яшчэ трэба? «Усё тут ёсць», — кажуць. Пэўна ж, і зборнік «Літаратурная Глыбоччына». Яго прагнуць убачыць пісьменнікі-аўтары.

Зранку 2 верасня дождж увільгатніў паветра і крэслы. Глыбачане яшчэ не прачнуліся, толькі ў храмах — богаслужэнні. Таму і атрымалася замінка. Знікла цеплыня, і глыбоцкіх пісьменнікаў сустракала бязлюддзе. Дзясятак гледачоў-бібліятэкараў тупалі тут. І чатыры пісьменнікі: хто — з СПБ, хто — з СБП, як Баравік, які з'явіўся па запрашэнні бібліятэкі, як заўсёды на выручку. Я (той самы Баравік) разумела гэты выступ як прэзентацыю кнігі «Літаратурная Глыбоччына», якую выдала дзяржаўнае выдавецтва ў гонар свята на глыбоцкай зямлі.

Прагулялася па «падворку» рэспубліканскага друку. Дапамагла, нават, падабраць і паправіць раскінутыя пакеты, паштоўкі і аб'яўкі Гродненскай паліграфічнай прадукцыі. У радок стаялі прыгожыя сшыткі з партрэтамі беларускіх класікаў. Угледзелася ў магутныя, дабротныя кнігі на пярэднім плане, прыкіпела да драбнейшых кніжак. Нашай няма. Толькі дзіцячая малютка Жыгунова «Баравічок на скутары».

На сцэне, пасля нас, глыбачан, ужо чыталі вершы браслаўчане. Са мной павітаўся паэт Віктар Лагун з Шаркаўшчыны. Забілі званы касцёла, аб'яўляючы заканчэнне імшы. Народ заварушыўся. І з царквы прыйшло папаўненне на плошчу. Пацяплела ад сонца і ад энергіі святочных падворкаў. І свята зажыло.

Мы з дачкой Машай зноў кіравалі вуліцай, знаёміліся з гасціннымі мастацкімі падворкамі. І вокамгненна ўцясніўся людзьмі былы ленінскі скверык у чаканні ўрачыстасці адкрыцця алеі помнікаў славутым землякам.

## Парадак

Яшчэ ля бібліятэкі, перад адкрыццём шыльды Лявонцію Ракоўскаму, я зірнула на Уладзіміра Скрабатуна. На адваротах пінжака красавалася эмблема свята і шыльдачка «Госць». Я спахапілася, што забылася зарэгістравацца.

— Так-так, — кажуць мне, — трэба! Могуць не прапусціць.

Зарэгістравацца паспела. Там сядзелі вельмі прывабныя і ветлівыя рэгістратары. Мне ўручылі запрашальнік на свята і, нават, на абед. І яшчэ далі сувенірны пакет з кнігамі-альбомамі і газетамі, дзе ўсё — пра «вялікіх» і «малых»... Я думала, што ў пакеце — кніга «Літаратурная Глыбоччына». Аж няма.

Вечарам прачыталі на «Вестках» — Кастусь Шыталь пісаў пра міліцэйскую стражавую непрабівальнасць.

— Косця! — заклікалі мы пра сябе завочна, — гэта семкі! Паглядзіш, што будзе заўтра. У Глыбокім — пільнасць і парадак.

Як у люстэрка зазірнулі. Карэспандэнт Шыталь прапусціў кульмінацыйны пункт падтрымання правапарадку на свяце. Міліцыя ў двух асобах — Вадзіма К. (вока не паспела выхапіць імя па бацьку) і Андрэя Мікалаевіча А. — спрытна затрымала Мікалая Іванавіча Чаргінца.

Вышэйшы ростам А. прыцёр Чаргінца да натоўпу і цвёрда стаяў: «Мне нельга прапускаць на плошчу — тут выхад!».

Маша, кажу, здымай парадак. Але дзе там прыцэлішся, калі Мікалай Іванавіч у цісках такой сілы. Хвіліны тры-пяць страціў былы дэпутат-сенатар, кіраўнік СПБ і свята Пісьменства, пакуль нехта са сваіх не падбег з плошчы на выручку. Ужо ўрачыстым строем ішлі барабаншчыкі і госці з плакатамі. Мог адбыцца поўны зрыў мерапрыемства. Мы ўжо, нават, узрадваліся, калі ўбачылі спадара Чаргінца на плошчы. Услед імкліва прапускалі калону, і на плошчу шмат хто ўпліснуўся «вужакай». Крыху пазней нас прапусцілі міралюбна. У мяне ж на ружовым адвароце блузы зіхацела: «Госць». Маша трымала ў руках «Запрашэнне».

Ні ў якім разе не абвінавачваю міліцыянтаў А. і К. ды і Чаргінца ў факце сутычкі. Міліцэйскі страж захоўваў пільнасць, запомніўшы інструктаж. А кіраўнік свята спяшаўся, нельга было марудзіць у пошуку ўваходу — ды забыўся начапіць апазнавальныя знакі. А можа, быў упэўнены, што яго чытаюць і ведаюць у твар як «сенатара». Другі ж не чытаў... Ці, можа, быў замаскіраваным прыхільнікам Хадановіча...

Ну, гэтыя прыгоды на свяце як відавочнасць, што сёння парадак у Глыбокім — галоўнае.

## Сустрэча

Нехта мяне шукаў па тэлефоне. З мікрафона ад сцэны я раптам пачула сваё імя. Толькі не Марыя, а Марына Баравік. Ну, канечне, пра мяне. Я трапіла ў пералік агульна-глыбоцкіх талентаў ці не з абласнога спіску як сцвярджэнне, што не выразаецца такі Баравік.

У гэты час у мяне была нечаканая сустрэча з жанчынай (як яна сказала) праз 37 гадоў. Марыя Каляснёва шукала мяне адчайна, спецыяльна прыехала з Мінску. У мабільным выявілася 15 выклікаў. Урэшце сыйшліся. Гутарылі праз перагародку. Яе не прапусцілі, бо яна ж не Чаргінец, за ёй некаму прыйсці. А часу ў нас заставалася мала — мы з Машай з'язджалі з Глыбокага.

Мілая, дарагая Марыйка (Фёдараўна), з былога Падсвільскага Дома піянераў у маладосці. Знайшла мяне, мусіць, праз Жыгунова на свяце нашага Пісьменства. Дзякуй!

## Сон-плынь і водгукі

У нядзелю Глыбокае — як казачны сон-плынь. І прачнуліся ад гэтай ідыліі толькі ў панядзелак. Прыгожае свята нібы згубілася ў рэальнасці. Паехала на працу дачушка. І я разважальна ўспомніла ранак нядзелі. Добра, што дождж затрымаўся 2-га верасня, калі я крыху замерзла ад сырасці і нейкіх думак.

Згадаўся ўсмешлівы чалавек-майстар на «Латышскім падворку». Галоўная плошча ўзлятала мікрафонным гулам, а мы тут разглядвалі з дзецьмі свісток — як ён робіцца. І другі прыемны чалавек, з кім пераглянуліся, падумаў, што мы замежнікі. Маша павіталася па-латышску, а ў мяне бэйджык «Госць».

— Мммм...

— Вы адкуль? — пытаюся.

— З Мнюты!!!

— Дык мы ж свае.

— Тут, «на падворках», жыццё, — усміхнуўся ён, — а там, на сцэне — сцэнар.

У панядзелак мне пазваніла Тамара Савёнак з Вяльца.

— Ай, Марыйка! Якое прыгожае свята Пісьменства адбылося! Такога хараства я ніколі не бачыла...

— А ты наведвала калі-небудзь святочныя пляцоўкі ў іншых мясцінах?

— Ну, не. Але мне здаецца, што лепш і не прыдумаеш.

Яе ўразілі пастаўскія цымбалісты і гарманісты. Яна шкадавала, што тыя былі далёка ад цэнтра. Дык жа і ў цэнтры было ўсіх і ўсяго забаўляльнага. Мы, напрыклад, затрымаліся каля «Габрэйскага падворка». І ўсюды хацелася вітаць людзей, усміхацца. Але нам трэба было не марудзіць, каб даехаць своечасова дамоў у Падсвілле. Мы развіталіся з глыбоцкім святочным вірам.

Цяпер думаю: свята зрабіць прыгожым усё ж лягчэй, чым жыццёвыя будні. Жыццё — амаль немагчыма.

## Званок Людмілы, які нараджае казачны сюжэт

Людміла Андзілеўка, перад святам, званіла мне неадночы з Мінску:

— Што там чуваць? Ці будзе на свяце тая «дзяржвыдавецкая» кніга «Літаратурная Глыбоччына»? Каб купіць... І дзе яе знайсці? Цікава, ці хопіць ганарару на аплату?

— Я мяркую, што хопіць, калі твая проза на дваццаці старонках. Вось за маю падборку вершаў які ганарар? Давай пасмяемся!

5 верасня Людміла зноў тэлефануе:

— Кнігі не дойдуць да аўтараў! Трывожуся за арыгінальнасць твора...

— Гэта цікава, — кажу, — мой адзін верш (пры шасці кніжках) пракручаны ў трох дзяржаўных выданнях. Ён перароблены, скажоны ў «Весніку Глыбоччыны» і ў «ЛіМе». Уяві: замест: «Выбачай — я не ўмею кахаць, бо паўнюткае сэрца любові» другі радок заменены на «Дзякуй Богу за гэткую долю!». ЛіМіст нейкі той самы верш яшчэ падправіў і адрэзаў куплет... «Віцебскі рабочы» скапіраваў з «ЛіМа», хоць Уладзімір Сауліч тэлефанаваў, які верш паставіць на старонку з падборкі. Дарэчы, Сауліч сказаў так: «Бяром Ляшонка, Гарановіча (паэтаў-нябожчыкаў), ну і ... цябе.

Людміла хапае ноту здзіўлення, аж мой тэлефон грэецца. І тут ставіць абуральную кропку пад пытальнікам (дайшоў слых пра партрэты глыбоцкіх пісьменнікаў):

— Чаму не было майго партрэта?.. І Гарановіча?!.

— Не паспелі, Людміла Фёдараўна! Бо скапіраваць выдатны вобраз Гарановіча — не млын знесці за суткі. Нават пры такой электроннай тэхніцы. «Ладна, — падумалі, — уночы трэба спаць».

Раніцай заспяваў мой тэлефон пытаннем з БРСМ: «Ці жадаеце, каб ваш партрэт з'явіўся на Свяце пісьменства, разам з партрэтамі пісьменнікаў Глыбоччыны? Калі не супраць, то на працягу паўгадзіны (у 10 — наша паседжанне) перадайце здымак электроннай поштай».

— Гэтыя не спяць, здагадаліся. І што такое «ці пажадаеце»? Хай такое пытанне не казычыць! Я — найглыбоцкая. І жывая. Натуральны Баравік. Не атрутны грыб які, як бледная паганка ці мухамор. І гэта трэба засведчыць. Не марудзячы, пакуль ты, Машанька, тут з Інтэрнэтам. Высылай альбом здымкаў на выбар!

О, Людміла! Не было б гэтай казкі ці казанкі, каб не званок ад цябе. Размова з табой натхніла ўважліва прачытаць святочныя нумары названых вышэй газет, асабліва «Веснік Глыбоччыны». І я здагадалася, што гэта ўсё ж, хоць і запозненая, ды самадзейнасць некага з глыбачан — творцаў ці ідыёлагаў. Супраць такой ідэі, безумоўна, не пайшоў і той, хто «ў творчым палёце», і «Антэй літглыбоччыны». Блішчэць удвух на нейчым «Полі долі» і тым больш на прылессі няёмка, без таго, хто ў бары...

— Дык жа мы не супраць, — прашапталі.

— Гукнем! — сказаў нехта з драбнейшых!

І азвалася... нібы рэха. Але гэта быў не хто іншы, як Баравік, са сваімі кніжкамі, выдадзенымі рэдакцыяй прыватнай тутэйшай рэкламнай газеты «Прэфектінфо» (групай у складзе Яраслава Берніковіча, Зміцера Лупача і Таццяны Смоткінай). Пра гэта зацята маўчала дзяржаўная раённая газета «Веснік Глыбоччыны» і, нават, прыватная «Вольнае Глыбокае».

— «На вас глядзіць мая душа». Прабачце за «Камень смутку» ў такі ваш вясёлы дзень. Голас паэткі быў так блізка, што аж мандраж... Во — якая табе казка, Людміла. У радасным стрэсе ўганаравання і ўзнёслага прызнання калегамі ніхто з іх не мог успомніць усіх, хто ў бары... І каго няма... А ты ж, дарагая Людміла Фёдараўна, з паляны — ды ў сталіцу! Вельмі нясвоечасова. Шукай цябе ў «...Ноч на дварэ»! Хіба знойдзе хто?!.

Казку можна прадаўжаць: як баравы, спакойны грыб трапіў на старонку выдання «Белай Русі» (у якім стане), у БРСМ і, галоўнае, у СПБ. Чорным па белым адзначыўся — як паведаміла Андзілеўка, — разгледзеўшы здабытую кнігу «Літаратурная Глыбоччына». Яна зноў нагрэла тэлефон 6-га верасня:

— Ну, ці даў Жыгуноў кніжку?

— Галіна Сутула кажа, што ніхто яе не бачыў.

— Дабівайся! Хай дасць! Я тут прабілася ў выдавецтва. Аж тры купіла, на ўвесь ганарар. Хвосцік застаўся... Кожнаму дзіцёнку па дару... Адтуль жанчына сказала, што на Глыбокім шмат накіравалі... Дзе яны?! У кнізе — усе твае вершы. І ў маёй прозе ўсё ў парадку...

О, Людміла! Гэтая даб'ецца!

ВЕРШЫ

# З НОВАЙ КНІГІ «АБЕРУЧ»

Юрка ГОЛУБ



20 кастрычніка славуты паэт, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Юрый Уладзіміравіч ГОЛУБ сустрэў свой 65-ы дзень народзінаў. Шчыра жадаем яму далейшых «стажарных шляхоў» — у здароўі, радасці і метафарах!

## Моўчкі

*Словаў любных парэшткі,*
*Нібы пёркі аблокаў,*
*Узляцяць над аблогай,*
*Хоць на часткі парэжце.*

*Поўня выліта з воску:*
*Бух! — пячатку на браму.*
*Сняцца воклічы «Брава!»*
*Непрабуднаму войску.*

*Невідомы, як голас,*
*Вецер збаўлены месца.*
*Снег і зоры сумесна*
*Ападаюць на голле.*

*Шлях стажарны, палозны.*
*Завітушкі на скронях.*
*Цемру вострым раскроіць:*
*Начавала на лёзах.*

*Засталося ад ночы,*
*Як на понюх табакі.*
*Нашы лёсы аднакі:*
*На часы і аднойчы.*

*Час зашыўся ў закутак,*
*Дзе бароў хмарачосы.*
*Попел шусь з папяросы…*
*Дым у вечнасць закуты…*

## Багун

*Бабахнуў гром глухім дуплетам.*
*Храпе распараны табун.*
*У логве яраснага лета*
*Пад хмелем бавіцца багун.*

*Дзе жабна булькае балота,*
*Крушыны моцныя з хрыбта,*
*Багун задыханы, бо лётаў*
*І духам розуму хітаў.*

*Яму прасторы бракавала:*
*Сціскаў паляну шчыльны хмыз.*
*Нібы настройшчык карнавала,*
*Багун ківаўся зверху ўніз.*

*Яго таксама снег загорне.*
*Галовы вызваліць чыгун.*
*Ды хлынуў пах, як кроў*
*праз горла —*
*Сябе расхлістване багун.*

## Рэквіем вяртання

*І глянуў самотны вакол:*
*Скруціла душу невыносна.*
*Жахнуўся вандроўнік вякоў,*
*Бо сталіся попелам сосны.*

*А жыта разбурыў куколь.*
*Святыня згубіла ікону.*
*Патрапіў прадвеснік на кол —*
*Гісторыі жудасны коннік.*

*Пажару ахвярны паўлін*
*Не згодны ў нябыт дабірацца.*
*І баль выпраўляе палын,*
*Палеглым заведамы здрайца.*

*Не кліча прышэльца здалёк*
*Тутэйшых мясцін Пенелопа.*
*І шапка спаўзае далоў,*
*І сыплюцца слёзы, як попел.*

## Прыкмета

*Зграбасталі скваліна абраз:*
*Знікае, як прывід.*
*А майстра абражаны — бразь! —*
*Палітру на зрыве.*

*Запесціла бабка гарод,*
*Як птушка застрэшша.*
*Гаруе цяпер за гарой:*
*Абскублі дарэшты.*

*Пачулі, аднак, недарма,*
*Што фабрыку скралі.*
*Наўрад вартаўнік задрамаў*
*У будачцы з краю?*

*Гарод і абраз — драбяза.*
*З калёсаў абвестка:*
*Рабуюць душу — не базар —*
*Аматары бэсціць!*

*Канае за поўнач камін.*
*Ліпіць заваконне.*
*Гарцуюць на белым кані*
*Зладзеі ў законе.*

## Пракавет

*Клёпку аберуч круціў*
*Бондар стабокі.*
*А бортнік шляхі караціў*
*На дрэве высока.*

*Складалі кадоўбчык на мёд*
*З-пад гэбліка клёпкі.*
*І борць не бывала нямой:*
*Гудзела ад клёку.*

*Мядзведзі — не горш ведзьмакоў —*
*Пчалу абкарналі.*
*Прыглядзься: ляток у вякоў*
*Вунь пчолка кранае.*

*Шляхі для яе не ў спадман —*
*Над родам і бродам.*
*Ці сочаць за ёю, васпан,*
*І бортнік, і бондар?*

*Прылашчыцца сонца, дзе квет.*
*Прыляжа ля Гожы.*
*Люляе пчалу пракавет*
*На лузе прыгожым.*

*Базар. У мядовых радах*
*Фундатары спорту.*
*Куды вы падзеліся? Ах!*
*Бондар і бортнік.*

## Прытчы

*1*
*Аракул раптам даў дразда,*
*Як рэкнуў басам пачатковец.*
*Падковы час не так раздаў,*
*І ў бонзы хрупнула падкова.*

*Наступствы ў тэрмін асачыць —*
*Аднекуль знесла служак плёткі.*
*А тым з уласнай каланчы*
*Відней, што дзеецца за плотам.*

*Дурное, ведама, спароў*
*Аракул, знаны і прызнаны,*
*А той, што выступіў з пяром,*
*Яму падаўся партызанам.*

*Быў невідомы іх двубой,*
*Тым болей — жорсткі вынік*
*драмы:*
*Бо першы з жалю над сабой*
*Другому вызначыў напрамак.*

*2*
*Здрадзіў задуме змест,*
*Адгладжаны ўвесь — да жэста.*
*Прывабіў пазму тэст:*
*Драмаць у куфры сюжэта.*

*Дрымота зышла на сон.*
*А ў выніку ўсё лагічна:*
*Сон, каб трымаць фасон,*
*Вызначыўся летаргічна.*

*Прачнуцца змусіць мараль:*
*У негадзь ці ў светлым леце*
*Зачынены футарал,*
*Бо носяць яго не ўлегцы.*

## Базарная сага

*Нябёс прыцьмелую фальгу*
*Шаруе венікам завея:*
*Сарваў барыга на рагу*
*З яе на выпіўку за венік.*

*Знайшоў не на загубу крук:*
*Стуль хрысціць паству*
*рэпрадуктар.*
*Дае даведку: бач, урук*
*Найбольш прывабны між*
*прадуктаў.*

*У цэнах пасвіцца кульбіт.*
*Кума шліфуе зад і мову*
*І завязала на клубы*
*Фартух, да подзвігу гатовы.*

*А на плацдарме шашлыка*
*Мангал паветра смачна смокча.*
*І тут сваяк ад сваяка*
*Не могуць градусы замоўчваць.*

*Церазгалосіца і гам.*
*Натура — з порцый і настурцый.*
*Не пазайздросціў бы вігвам:*
*Тут ходзяць яўна не па струнцы.*

*На ўчынак праведнік нягож,*
*Затое грэшніка заносіць,*
*Як на патэльні басаnож,*
*І з кропляй шызаю пад носам.*

*Няздольны жмінда спагадаць.*
*Шынкар напышлівы залішне.*
*Калі б машну іх разгайдаць —*
*Муры на друз імгненна сплішчыць.*

*Натоўп рабрыны living ператоўк,*
*Але ў вачах імпэт нязгаслы.*
*Праходзіць чутка праз натоўп,*
*Як нож, залізаны, праз масла.*

*Паслухаў, змрочны, з бадуна,*
*І пальцы дробна задрыжэлі:*
*Не мае чарка, мабыць, дна,*
*А зверху, падла, даражэе!*

## Штрышкі з літпрацэсу

*Раней гула радка чупрына!*
*Зважай: таго — няма.*
*Радок зглушылі ратапрынтам,*
*Схавалі ціхама.*

*У пышным квеце ліхадаўцы,*
*У спеве — выдаўцы!*
*Віват знішчальнікам датацый!*
*Калі ўжо ім капцы?!*

*Юнак — за сорак — салавее,*
*Нібы марцовы кот,*
*І так шалёна салавеіць:*
*Зладзіў наркотны код?*

*З пялюшак плёткі гадаванец,*
*Змагар за гучны храп*
*Загроб на рошчыну аванец:*
*Адкінь сумнеў — арап!*

*Шліфуюць шлейфам калідоры,*
*Хто падкі на пірог.*
*Ды дасць любы з аўралу дзёру,*
*Бо ўцёчны спрыт зблрог!*

*Анёл стрыножаны ляйчынай —*
*На помач не заві.*
*Відаць, няздатным палічылі*
*Шляю з мякіны віць.*

*Катрынку нудзіць. Трубаў медных*
*Паволі знік запал.*
*І з літпрацэсам адпаведна*
*Такі расклад супаў.*

## Абуджэнне

*Брынькычыць бляшанкаю капеж.*
*Снягі сквірчаць, як на патэльні.*
*І быццам коннікі манеж,*
*Вятры дратуюць змрочны ельнік.*

*Надайце сонейку прыгод,*
*І лёд падтоплены заные.*
*А папяровы параход*
*Сябе адчуе сябрам Ніла.*

*Бярозамі натхнёны гай*
*Завей забудзе ператрусы.*
*Стаіць трывала на нагах,*
*Бо сам далёкі ад распусты.*

*Залётнік, вісус і басяк*
*Пацехаў вызначылі кодла.*
*Іржа залезла на бусак,*
*А самаход мяняе колы.*

*Расшпіліць світку сакавік.*
*Не ў міласць трапіць аблавушка.*
*Любові вечны рукавік*
*Вуркоча выбраным на вушка.*

## Світанак

*Раса адорвае сабой*
*Капытцы збуджаным ягнятам.*
*Хітае згодна галавой*
*Пастух — ягнятаў паганяты.*

*Палезла сонца праз драты*
*Атрэсці з шатаў сон кашлаты.*
*Раззявіць вольніца раты*
*У прагных гнёздах птушанятам.*

*Збірае бусел скарб з балот*
*Пінцэтам вострым у куфэрак.*
*А певень выбіўся на плот —*
*На шыі ірвануць каўнерык!*

*Чакае лета перамен,*
*А іх наўрад ці будзе лішак.*
*Хапаюць конікі прамень,*
*Каб на кавадле луга сплішчыць.*

*Ах, людцы! Гэтулькі забаў*
*Аднесла рэха на адхоны.*
*…На плоце пазяхае збан,*
*А значыць, што не спіць ахова.*

## Зазвычай пра звычкі

*На гушчы — марны лёс — гадаць!*
*Маніць сабе — таксама жорстка.*
*Вось нехта згодны галадаць,*
*А хтосьці схільны да абжорства.*

*Мужык, ля бутлі — не дыхні:*
*Інакш зыход — адно — лятальны!*
*А вось кабеце хоцьбы хны! —*
*Для слабкіх створана лякарня!*

*Не жарты — выжлукціць «з гарла»*
*Каронны нумар віртуозаў.*
*Да Магамета йшла гара,*
*А той — на дзіва! — быў цвярозы.*

*Лаўчылі чынныя мужы*
*Сцягнуць адзін з другога коўдру.*
*Няма навацыям мяжы,*
*Калі за іх бярэцца кодла.*

*Вунь дзед — эпохі караед —*
*Успомніў даўнія замашкі,*
*Калі і ён (бо прайдзісвет)*
*Хаваў замашкі ад Палашкі.*

*Глядзі, пакінеш спадцішка*
*Пад сподам з вечара заначку,*
*Дык ранкам, куме, не шукай:*
*Там вецер свішча — не іначай!*

*Зважай, да прыкладу, сусед —*
*Нашчадак дробнай шляхты,*
*мабыць, —*
*Ялей умее ліць як след,*
*І тым жаночы пол прывабіць.*

*Як зажадае дзень спачыць,*
*Прыспічыць месяцу купацца,*
*Цікаўным сама на пачын*
*Ў чужой бялізне акапацца.*

*Шчаслівы той — з драбавіком,*
*А гэты лашчыць клуб гарматы.*
*Сагнуты ў крук чарнавіком*
*Застаўся служка муз гарбатым.*

▸ ЗАПІСЫ

# ЗОРКІ І АТАМЫ

Мікола КАСЦЮКЕВІЧ



*

Чалавек — найвышэйшая, сацыяльная жывёліна і падпарадкоўваецца найвышэйшым, сацыялізаваным інстынктам. І між самі інстынктаў ёсць «лесвіца» — ад ніжэйшых целавых да этычных, эстэтычных і духовых.

*

Цікава. Шызафрэнія зазвычай суправаджаецца падвышаным юрам (не блытаць з пажадлівасцю ці з сэксуальнасцю), і шызафрэнія, як ведама — перакос, вычварнае станчэнне чалавечай псіхікі. (Як той казаў, чым вышэй культура, тым ніжай пацалунак.)

Дык вось... З інстынктаў мы вылузваемся, а далей — расце самаўсведамленне, расце нашая здольнасць бачыць сябе збоку, адбываецца абкультурванне, сацыялізацыя. І калі на высокім сацыяльным роўні вычварэнства становіцца асабліва вытанчаным (кліматычна) як культурна, так і фізічна, дык і выходзіць, што на шляху ўзрастання патрабуецца ўсё большая адказнасць, усё большая самадысцыпліна — элементарнае ўстрыманне. Але ж яно і найцяжэй даецца — нават проста для ўсведамлення! Бо вельмі лёгка адмаўляць тое, чаго шчыра не хочацца. На гэтым і спатыкаецца свабода волі. А маем — самападман...

*

Не дасі капеечку — аддасі кавалачак лёсу. Усё, што робім вонкава, некаму — робім сабе. Плюнуў — паслізнешся... І не абавязкова пасля...

*

— ...уяўляеш, які б я быў пашляк, каб не адмовіўся ад цябе, прынамсі, цяпер, пакуль жывы. Інакш, калі аддамся табе, губляюць сэнс мае ранейшыя ахвяры. Усё мае сэнс у запраўднасці, г. зн. у «неадсветагэтавасці». А калі я здалею тут і быць, і набліжацца да запраўднасці (у тым ліку і адмаўленнем ад цябе), дык і сам меціму сэнс, і цябе здалею апраўдаць...

*

Колішнія металічныя даспехі вырадзіліся: хараство — у серабрысты навагодні дожджык, эфектыўнасць — у бронекамізэлькі...

*

Ты нас малюеш, а мы зрываемся з паперы і пачынаем варушыцца. Якое ж моцнае Тваё ўяўленне, што мы не толькі існуем, але і можам не вяртацца...

*

Чым большая гатоўнасць прыняць, не трацячы любасці, ганьбу ў свеце і перад светам, тым большая вольнасць ад яго, ад свету. І таму на колькі ты запраўды вышэй, на толькі і будзеш гатоў...

*

«Калі ты гаворыш з небам — гэта малітва, калі неба гаворыць з табой — гэта шызафрэнія...», і яшчэ: «Народжаныя поўзаць любяць выклікаць народжаных лётаць на спаборніцтвы ў поўзанні...» — словы, якія міжволі, і досыць часта, успамінаюцца...

*

Творчасць — пакора перад Богам, а не перад светам, хоць часцей, на жаль, наадварот...

Найніжэйшы ровень — п'яныя вычаўпленні, найвышэйшы — творчыя засветкі, перфомансы, самарэклама, а існаць тут адна: дагадзіць свету...

*

«Бяда» савецкага спецназу ў яго залішняй «чалавекавасці». Ангельская каманда, праз сваю цывілізаванасць, болей ходзіць пад Богам. І выжывае. Стратэгічна і гістарычна. А Савецкі Саюз — ён максімальна чалавечы, занадта чалавечы і... чалавечны («усё для дабра чалавека, і мы нават ведаем імя гэтага чалавека»). Спецназаўцы ў яго былі найлепшыя: неістотна, дзе і што — у Аўганістане ці ў Эфіопіі ваяваць, ці Троцкага за акіянам замачыць — перашкодаў аніякіх, але... Але гэтак было, пакуль справа датычыла чыста земнага, чалавечага. Толькі ўсё і ўсюды абмяжоўваецца. Звыш! І вось увесь наш Савецкі Саюз красаваў, пакуль не захлынуўся ўласнаю гордасцю ды самазадаволенасцю — «мы найлепшыя»! А Брэжнеў — як чалавечы сімвал пасіянарнае прагніласці ўсяе сістэмы...

Які «касцюмчык» на лідары, такая і метафізіка...

*

П'янства — гэта спорт альбо цяжкая мужчынская работа. Адпаведна, спорт — гэта п'янства альбо цяжкая праца для запраўдных мужчын. І, нарэшце, запраўдная мужчынская праца — гэта ці спорт, ці п'янства...

Звычайнае п'янства — прымітыў... Але што такое прымітыўнасць? Прымітыўным уяўляецца тое, што ніжэй за нас паводле дасканаласці. Гэта недасканаласць, якая змагла пераадолець сябе і прабіцца на наш, вышэйшы за «іхны», ровень. Гэта трава, што ратуецца, ламаючы асфальт прыстойнасці...

*

Курэнне — найнезаўважнейшая і наймацнейшая несвабода, нястача волі як падсведамы супраціў Божай задуме пра сябе — натуральнаму, гарманічнаму выспяванню і ходу жыцця.

*

Вялікая спакуса для шукальніка — знайсці «сваю» кнігу, утаясаміцца і жыць згодна з ёй. У ісце, гэта таксама пэўнага кшталту ўцёкі ад рэальнасці, хоць і ўдае на мэту, а не на сродак, маўляў, дапамога на шляху...

Чым бліжэй стаіць адно да другога, тым няўлоўней адрозненне, і больш самападману...

*

Не могучы ці баючыся дасягнуць дасканаласці — выкідваюцца праз акно?

*

...і джаз — не паднятае для малітвы цела...

*

Няма ніякіх асаблівых «сакральных» ведаў у таямніцах і пакліканні. Проста маштабы замоўчанага такія, што ўтрыманне, здушэнне гэтых флюідаў і акумулюе адпаведную маштабную «загадкавасць».

*

Парнаграфія — гэта дзяцінства дарослага фізічнага цела, недаспеласць духу ў усведамленні земнага (фізічнага) быцця...

*

...дай стаяць перад Табой у служэнні Табе, як стаяць бездакорныя бліскучыя палкоўнікі-швайцары...

*

Мабыць, «загруз» музыкай натолькі запраўдны, наколькі адэкватна ён прыраўноўваецца да малітвы, так, што нават змена адрасату адбываецца...

*

І часам трэба моцны дух мець, каб не тузацца, маўчаць, не свяціцца, каб захаваць хоць каліва, хоць наменку на запраўднасць...

*

Не Бог для Беларушчыны, нават не Беларусь пад Богам, а Беларусь для Бога, Беларусь як Божае, як Бог — Беларусь...

*

Ёсць два шляхі: першы — праз алкаголь, наагул, праз усякі «адвяз», другі — праз самаабмежаванне, таксама нібыта «адвяз», але не вонкі (растратна), а ў сярэдзіну (назапашна?). Другі, бадай што, лепшы, бо таннейшы, а значыць — эфектыўнейшы. Большы, як той казаў, каэфіцыент карыснага дзеяння...

*

Найвышэйшае Дао — не думаць пра Дао...

*

Беларусь — не пасеізм, не пешчанне старой культуры, а пасіянарная мажлівасць, якая даецца на ідэальнае Ўцелаўленне Божай задумы аб земным існаванні... І будучыня — гэта земны Кітай і ідэальная Беларусь...

ЗША нібыта і «бытуюць» пад Богам, але ў плане будучнасці запсаваныя, лічы безнадзейна, сваёй пустой афіцыйнай «богадэклараванасцю»...

*

Хацелася б, не «Ў Парыжы ўспамінаецца Шчара», а «І ў Парыжы ёсць месца для Шчары...»

*

Чалавечая гордасць — спроба Стварцы перасягнуць нечалавечую ўпартасць.

*

...змаганне перайшло на ровень успамінаў...

*

Вобразы — ровень малітвы ўяўлення...

*

Запраўдная, жывая філасофія — ад разумення жыцця і ад самога жыцця. Твайго, не іншага. Наколькі ты глыбокі, натолькі і філасаф...

Любасць да мудрасці — спроба дакрануцца разуменнем да Стварцы...

*

Астралогія мыліцца, калі сцвярджае, што які нябесны знак, такія і якасці чалавека. Нібыта зоркі і планеты пры нараджэнні закладаюць у чалавека гэтыя самыя якасці... Насамрэч, чалавека выпускаюць (нараджаюць) згодна з ягонымі, Богам дадзенымі, якасцямі ў Богам жа створаны свет у пэўныя, найбольш адпаведныя і спрыяльныя перыяды, для якіх людзі ўжо нагледзелі характарыстыкі, назвалі задыякам — і панеслася... Такім спосабам другаснае ставіцца на месца першага, а Стварца наагул як бы і ні пры чым...

*

Сэнс запраўднай, г. зв. «метатворчасці» — выявіць не сябе, а пазамежнае. Праз свае адчуванні, праз сваё разуменне. Бо калі нам даецца Звыш, то і працаваць трэба на Звыш...

*

...калі Зямля — частка Бога (бліжэйшая да нас), дык вада — мыслёвая субстанцыя, а мы — найвышэйшая апрычонасць гэтага аднаго суцэльнага, злучанага вільгаццю ў целе, у паветры, у зямлі... Агульнае інфармацыйнае поле...

У космасе-целе гарыць жывое сэрца, і запраўды няма нічога іншага, апроч зямлі і жывога...

*

Калі чалавека перапаўняе непапраўная злосць, яго «адходзяць»...

*

Можа, ствараючы чалавека, адасабляючы яго, Стварца меў цікавасць, што ж выйдзе, цікавасць назіраць за спробамі свабоднага волевыяўлення, іх вынікамі. Ён і сфармуляваў універсальныя законы-запаветы, рэцэпт земнага чалавечага шчасця...

*

Нельга падмануць прыроду жаднымі аперацыямі амаладжэння, змянення... У ваякаў, прафесійных спартоўцаў суперсэксуальнасць зазвычай каўзальнае якасці. Цела можна гартаваць, развіваць, але не мяняць...

*

Птушыны свіст — тое ж рыпенне колаў у калёсах прыроды...

*

Шкада не сябе... Грэх разам з сабою марнаваць і Боскае дзеля пустога, што па-іншаму называецца д'ябальшчынай...

*

Эгаістычная абмежаванасць любасці да бацькаўшчыны ў прыраўнанні з любасцю да жанчыны палягае ў тым, што тут няма патэнцыялу андрагіннага выйсця ў любасць Божую...

А вось харызматычная эротыка ўлады з публічна дэклараваным адмаўленнем ад сям'і-жанчыны дзеля Бацькаўшчыны запраўды сягае андрагінату, здольнага ўзняцца да роўню Боскага...

І лепяцца да Беларушчыны чалавечыя «Я», адчуваючы патэнцыйнасць найвышняга. І дзякуй Богу, калі гэтае «Я» для Беларушчыны, а праз яе — і да Бога. На жаль, часцей наадварот...

*

Чым вышэйшы ці маштабнейшы, ці выкшталцонейшы ровень — тым непрыкметнейшыя, лёгкія, але і значныя паводле вынікаў даюцца праверкі. Адказнасць цалкам залежыць ад бездакорнасці. Маштаб і моц уплывовасці прапарцыянальныя бездакорнасці, аж да святасці...

Толькі з павышэннем роўню — усё часцей забываем тых, каго трэба ўважаць за спадарожнікаў ці папярэднікаў нашых дасягненняў. Чалавек як сродак. І няма ўсведамлення Бога як жарала. А на пакаранне за элементарную няўдзячнасць — працэс узыходжання марудзіцца ці анулюецца.

Хто на чым спатыкаецца...

*

...а казаць пра падставы нежадання (прыкладам, прыйсці ў госці) не варта ўжо хоць бы таму, што, агучаныя, яны становяцца прэтэнзіямі, якія, мала таго, што амаль заўсёды выглядаюць дробязнымі і беспадстаўнымі, дык яшчэ і вымагаюць контраргументаў, апраўданняў, уцягваюць у палеміку і г. д. Не хачу...

Богу — Богава, астатнім — іхнае...

*

«Хай Бог дае, куды ноч, туды і сон...». Зямля — як шарык у скрыначцы: усярэдзіне ідзе час, ноч-дзень, зіма, год, жыццё, а звонку — вечнасць...

*

Калі глядзець у тэлескоп — энергія зроку запальвае зоркі; мажлівасць сусвету — праз вочы чытаць чалавека...

*

Жанчына... Гітара... Калі жанчына побач, які сэнс па ёй сумаваць... Хіба дзеля вершаў...

*

...альбо яму начхаць на цябе, альбо ён хоча цябе, нягледзячы на цябе... Для мне ж ты заўсёды ёсць, разам мы ці не разам... І хачу я цябе за хаценнем тваім... і гэта няслушна толькі з нязбожнае чалавечае простасці...

*

Мабыць, найпрасцейшы і найдаступнейшы спосаб зірнуць Богу ці, скажам, д'яблу ў вочы — гэта пільна ўглядацца на сонца або на месяц. Ведама ж, з адпаведнымі наступнасцямі...

*

Каб пазбыць праявы ўласнае жывёльнасці, трэба сублімаваць яе ў саматычнае каханне. Ці проста завесці хатнюю жывёліну. Як для жанчын — найлепей ката.

*

«Я бы простил измену, если бы не любил...».

Найкаштоўнейшае для мужчыны — гэта жанчына. І калі той не хоча дараваць, значыць, адмаўляецца ад найкаштоўнейшага. Тут патрабуецца сіла, каб не вярнуцца, бо вярнуцца — слабасць. Гэта пры ўмове, што жанчына запраўды каханая, «твая».

*

Сядзім з ім за сталом, побач, як з дасканалым, вонкава нічым не адрозным ад чалавека... механізмам.

І творчасць — такая самая механічная рэакцыя на зададзеныя праграмы...

Дык яго (раўнае па сабе) і чужая душа мала займае, а чалавек цэніцца — наколькі ён карысны і «дляжыццядайны»: чаго дасягнуў, колькі зарабляе і г. д.

Аўтаматы, здольныя самаразвівацца...

*

Сакральнае імя Валянціна дазваляе носьбітцы пры паўнаце «мужчынскіх» якасцяў (іх вартасці) абсалютова максімальнічаць «жаноцкі»...

*

«Ніколі не быць вінаватым» можна ў двух выпадках: ці ён умее бездакорна-віртуозна апраўдвацца (майстар выкручвацца), ці сапраўды не вінаваты, таму што святы...

▸ **ГЕНАЦЫД**

# ТОЛЬКІ АДНА НОЧ: 29 КАСТРЫЧНІКА 1937 ГОДА

## (МІНСК, УНУТРАНАЯ ТУРМА НКВД)

*Леанід МАРАКОЎ*

**75 гадоў назад — 29 кастрычніка 1937-га, у дзень Ленінскага камсамола і, напэўна, у гонар 20-годдзя Кастрычніцкага перавароту, у сталіцы Беларусі адбылася акцыя, аналагаў якой яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва. На працягу ночы былі расстраляныя каля 100 грамадскіх, культурных і палітычных дзеячаў Беларусі. Па крупінках, на працягу дзесяці гадоў, мне лёсіла сабраць звесткі пра пакутнікаў.**



Спачатку былі адшуканы імёны чатырнаццаці закатаваных, потым дваццаці двух, трыццаці пяці, шасцідзесяці васьмі…Паралельна збіралася інфармацыя і пра сталінскіх апрычнікаў, нелюдзяў, якія катавалі і расстрэльвалі… І гэта аказалася самым цяжкім: бальшавікі правялі татальнае знішчэнне слядоў арганізаванага імі генацыду супраць эліты беларускага народа: спачатку забілі тых, хто расстрэльваў, а потым і галоўных выканаўцаў…

У Архіве прэзідэнта Расійскай Федэрацыі (вопіс № 24, справа № 411) захоўваецца «Список лиц, подлежащих суду военной коллегии Верховного суда Союза ССР». У спіс уключаны «ворагі народа» з усяго Савецкага Саюза ад Далёкаўсходняга краю, ад паўночнай ледзяной Комі АССР да сонечнай курортнай Крымскай АССР. Спіс датаваны 7 верасня 1937 год. І падпісаны І. Сталіным, В. Молатавым, К. Варашылавым, М. Яжовым. Спіс асуджаных па першай катэгорыі (да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу) па Беларускай ССР налічвае 103 чалавекі, па другой катэгорыі (прыгавораны да 10 і больш гадоў зняволення ў канцлагерах) — 6. Спіс па Беларускай ССР датаваны 15 верасня 1937 г. і падпісаны І. Сталіным, В. Молатавым і начальнікам 8 аддзела Галоўнага ўпраўлення Дзяржаўнай бяспекі СССР старшым маёрам У. Цэсарскім.

Згоду, дакладней, загад на знішчэнне па ўсім СССР тысячаў (атрымаецца мільёнаў) ні ў чым не вінаватых людзей далі вышэйшыя кіраўнікі краіны. Загад дадзены, і яго трэба было выконваць, а лепш… перавыконваць. Што і было зроблена ў невыпадкова прызначаную ноч.

29 кастрычніка 1937 года на працягу начы ў сутарэннях унутранай турмы НКВД (так званай «амерыканкі») былі расстраляны паэты Алесь Дудар, Юрка Лявонны, Валеры Маракоў, Ізі Харык (дадзены ў смяротны спіс, як і шэраг іншых дзеячаў культуры і грамадства ўжо мясцовымі энкавэдыстамі), Сяргей Мурзо, Зяма Півавараў, Міхась Чарот, Арон Юдэльсон, празаікі Платон Галавач, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Майсей Кульбак, Васіль Сташэўскі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Анатоль Вольны, літаратурныя крытыкі Якаў Бранштэйн, Саламон Левін, Пятро Хатулёў, Макар Шалай, журналісты Павел Шастакоў і Віктар Вайноў, наркамы асветы Аляксандр Вароначанка, Аляксандр Чарнушэвіч, крытык, публіцыст Хацкель Дунец, наркам юстыцыі БССР Максім Ляўкоў, нам. наркама земляробства БССР Аскар Сапрыцкі, адказны сакратар СНК БССР Іван Бурдыка, другі сакратар ЦК КП(б) Б Мікалай Дзяніскевіч, загадчык асобага сектара ЦК КП(б)Б Міхаіл Лабадаеў, сакратар Барысаўскага РК КП(б) Б Леў Маісееў, начальнік упраўлення па ахове аўтарскіх правоў пры СП БССР Іосіф Кудзелька, начальнік планава-фінансавага ўпраўлення наркама асветы БССР Дзмітрый Сялоў, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, педагог, рэдактар Аляксей Кучынскі, дзяржаўны дзеяч, педагог, публіцыст Язэп Каранеўскі, загадчык секцыі геаграфіі Інстытута эканомікі АН БССР Сцяпан Маргелаў, загадчык вучэбнай часткі Мінскага вышэйшага педінстытута Міхаіл Рыдзеўскі, фізік Яўген Успенскі, вучоны-аграхімік Рыгор Пратасеня, выкладчык Мінскага Белпедтэхнікума Ігнат Афанасьеў, настаўнік Іван Жывуцкі, студэнт гістфака Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта Саламон Лямперт — і многія іншыя невінаўныя ахвяры бальшавіцка-камуністычнага рэжыму…

Сёння ўжо цяжка ўдакладніць, калі — 29-га (у 23:45, да прыкладу) або 30-га (скажам, у 00:15) кастрычніка 1937-га — расстралялі беларускага празаіка і грамадскага дзеяча Янку Нёманскага, паэтаў Тодара Кляшторнага і Юлія Таўбіна, нам. загадчыка сельскагаспадарчага аддзела рэдакцыі газеты «Віцебскі пралетарый» Прохара Іспраўнікава, начальніка ўпраўлення вышэйшай школы наркамасветы БССР Вадзіма Башкевіча, нам. наркама асветы БССР Іосіфа Гершона, загадчыка аддзела школ і навукі ЦК КП(б)Б Мікалая Арабея, рэктара БДУ Ананія Дзьякава (Дзякава), старшыню ЦК прафсаюзаў БССР Захара Кавальчука, сакратара Варашылаўскага РК КП(б)Б Захара Кавалёва, начальніка ўпраўлення будаўнічых работ пры СНК БССР (?) Анатоля Аўгусціновіча, дырэктара трэста «Галоўхлеб» БССР Георгія Барзунова, начальніка ўпраўлення шкляной прамысловасці наркамата лёгкай прамысловасці БССР Мікалая Кандрашука, дырэктара Белпрамторга Саламона Кантара, загадчыка аддзела хлебнай групы наркамата ўнутранага гандлю Барыса Малова, сакратара Дзяржынскага РК КП(б)Б, члена ЦК КП(б)Б (з 1937) Барыса Мар'янава, кансультанта ўпраўлення справамі СНК БССР Дзям'яна Міхайлава, дырэктара Гідролізнага вопытнага завода наркамата мясцовай прамысловасці Сяргея Міцькова, кансультанта СНК БССР па камунальных і транспартных справах Васіля Петрушэню, загадчыка сакратарыята СНК БССР Якава Спектара, наркама саўгасаў БССР Андрэя Турлая, загадчыка лабараторыі Віцебскай ветэрынарнай станцыі Івана Карпенку, нам. дырэктара па навуковай рабоце Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі Элізара Мазеля, загадчыка кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Якава Сандамірскага, загадчыка лабараторыі Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі Паўла Мухіна, загадчыка лабараторыі біяфабрыкі №5 у Віцебску Панцялея Сердзюка.

Уключаныя ў сталінскі смяротны спіс начальнік ветэрынарнага ўпраўлення наркамата земляробства БССР Пасманік Міхаіл Львовіч (нарадзіўся ў 1903), яго намеснік Іваноў Аляксандр Васілевіч (нар. у 1898) і старшы ветэрынарны ўрач ветэрынарнага ўпраўлення Гурскі Канстанцін Іосіфавіч (нар. у 1903) (разам з машыністам паравознага дэпо станцыі «Мінск» Бяганскім Іосіфам Вікенцьевічам (нар. 1. 1.1881), бацькам таксама рэпрэсаванай пісьменніцы Ядвігі Бяганскай і 20-цю іншымі далучанымі да спіса мясцовымі энкавэдыстамі) 17 кастрычніка 1937 года былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны.

Наркам унутранага гандлю БССР Гурэвіч Нохім Гіршавіч (нар. у 1895), падчас арышту беспрацоўны Ермакоў Мікалай Паўлавіч (нар. 1.5.1894; 4.11.1937 была арыштавана, а 28.11.1937 асуджана да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР яго жонка Ермакова Францішка Іванаўна), загадчык кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Міхееў Мікалай Іванавіч (нар. у 1905), загадчык складам «Галоўнафты» Пятрашын Кузьма Рыгоравіч, падчас арышту беспрацоўны Пітомцаў Міхаіл Мікітавіч (нар. 13.11.1902; 4.11.1937 была арыштавана, а 28.11.1937 асуджана да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР яго жонка Пітомцава Аляксандра Георгіеўна, настаўніца Мінскай школы №6 ), нам. начальніка штаба, палкавы камісар 16 стралковага корпуса Паплыка Іван Майсеевіч (нар. у 1890; 25.9.1932 органамі АДПУ быў арыштаваны і 2.12.1932 асуджаны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай кулацкай арганізацыі» да 5 гадоў ППК Паплыка Сцяпан Майсеевіч, яго брат; 6.11.1937 (разам з сынам Канстанцінам; нар. у 1917) была арыштавана, а 16.5.1938 асуджана да 8 гадоў зняволення і выслана ў Краснаярскі край яго жонка Паплыка Юлія Іванаўна, загадчыца чытальнай залы Магілёўскай цэнтральнай бібліятэкі), вайсковец, старшы афіцэр БВА Пратапопаў Апалон Уладзіміравіч, ветэрынарны ўрач Віцебскай біяфабрыкі Чарняк Мікалай Платонавіч (нар. у 1885; 15.11.1937 была арыштавана, а 16.5.1938 асуджана да 8 гадоў ППК і фельчар Віцебскай чыгуначнай бальніцы Чарняк Марыя Еўсцігнееўна, яго жонка; хутчэй за ўсё былі

**Загад на знішчэнне па ўсім СССР тысячаў (атрымаецца мільёнаў) ні ў чым не вінаватых людзей далі вышэйшыя кіраўнікі краіны**

рэпрэсаваны і іх дзеці), ветэрынарны ўрач Віцебскай біяфабрыкі Чачура Канстанцін Георгіевіч (разам з загадчыкам кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Кляніцкім Віктарам Сымонавічам (нар. у 1879), загадчыкам кафедры анатоміі гэтага ж інстытута Абуховым Барысам Аляксандравічам, загадчыкам кафедры заагігіены інстытута Старынскім Васілём Сямёнавічам, дацэнтам інстытута Качанавым Герасімам Артамонавічам (нар. у 1907), пробашчам касцёла кармелітаў у Чавусах Магілёўскай вобл. Казюнасам Паўлам Мацвеевічам (нар. 1868), выкладчыкам Магілёўскага сельскагаспадарчага тэхнікума Маеўскім-Лукшам Давыдам Якімавічам (нар. у 1899), прафесарам Віцебскага медыцынскага інстытута Троіцкім Іванам Васілевічам (нар. у 1893), дырэктарам Мінскага (Беларускага) навукова-даследчага інстытута прамысловасці Слонімам Самуілам Захаравічам (нар. 30.9. 1888), праваслаўным святаром Раеўскім Аляксандрам Сямёнавічам (нар. у 1868) і 30 далучанымі да спіса мясцовымі энкавэдыстамі) былі асуджаны да ВМП і расстраляныя 31 кастрычніка 1937 г.

29 кастрычніка 1937 года толькі ў Мінскай турме НКВД энкавэдысты расстралялі не менш за 70 чалавек (праўдападобна, больш за 100). І заўважце — каго! Дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, навукоўцы, літаратары, работнікі асветы. Ніколі — ні раней, ні пазней — такога адсеву не рабілася. Вынішчалі эліту беларускай інтэлігенцыі, мозг нацыі... Вынікі таго расстрэлу мы адчуваем нават цяпер, праз 75 гадоў! Страх, што ўеўся ў нашыя гены, душыць, як пятля сціскае нашыя шыі, не дае дыхаць...

У тым юбілейным для бальшавікоў 1937-м, калі іх гвардзейцы-энкавэдысты пачалі татальнае вынішчэнне інтэлектуальнай беларускай эліты, толькі за тры восеньскія месяцы пачварамі таталітарнага рэжыму было рэпрэсавана больш за 500 грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі.

Рэпрэсавана… Знайшлі ж бальшавікі слова! Не канкрэтнае: расстраляны або загублены на катарзе, ці замардаваны ў высылцы, а замежнае, не кожнаму да канца зразумелае — рэпрэсаваны (з лацінскай repressor — падаўленне). Не, гэта было не падаўленне, гэта было вынішчэнне, генацыд супраць беларускага народа!

…А яшчэ першага жніўня 1937 года на вялікім вогнішчы ў «амерыканцы» энкавэдысты Сакалоў (нам. начальніка Мінскай унутранай турмы НКВД), Абрамчык і Гарбацэвіч знішчылі — спалілі! — некалькі дзясяткаў тысячаў (!) рукапісаў беларускіх літаратараў. Гарэлі творы, якія не «прайшлі» цэнзуру або пісаліся ў стол, для нас, нашчадкаў. Гарэлі рукапісы М. Багуна, С. Баранавых, А. Вольнага, П. Галавача, У. Галубка, Ц. Гартнага, С. Дарожнага, А. Дзеркача, А. Дудара, Х. Дунца, М. Зарэцкага, С. Знаёмага, В. Каваля, Т. Кляшторнага, М. Кульбакі, Ю. Лявоннага, В. Маракова, С. Мурзо, Я. Нёманскага, З. Півавара, С. Ракіты, А. Розны, В. Сташэўскага, Б. Тарашкевіча, Ю. Таўбіна, У. Хадыкі, І. Харыка, М. Чарота, В. Шашалевіча, А. Юдэльсона і многіх іншых. Гарэла амаль уся спадчына пісьменнікаў «першага прызыву»…

Няма чалавека — няма толькі адной праблемы.

Няма рукапісаў — няма пісьменнікаў, няма гісторыі, няма нацыі!

Нашу гісторыю разам з нашым народам ЯНЫ ўвесь час і выкарчоўваюць. Калі мячом, калі агнём…

СКРЫПТОРЫЙ

# ПОЎНЫ КЕЛІХ

Мікалай ПЛАВІНСКІ

## На магіле Максіма Танка

*Паўрасталі ў пясок камяні*
*На магілах тваіх сваякоў,*
*Заліваюць святлом прамяні*
*Бэлькі двух велічэзных крыжоў.*

*Ты спачыў назаўжды — у зямлі,*
*Што твяёю Радзімай была,*
*Дзе пад кроплямі вашай крыві*
*Беларусь незаўважна расла.*

*Але час той даўно адышоў,*
*Супынілася краю жыццё.*
*Пад наглядам старых валуноў*
*Вы, яе песняры, лежыцё.*

*А крыжы на магіле тваёй,*
*Як для нас напамінак адно —*
*Аб Заходняй, Табе дарагой,*
*І Усходняй, мінулай даўно.*

**Жнівень 2012**

***

*Для N.*

*Туманы, ліхтары і таксі*
*Ў надыходзячым восеньскім золку*
*Ты мяне узгадаць не прасі*
*Паслязаўтрашнім надвячоркам.*

*Бо яшчэ не было нас тады*
*На парозе пярэстай завеі.*
*Толькі я, а яшчэ толькі Ты*
*І такія чужыя надзеі.*

*А цяпер Ты сядаеш бліжэй,*
*Нам спяшацца нікуды не трэба,*
*На стале астывае глінтвейн,*
*А за вокнамі — неба.*

***

*Вясновы снег*
*Дзівосна недарэчны,*
*Як часу бег,*
*Якому мы пярэчым,*
*Турботаў мех,*
*Што прыціскае плечы,*
*Як першы грэх,*
*Адвечны чалавечы.*

***

*Фары начных машын —*
*Як зоры далёкіх сусветаў.*
*Чаму, шэрых вуліц сын,*
*Раней ты не думаў аб гэтым?*

*Чаму не зважаў ты на іх*
*У пошуках годнае мэты?*
*Мо проста ад зорак чужых*
*Ніколі не быў ты сагрэты?*

***

*Ці то настрой, нібы надвор'е,*
*Ці то надвор'е, як настрой,*
*Бо не сустрэць цябе мне болей*
*Зімовай мінскаю вясной.*

*Пад красавіцкім мокрым снегам*
*Блукаць да рання аднаму,*
*Але зрабіць нічога з небам*
*Я ў адзіноце не змагу.*

*Хіба ж цяпер вясны не будзе?!*
*Ўсё з-за цябе і з-за мяне.*
*А зацярушаныя людзі*
*Дарэмна скардзяцца на снег.*

***

*Астраномы спрачаюцца аб тым,*
*як узнік сусвет.*
*Дзіўныя людзі, хіба гэта не зразумела?*
*Усё вельмі проста.*
*Каб зразумець,*
*трэба толькі сядзець у восеньскай кавярні*
*з кубачкам кавы,*
*і каб Яна сядзела насупраць, глядзела ў акно*
*і, нечакана, зірнула на цябе.*
*І менавіта ў гэты момант*
*можа нарадзіцца сусвет,*
*неабсяжны і непазнавальны*
*ні для якіх астраномаў.*
*А можа і не нарадзіцца…*

***

*Табе так хочацца Калядаў,*
*Каб ззялі свечкі на вакне,*
*І каб сняжок пад вечар падаў*
*Павольна, ціха, як у сне.*

*У сне салодкім і чароўным,*
*Дзе мары збудуцца — усе,*
*Дзе твой анёл у строі модным*
*Куфэрак шчасця прынясе.*



***

*Бачыш гэты пусты келіх*
*з глыбокай расколінай?*
*Гэта я.*
*Напоўні яго сабой!*
*Напоўні сваімі марамі і жаданнямі,*
*сваім сумам і слязьмі,*
*усім, чым ты ёсць!*
*І тады келіх зноў заззяе на сонцы*
*featureснакаляровымі промнямі,*
*такімі ж зіхоткімі, як Ты!*
*А расколіна няхай застанецца.*
*Яна будзе напамінам,*
*аб тым, што келіх*
*заўжды мусіць быць поўным!*

***

*Дзякуй Табе!*
*Першай,*
*што, адкрыла таямніцу*
*для мяне,*
*які даўно пакаштаваў*
*амаль усё.*
*Дзякуй за рыфму і рытм*
*і за тое, што іх няма і не будзе,*
*бо ў вершы рытму няма*
*і не можа быць.*
*Бо ён арытмія,*
*бо ён асфексія,*
*бо ён смерць…*
*І ён жыццё,*
*а жыццё не ёсць рытмам,*
*не ёсць праўдай, не ёсць вершам.*
*Яно — проста жыццё.*
*Таму дзякуй за жыццё!*
*І за смерць… усіх былых жыццяў.*

***

*Восень распачнецца не з дажджоў*
*І не з лістападавай завеі,*
*Бо схавае ў вэлюм тumanоў*
*Жоўтыя кляновыя завеі.*

*Золкім ветрам вулкай прабяжыць,*
*Стукне ў шыбу вожыкам каштана,*
*Кропляй у павуце заімжыць,*
*Зробіцца адзінаю жаданай.*

*Ты яе дадому запрашай,*
*Прапануй віна альбо гарбаты.*
*На настрой яе не наракай*
*І забудзься на былыя страты.*

# ПЕСНЯ БУДЗЕ…

Насця СІДОРКА

## Ікона

*Бы сонца-зніч, што асвятляе шлях,*
*Бы сонца-ўсход, што просіцца ў нябёсы,*
*У вечнасці, нібыта ў прамянях,*
*У вечнасці, як ранкам травы ў росах…*

*Ёй з неўміручасці да нас ісці*
*Матуляю з пяшчотаю заўсёднай,*
*Дачкою, што ў сваім зямным жыцці*
*Зрабіла столькі, як ніхто з князёўнаў…*

*У шчасці й горы будзем памятаць*
*Спакойны поступ, позірк сіні-сіні*
*І на калені не забудзем стаць*
*Перад святой іконай Еўфрасінні.*

## Чаканне

*Старая хата ў аканіцах сініх.*
*Шарэюць вокны, мытыя даўно.*
*Шаснаццаць год чакала маці сына,*
*Забранага афганскаю вайной.*

*Ад ветру хусткай ахінала плечы,*
*Выходзіла на сцежку кожны дзень.*
*Як заўважала постаці сустрэчных,*
*Уздрыгвала: мо гэта сынаў цень?*

*Чакала летам, сумнаю зімою,*
*Чакала ў спёкі час, у дождж і снег.*
*Чакала — вось-вось прыйдзе ён дадому,*
*І зноў пачуецца юначы смех.*

*Дзе ж ён цяпер? І з кім? Мо адзінокі?*
*Дзе сын яе, сыночак дарагі?*
*Сустрэць бы зноўку позірк сінявокі,*
*Іскрысты, як блакітны сцяг ракі.*

*З-за плота вызіраюць рэшткі саду.*
*Яе няма… Няма каму чакаць…*
*Але, бы людзі, памятае хата —*
*Па маці й сыну сумаваць.*

## Сонечны шлях

*Першы ранішні промень скаціўся з нябёс*
*І пабег па высокіх дамах.*
*Асвятліў непрытомны рачулкавы плёс,*
*Паляцеў па зялёных садах.*
*І траву ўскалыхнуў, і расквеціў асфальт,*
*Не заблытаўся ў парку старым, —*
*Заскакаў, заіскрыўся і кінуўся ўдаль,*
*Каб зрабіць сонны горад жывым.*



Насця нарадзілася 13 чэрвеня 1997 года ў Брэсце. Праз два гады з бацькамі пераехала ў Жабінку, дзе жыве і закончыла дзявяты клас сярэдняй школы №3. Пераможца абласнога конкурса маладых паэтаў і празаікаў.

«Сур'ёзна» пачала пісаць у пятым класе — дзякуючы настаўніцы Святлане Васільеўне Пятручык. Сваім настаўнікам паэзіі называе земляка Алеся Каско.

Закончыла клас фартэпіяна ў школе мастацтваў. Добрая музыка, пераканаю Насця, дае штуршок для вершаў.

## Песня

*Сонца ўстала маладое*
*Над расянаю зямлёй,*
*Травы, кветкі абудзіла,*
*Абагрэла пчолаў рой.*

*Залучыла ў песню лугу*
*Жавароначкаў званкі,*
*Пошум ветру, шэпт чароту,*
*Плёскат срэбнае ракі.*

*Тая песня будзе доўга*
*Родны апяваць куток.*
*Толькі словы потым зменіць,*
*Новы выдыхне радок…*

***

*Быў надвячорак; промні веснавыя*
*Павoлі ападалі на траву,*
*На стомленыя крыльцы залатыя;*
*Спаў матылёк, схіліўшы галаву.*

*Ён сніў палі, што ўлетку каласяцца,*
*Чуў пах рамонкаў, спеўны шэпт лясоў,*
*Крыніцы, што паміж дубоў бруяцца,*
*Гаворку краю — скарб палешукоў.*

*Так лёгка навакол было і проста,*
*Так ціха, што кружыла галаву…*
*Спаў матылёк, бы трапяткі пялёстак,*
*Які зляцеў раптоўна на траву.*

РЭЦЭНЗІЯ

# ТРЫВОЖНЫЯ ПОШУКІ ЗЯМЛІ

## (ВАНДРОЎКА ПА НОВАЙ КНІЗЕ ПРОЗЫ ЛЯВОНА ВАЛАСЮКА «ВЯРТАННЕ БЕРАСЦЕЙСКАЙ СТРАЛЫ»)

Юрый ПАТАЛКОЎ

**Душа прагне чытання. Чаму? Адказу няма. Ну што новага можа распавесці мне пісьменнік? Ён жа таксама чалавек, як і я. Але вось чытаю, плачу пры гэтым ці смяюся і зноўку перачытваю дзівосныя, як аказалася, старонкі. Дык што патрэбна мне ад кнігі?**

Адказ на гэтае пытанне можна, як мне падаецца, адшукаць толькі пагадзіўшыся з думкай, што стварэнне мастацкага вобраза (як і кожнае стварэнне на свеце) пачынаецца не з чалавека, а з Усявышняга. І вось да Яго, Першапачынальніка, інтуітыўна ва ўратаванне сваё цягнуцца душы і пісьменніка і чытача. Калі чуеш: «У сваім творы аўтар паказвае нам…», робіцца прыкра. Каб гэта пісьменнік дакладна ведаў, што канкрэтна ён паказвае нам! Можа, і разумее якую існасць яму хочацца паказаць... Але чытачу — не да гэтых разуменняў: чытанне — Бога чаканне. Бога! Ідэала! Ратаўніка! Збавіцеля! А інакш — які сэнс у чытанні? Кніга патрэбна мне для святога майго супрацоўніцтва з Божым тварэннем. Якое не спыніцца ніколі…

У 2012 годзе выйшаў з друку другі па ліку празаічны зборнік вядомага берасцейскага паэта і мастака Лявона Валасюка «Вяртанне берасцейскай стралы», у які ўваходзяць раманы, аповесці, апавяданні, абразкі. Чытач гэтай кнігі ад першых радкоў пачынае не столькі давядвацца пра нешта знешняе ў адносінах да сябе, колькі спасцігаць самога сябе — новага і незвычайнага.



Перыпетыі рамана «Не здабыўшыя зямлі абыходзяцца балотам» (з яго пачынаецца кніга) неверагодныя і нават цьмяныя: акрамя звычайнага жыцця персанажам даводзіцца пабываць і ў паралельнай рэальнасці. Вірлівыя нечаканасці сюжэта — справа не вызначальная. У чым рэальным жыцці не сустрэнеш галавакружных паваротаў ды цяжка вытлумачальных супадзенняў? Пісьменнік (мімаволі!) падпарадкоўвае кожны радок свайго твора закону, які ўстаноўлены Боскай Адвечнасцю.

Назва рамана створана чалавекам-крэатарам Лявонам Валасюком: зямля для яго — гістарычная памяць, балота — адсутнасць такой памяці. Але перадасноўна назвы — Біблейскае «Кожнаму — па справах яго» — выток Найсвятлейшы, Надчалавечы…

У рамане прысутнічае ўсё неабходнае для выказвання сутнасці, а менавіта — пытанне да мяне пра тое, здабыў я ў сваёй паўсядзённасці зямлю ўзнёслаcці ці абыходжуся балотам непатрэбшчыны. Калі — абыходжуся балотам, дык ці стане ў мяне сілаў на чаканне Бога?

Наступны твор кнігі раман «Вяртанне Берасцейскай стралы». У ім — Мастак, Дзяўчына, Каханне, Гісторыя і зноў-такі тое самае велічнае Нешта, Богаданая моц якога вызначае суладдзе гэтага свету. Зброяй гісторыі ў творы аказваецца Берасцейская страла, якая воляю пісьменніка дзейсна праяўляе сябе і ў Берасці XII стагоддзя, і ў сучасным Брэсце. Стары Горад Брэст, якога даўно няма, бо на яго месцы пабудавана Крэпасць, ва ўсім сваім некранутым харастве міражом прадстае перад закаханымі Мастаком і Дзяўчынаю.

Страла ўвасабляецца ў форме Межавага Слупа, які стаіць паміж землямі крэпасці і горада. Стралу паўтарае манументальны Штык у Цытадэлі. А галоўнае — Страла назаўсёды жыве ў Гербе горада. Пісьменнік у рамане прамаўляе галоўнае: «Вяртанне Берасцейскай Стралы працягваецца». Такое Вяртанне, — не балота агіднай мізэрнасці, а зямля адвечнага служэння найшляхетнейшым законам быцця. Яно — моц надчалавечая. Людзі часам сваёю карыслівасцю ды лянотай супрацьстаяць Страле. Але Вяртанне яе ад гэтага не затрымліваецца.

У аповесці Лявона Валасюка «Студэнцкія канікулы» мінулае (у постаці прывіда, які шукае захаваныя ім пры жыцці скарбы) амаль што фізічна прысутнічае сярод падзей сучаснасці і дае персанажам нагоду для значных маральных высноў. Галоўны герой аповесці — студэнт Міхась — выказваецца на гэты конт такім чынам: «Мы бачым рэшткі памяці. Гэта напамін нам не забыць мінуўшчыну... І гэты прывід, мо і не прывід, а павевы мінуўшчыны, што не адпускае нас…».

Лявон Валасюк — рамантык, відавочны наслядоўнік гераічнага эпасу з яго манументальнасцю, накіраванасцю на асэнсаванне знакавых падзей, якія глыбока ўрэзаліся ў народную памяць і пераўтвораны народнай фантазіяй.

Можна б было сказаць, што азначаная эпічнасць — шчаслівая асаблівасць творчасці асобнага мастака (у даным выпадку — Лявона Валасюка). Але справа, на наш погляд, аказваецца значна больш складанай. Не мастакі ствараюць адвечнасць, а адвечнасць стварае мастакоў. Сучасная беларуская душа ў асаблівай ступені прагне вытокаў гістарычнай памяці. Так вырашае Яго Вялікасць Час (у кнізе Валасюка гэта Нехта ці Нешта). Вырашае Ўсявышні. Беларусь вяртаецца да сябе праз эпічнасць. Накіроўваючы нас (і перш за ўсё — творцаў прыгажосці) да ўспрыняцця і стварэння нацыянальнага мастацтва, адвечная Радзіма пранізвае сучаснікаў пачуццём той шляхетнейшай місійнасці, якая пульсуе ў кожным наймалейшым і , здавалася б, паўсядзённым момант беларускай гісторыі. Пранізвае, не пытаючыся нашай згоды на цяжкую працу душы: такія суды Божыя, такі паратунак.

Мастацтва — дапамога чалавецтву ў чаканні Усявышняга. У кнізе Лявона Валасюка — і аповесць-дзённік «Дзямоба». Дзённік... Ну якая тут эпічнасць? Апошнія радкі «Дзямобы» такія: «Дзед паціху паклыпаў да кароў. а я застаўся з бабуляю, панасіў вады з калодзежа. Трэба было яшчэ зайсці і да роднай цёткі Даркі, і да стрыечнай сястры Марыі... Але найбольш цешыла тое, што прыехаў у вёску, пабачыў дзеда з бабуляю, глытнуў так важнага для мяне роднага паветра на дзедавым падворку...».

Што тут? Паўсядзённасць ці эпічнасць? Не ведаю як у кім, але ўва мне гэтыя радкі нараджаюць пачуццё царквы, адчуванне іканастаса, у якім асобнымі іконамі — і дзед, і бабуля, і цётка Дарка ды сястра Марыя. Перад гэтымі іконамі душа прагне паклалнення і ачышчэння. Эпічнасцю абарочваецца апісаная ў «Дзямобе» паўсядзённасць. Так, кожны з чытачоў дзённіка Лявона Валасюка можа замест згаданых імёнаў паставіць свае. Але галоўнае, каб не знікала пачуццё іканастаса, каб чытанне не пераставала быць Бога чаканнем. А гэта азначае, што не павінна пакідаць душу адчуванне значнасці кожнай хвіліны яе зямнога быцця.

І не пакідае. Да прыкладу, у апавяданні «Комін» распавядаецца пра чалавека, якому патрэбна было ў доміку на яго лецішчы зрабіць комін. Майстроў адшукаў лёгка. Але ўрэшце прыйшлося комін складаць самастойна. І неблага атрымалася. Майстры ж тыя аказаліся звычайнымі ашуканцамі, для якіх пляшачка гарэлкі — найвялікшая мэта і мяжа шчасця. Маленькі сюжэцік... А ў ім — усё тая ж праблема ірацыянальнага выбару паміж зямлёю існасці і балотам мізэрнасці душэўнай.

Апавяданне «Комін» — мініяцюрны знак галоўнейшай эпічнасці жыцця, сэнс якой у тым, што кожны з нас, асобна, — і сусвет, і ў той жа час — абаронца сусвета. Але як жа цяжка быць гэтым абаронцам! Ніхто за мяне ў маім доміку, у маёй радзіме коміна не збудуе. І нікому іншаму не вырашаць за мяне: да зямлі ісці ці да балота…

Дык дзеля чаго прыйшла да нас выдатная проза берасцейскага майстра? Адказ можа быць толькі адзіны: дзеля таго, каб нам станавілася трывожна. Трывожна ў самым шляхетным, стваральным, Богачакальным сэнсе. Менавіта ў такой мэтанакіраванасці мастацтва і ўвасабляецца запаветная ініцыятыва Госпада. І дзякуй паважанаму Лявону Валасюку за тое, што сваёю кнігай ён да гэтай адвечнай ініцыятывы спрычыніўся.

УРАЖАННІ

# «СТРЭМКА» СЕРЖУКА СЫСА

Таццяна БАРАДУЛЯ

* * *

*Сержуку Сысу і ўсім беларускім паэтам прысвячаецца*

*Стрэмка-сэрца-Смутак-Сыс.*
*Не глядзі, Сяржук, уніз!*

*Стрэмку з сэрца выдзірай,*
*зорны рай чапляй за край!*

*І не ценем, а крылом*
*(пекла хай ляціць на злом)!*

*Сэрца верай атулі –*
*разальюцца па зямлі*

*радасць і любоў, і Бог*
*лабірынтамі дарог*

*будзе да пляча плячом,*
*да крыла твайго — крылом!*

«…Сваю Радзіму і свой светлы Смутак я стварыў сабе сам», — дэкляруе Сяржук Сыс у прадмове да ўласнага зборніка вершаў «Стрэмка», які пабачыў свет у 2011 годзе ў выдавецтве «Кнігазбор» у серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка».

А хіба магчыма адчуваць хараство і гармонію навакольнага свету, яго непаўторнасць і незваротнасць кожнага імгнення знаходжання сябе ў стане зачараванасці гэтым харастве без адначасовага адчування смутку? Для нас, беларусаў, — не.

Смутак... Светлы і невыкараняльны… Ён глыбока ўвабраўся ў нацыянальны светапогляд, светаадчуванне і светаўспрыняцце. Ён — спрадвечны. Таму можна было б аспрэчыць сцвярджэнне аўтара: «…я стварыў сабе сам». Мяркую, што гэта працэс узаемастваральны.

Але хоць смутак і стаўся фонам, на якім перад намі «праплываюць» створаныя вобразы і дэталі, а таксама разгортваюцца падзеі, пра якія апавядае аўтар, не ён — галоўнае. А ўражваюць найперш вобразы і метафары: яркія, адметныя, незвычайныя (вершы «Вадалей», «Кропля», «Яднанне», «Дрэва», «У сіроцкім жытле», «Трыпціх сутоннай душы», «Дзеці Сонца», «Самота ля старадаўняга касцёла», «Друскенікі» ды шматлікія іншыя, якія хочацца пералічваць ды перачытваць).

Аўтар выдатны апавядальнік: ледзь не кожны другі верш — быццам малюнак з натуры альбо пейзаж: чытаеш — і адразу ў дэталях бачыш карцінку, апынаешся ўнутры яе (вершы «***Я забіты…», «***Скончыцца праца…», «Зімовым шляхам», «У верасовым лесе», «***Божа…», «Паненка дажджу», «***Калі твае крокі — адзіная музыка ночы…», «***У парку пустэльным…», «Вужыная поўня», «Змяіны цар», «Сад вогненных сліўняў», «Вартавыя сноў» і інш.).

Аўтар любіць пасмяяцца, паіранізаваць, падзяліцца ўсмешкай з чытачом (дзе — шырокай, адкрытай, а дзе — прытоенай, прыхаванай, адно яе выдаюць іскрынкі вачэй, што так і бачыш, чытаючы вершы «У мястэчку», «Залацісты цмок», «Майстрыха», «Слуп і бярозка», «Бывай, Ярынечка», «Бэз», «***Па дарозе між Крэвам і Ракавам…», «Аблачынка»).

Ёсць у зборніку вершы вострасюжэтныя, як фрагменты трылераў; яны быццам «працінаюць» душу чытача нейкім раптоўным непакоем і няўцямнай трывогай («Белакаляровы верш», «Чалавек у чорным паліто», «Зло», «Дзяўчына», «Люстэрка»).

Але болей за ўсё ў вершах С. Сыса мне падабаецца энергетыка: моцная, стваральная, напорыстая, якую далёка не часта можна сустрэць пасярод нашай усеагульнай млявасці ды абыякавасці да жыцця. «Унутры» карцінкі, «намаляванай» паэтам, нават скрозь сузіранне выпраменьваецца парыў, імкненне, рух, дзеянне (вершы «Хадзем са мной!», «Быць альбо не быць», «Залатыя міроны», «***Новы дзень размалюе па-новаму…», «Парасон», «Калі былі маімі рэкі», «Мой Дняпро», «***У чайне па вялікай вадзе…», «***Мы тут жылі, жывём, нам трэба жыць…»).

А напрыканцы аповеду пра мае ўражанні ад «Стрэмкі» зноў хачу трохі паспрачацца з аўтарам. Вось цытата з ужо згаданага верша «Люстэрка»: «Глядзіцца ў люстэрка смерць,/ каб там убачыць мяне». Але ж на старадаўніх гравюрах смерць выяўлялі з адсутным тварам. Значыць, у яе няма вачэй і, як следства, ёй няма чым глядзецца ў люстэркі. Адсюль лагічна вынікае, што яе няма. Няма ў тым разуменні, у якім мы яе баімся. Таму цалкам далучаюся да Сержуковай парады: «…забыцца на смерць адгэтуль».

І яшчэ. Каб спраўдзіць «Крозы пра нябёсы»: «Толькі розумам як зразумець/ Тых людзей, што лятуць у Шагала?/ Значыць, можна… іх бачыў мастак…/ Значыць, праўда, што лётаюць людзі?/ Можа, заўтра з якога маста/ Сігану стрымгалоў./ Будзь, што будзе», — хочацца закрычаць што ёсць моцы: не варта з маста, Сяржук! Больш уражанняў і па сваёй працягласці, і «крылатасці» атрымаеш ад скокаў з парашутам (праверана мной асабіста). Балазе, аэраклуб пад Мінскам у Баравой ёсць…

Удачы і натхнення, Сяржук! І беражы сябе, калі ласка! Белліту вельмі патрэбны твае насычаныя, энергетычныя, іранічныя і дасціпныя вершы!

ЛЕКТОРЫЙ

# «ПЕСНІ ЦЯГУЧЫЯ, ПЕСНІ ПАКУТНЫЯ»

## ТУРМА І ТВОРЧАСЦЬ ЯКУБА КОЛАСА

Анатоль ТРАФІМЧЫК

**Сапраўднай праблемай для беларускага літаратуразнаўства аказалася ацэнка творчасці Якуба Коласа турэмнага перыяду. Што праўда, не ўсёй. Паэмы — «Новая зямля» і «Сымон-музыка» — былі задуманы ў зняволенні, а трэцяя частка «энцыклапедыі беларускага сялянства» — там напісана. Аднак не яны сталі прадметам дыскусій, а кароткія вершаваныя творы.**



Якуб Колас у турме. Мастак Уладзімір Сулкоўскі

Акрамя зачыну дзвюх вялікіх паэм, у вязніцы былі створаны сотні вершаў — гучных, пранізлівых, шчырых… Па свежых слядах літаратурнага працэсу Максім Багдановіч на самым пачатку 1911 года з адносна шырокіх ужо на той гістарычны момант шэрагаў беларускіх пісьменнікаў вылучаў толькі Янку Купалу: «Гэта бадай адзіны наш пісьменнік, каторы ідзе ўперад, вядзе нейкую ўнутраную працу, і, зрабіўшы ці мала, не супыняецца аж да гэтага часу» [Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. Т. 2: Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. С. 186.]. І хаця ў творчасці Якуба Коласа, маючы на ўвазе ў прыватнасці першы зборнік «Песні жальбы», Максім Багдановіч бачыць «якуюсь акамянеласць», адсутнасць развіцця («на працягу аж 4-х гадоў Колас не зрабіў значнага кроку ўперад і ў самых апошніх вершах пяе аб тым жа і так жа, як і ў пачатку сваёй працы») [там жа, с. 189], не варта перабольшваць гэтае абагульненне, зробленае на аснове лаканічнага аналізу, таму што насамрэч (і час гэта даказаў) у Якуба Коласа якраз тады пачалі «здарацца» вершы, якія ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры, сталі яе класікай. Дый сучасная крытыка адзначае пэўны суб'ектывізм у той ацэнцы «Песень жальбы», падкрэсліваючы пашырэнне тэматычнага дыяпазону і павышэнне мастацкага ўзроўню (пазней і Багдановіч падкарэкціраваў сваю ацэнку).

«Праблемна-тэматычны дыяпазон астрожных вершаў Якуба Коласа, можа, і не вызначыўся асаблівай шырынёй, але нельга лічыць яго і празмерна вузкім, а матывы — аднастайнымі. <…> І хоць яны («вершы выразна палітычнага гучання»,— устаўка ўдакладняльнай цытаты Міхася Мушынскага мая. — А. Т.) не аказвалі непасрэднага ўплыву на развіццё беларускай літаратуры і фарміраванне грамадскай думкі дарэвалюцыйнага перыяду, іх трэба разглядаць як факт ідэйна-творчай, светапогляднай эвалюцыі Коласа-паэта»,— лічыць Міхась Мушынскі [Мушынскі М. Свайму часу і вечнасці // Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 1. Вершы (1908 — 1910) / рэд. тома М. І. Мушынскі; падрыхт. тэкстаў і камент. К.А. Казыра, Т. Р. Строевай; прадм. М. І. Мушынскага; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск: Беларус. навука, 2007. — С. 17-19], тым самым падкрэсліваючы ролю, якую адыграла турма ў духоўным станаўленні будучага класіка. Дый уплыў, пра які тут мяркуе вядомы літаратуразнаўца, быў. Прычым уплыў значны. Чаго варты толькі верш «Мужык» («Я — мужык, бядак пахілы…», 1909 г.)?! Гэты твор стаў хрэстаматыйным, а заключныя радкі — крылатымі, шырока цытуемымі паспалітым людам:

*Я маўчу, маўчу, трываю,*
*Але скора загукаю:*
*«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!».*

За савецкім часам гэтыя радкі аналізаваліся пад вуглом марксізму-ленінізму, партыйнасці. Сёння не ў модзе марксісцкая метадалогія. Аднак, па-першае, і такі падыход мае рацыянальнае зерне, якое нельга ігнараваць, да таго ж пры разглядзе тых твораў, якія ўзнікаюць падчас папулярнасці ў соцыуме марксісцкай дактрыны. Па-другое, верш «Мужык» варты ўвагі і праз прызму іншых ідэй, у тым ліку нацыянальна-дэмакратычных, перадусім тых, якія пераважалі ў нашаніўскім асяродку. Тым больш што і першапублікацыя твора адбылася толькі 21 снежня 1917 года (па старым стылі) у выразна нацыянал-дэмакратычнай газеце «Вольная Беларусь» (толькі тры дні мінула, як быў разагнаны Усебеларускі з'езд, на якім ледзь не нарадзілася — прынамсі фармальна — незалежнасць ці хаця б аўтаномія Беларусі). Паказальна, што апошні радок згаданага верша спачатку выглядаў інакш: «Бомы, хлопчыкі, бяры!» [З нідалёкай прошласці // Вольная Беларусь, 1917, 21 сьнежня. С. 4]. Такое назіранне зрабіў яшчэ ў савецкі час Уладзімір Казбярук, але даследчык (відавочна, з прычын сацыяльна-палітычнай кан'юнктуры) не пайшоў далей канстатацыі, да высноў, якія вынікаюць з заўважанага факта. А гэтае нязначнае адрозненне прынцыпова перайначвае ідэйнае гучанне твора, яго лейтматыў. Таму што бомы служаць абуджэнню. Яны — сімвал абуджэння. У дадзеным выпадку (з улікам акрэсленага тут кантэксту) — нацыянальнага. А замена бомаў на стрэльбу надавала вершу рэвалюцыйны пафас і рабіла лірычнага героя твора перш за ўсё прыхільнікам сацыяльных трансфармацый, выключаючы выразны нацыянальна-адраджэнскі момант.

Працытаваную вышэй тэзу паважанага прафесара Міхася Мушынскага нельга не падвергнуць пэўнай рэвізіі яшчэ і таму, што сярод дзясяткаў тых вершаў знаходзяцца і такія, якія былі ацэнены часам у якасці класічных. Галоўным тут назавём, канешне, верш «Родныя вобразы» (1908), упершыню апублікаваны ў раздзеле «З турмы» першага паэтычнага зборніка паэта «Песні жальбы» [Т. 1, с. 539]. Вядомасць твора настолькі шырокая і значная, што ці не абсалютная большасць свядомых беларусаў змаглі б яго працытаваць хаця б часткова. Седзячы ў турме, Якуб Колас «бачыў і чуў» «вобразы мілыя роднага краю», «смутак і радасць» лірычнага героя, і змог трансліраваць тое «бачанне і чуццё» настолькі па-мастацку ярка і кангеніяльна, што рэцэпцыя паэта перадалася многім і многім яго сучаснікам, упэўнена працерабіўшы шлях у гісторыю праз гады, дзесяцігоддзі, а сёння, мінуўшы векавы юбілей «Песень жальбы», можна казаць: і праз стагоддзі — да наступных пакаленняў беларусаў, у тым ліку да нас з вамі.

*Вобразы мілыя, вобразы смутныя,*
*Родныя вёскі і люд,*
*Песні цягучыя, песні пакутныя!..*
*Бачу і чую вас тут.*

У сувязі з апошняй страфой у кнізе Уладзіміра Казберука «Якуб Колас у школе. Дапаможнік для выкладчыкаў беларускай літаратуры» знаходзім назіранне, якое падмацоўвае сказанае намі: «Сапраўднае значэнне неакрэсленага «тут» стане зразумелым толькі тады, калі ўспомнім, што паэт з 15 верасня 1908 года знаходзіўся ў мінскім астрозе, дзе і быў напісаны вершы «Родныя вобразы»».

Дзяцінства не адной генерацыі беларусаў, асабліва — так склалася — вяскоўцаў, праходзіла пад «акампанемент» верша «На рэчцы зімою» (1910 год), пачатак з якога пэўна незабыўны:

*Не сядзіцца ў хаце*
*Хлопчыку маломў:*
*Кліча яго рэчка,*
*Цягнуць санкі з дому…*

Прынамсі — цяжка знайсці ў беларускай дзіцячай літаратуры больш вядомыя радкі.

Такім чынам, нават без паэмаў праблемна-тэматычны дыяпазон Коласавай творчасці турэмнага перыяду, як дазваляе меркаваць шэраг прыведзеных прыкладаў (якія сталі айчыннай класікай!), даволі шырокі. Становішча паэта-вязня, якое расцягнулася на тры гады — з 1908 па 1911-ы, фактычна высвеціла для яго самога ўсе колеры вясёлкі «жыцця на волі», якія Якуб Колас пераклаў на мастацкую мову паэтычных твораў. З улікам глыбіні перажыванняў і ўзроўню літаратурнага майстэрства многія паэтавыя радкі турэмнага перыяду даўно прызнаны шэдэўральнымі.

Звярніце ўвагу: менавіта з твораў турэмнага тагачасся Якуб Колас пачынаецца як хрэстаматыйны класік; да таго біяграфічнага і — не будзе нацяжкі сказаць — гістарычнага моманту такой шырыні і — самае галоўнае — глыбіні творчага патоку не было, знакавых, этапных (прычым не толькі для самога аўтара, а перадусім для ўсёй беларускай нацыянальнай літаратуры) твораў нараджалася вобмель, нават лепшае з напісанага тады надта не выбівалася з агульнанашаніўскага літаратурнага працэсу, не становячыся ў ім знамянальным феноменам. Што й казаць, першы паэтычны зборнік — «Песні жальбы» (1910), прычым — што важна — папоўнены ў значнай меры створанай за кратамі лірыкай, — выходзіць менавіта падчас зняволення аўтара. Сімвалічна! Гэты факт сваёй важнасцю — для літаратурнага працэсу — і знакавасцю — для аўтара — сам па сабе нівелюе заўважаную крытыкамі аднастайнасць кніжкі і іншыя яе недахопы.

Пагодзімся з Уладзімірам Казберуком, які заўважыў: «Прыблізна з 1910 года ў творчасці Якуба Коласа ўсё больш прыкметна выяўляецца тэндэнцыя да шырокіх сацыяльна-грамадскіх і філасофскіх абагульненняў і высноў, да паглыбленага псіхалагічнага аналізу, а ў сувязі з гэтым — і да стварэння значных эпічных палотнаў. Усё больш глыбокім становіцца роздум пісьменніка, больш шырокім — кола праблем, якія прыцягваюць яго ўвагу, больш настойлівым — імкненне знайсці ў жыцці адказы на балючыя пытанні часу, больш сталым — майстэрства».

У такім святле можна меркаваць, што эвалюцыя Песняра дасягнула вышэйшай ступені мастацтва менавіта дзякуючы турэмным калізіям, якія сталі своеасаблівым генератарам крэатыўнасці. У іх кантэксце творца быў абмежаваны фізічна, але яго дух, нібы ў якасці кампенсацыі гэтага абмежавання, сублімацыйна разняволіўся, перажыванне мараў-мрой сацыяльнага плану, нацыянальнага зместу, урэшце агульначалавечага кірунку «з коптурам», да мяжы нарыву, да напружанага нервова-душэўнага напяцця назапасілася і абвастрылася, выспела і закаласілася — ды знайшло адпаведнае выйсце-рэалізацыю ў эстэтыцы слова — адзіным мастацтве, якім яшчэ ўперад выдатна авалодаў Канстанцін Міцкевіч, заявіўшы пра свой талент са старонак «Нашай долі» і «Нашай нівы».

Пачаўся найбольш плённы адрэзак творчасці велічынёй у добры тузін — ад сілы паўтара дзясятка гадоў, на які прыйшліся практычна ўсе найлепшыя творы Якуба Коласа.

▸ ВОЛЬНАЯ СТУДЫЯ

# Іван Драч: «ПАСЛЯ ЧАЧНІ КРЭМЛЬ ПАВЯРНУЎСЯ ДА УКРАІНЫ І БЕЛАРУСІ»

**Пасля таго, як украінскія рэгіёны дамагліся для расійскай мовы адмысловага статусу, расколіна будзе толькі пашырацца. І хто каго ў гэтай сітуацыі можа перасцерагчы — Украіна Беларусь ці Беларусь — Украіну?**

**Іван Драч — вядомы ўкраінскі паэт, адзін з заснавальнікаў украінскага «Руху», прэзідэнт Міжнароднага кангрэсу ўкраінцаў, Герой Украіны — госцем «Вольнай студыі».**



***— Пане Іване, у адным са сваіх нядаўніх інтэрв'ю вы прызналіся — і гэта мяне здзівіла, — што сумуеце па Савецкім Саюзе. Ці не маглі б вы ўдакладніць, па чым канкрэтна вы сумуеце?***

— Гэта парадаксальна — чуць такія словы ад мяне, аднаго з тых, хто актыўна змагаўся за ўкраінскую незалежнасць, за стварэнне ўкраінскай дзяржавы, выступаў супраць імперыі. Але так яно ёсць. Я сумую па тым, што страчаныя сяброўскія кантакты з беларусамі Нілам Гілевічам, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным. Я цяпер рэдка кантактую з грузінамі — з Тамазам Чыладзэ, з Джансугам Чарквіані. Вось нядаўна мне прыслаў сваю апошнюю кніжку Яўген Еўтушэнка... Мы часта сустракаліся з Нілам Гілевічам у Балгарыі, бо мы абодва — балгарысты, шмат перакладалі балгарскіх паэтаў. Мой беларускі сябра нават ордэн Кірылы і Мяфодзія за гэта атрымаў. Я вельмі рады, што мне ўдалося напісаць прадмову да кніжкі Рыгора Барадуліна «Неруш», якая выходзіла ў Маскве. Я быў рады, калі Рыгор прыязджаў у Кіеў перад сваім вылучэннем на Нобелеўскую прэмію. Мы, украінскія пісьменнікі, стараліся яго падтрымаць. Генадзь Бураўкін мне — як родны брат, вельмі блізкі чалавек, я яго шаную і люблю. Дарэчы, жонка ягоная Юля — украінка. Усім ім перадавайце ад мяне самыя сардэчныя прывітанні. Гэта мае сябры. Я сумую па сваіх сябрах, па кантактах з імі, а не па той страшнай дзяржаўнай ідэалагічнай сістэме, якая існавала ў СССР. Я не ўяўляю свайго жыцця без Талстога і Дастаеўскага, без Пушкіна і Лермантава, але гэта не значыць, што я вітаю сістэму Пуціна, яна страшная і нясе пагрозу нам — і незалежнай Беларусі, і незалежнай Украіне.

***— Вы ачольваеце арганізацыю — Кангрэс украінцаў, гэта аналаг нашай Рады беларускай інтэлігенцыі. Прыгаданую Раду беларуская ўлада цалкам ігнаруе. А ці ўкраінская ўлада прыслухоўваецца да сваёй інтэлігенцыі?***

— Цяпер у нас створаная грамадская Гуманітарная рада пры прэзідэнце Украіны, у якую ўваходзяць вядомыя пісьменнікі, акцёры, рэжысёры. І часткова мы ўплываем на фармаванне дзяржаўнай гуманітарнай палітыкі. Напрыклад, нядаўна адбылося паседжанне, прысвечанае 200-м угодкам Тараса Шаўчэнкі, якія нас чакаюць у 2014 годзе. Мы хочам падрыхтаваць і выдаць Поўны збор твораў Шаўчэнкі, стварыць Кірыла-Мяфодзіеўскае брацтва і Музей брацтва — гэта ўсё канкрэтныя рэчы. Так што пэўны ўплыў ёсць, але наша інтэлігенцыя, як і беларуская, таксама расколатая: частка ў больш-менш нармальных стасунках з уладай, але большая частка — у апазіцыі, падтрымлівае Юлію Цімашэнку, якая сядзіць у турме, ці іншых апанентаў сучаснага рэжыму.

***— Ва Украіне апошнім часам абвастрылася моўная праблема. Расійская мова ў некаторых абласцях стала рэгіянальнай. А ці не ёсць гэта падрыхтоўкай да таго, каб праз пэўны час надаць ёй статус другой дзяржаўнай?***

— Мы ўсё робім, каб гэтага не здарылася. Тут наша вярхоўная ўлада займае хітрую пазіцыю. З аднаго боку ёсць ціск, каб зрабіць расійскую мову другой дзяржаўнай мовай. А з другога боку ўлада разумее, што калі цяпер, напярэдадні выбараў у Вярхоўную Раду, падняць моўнае пытанне, то ў Партыі рэгіёнаў, якую ўзначальвае прэзідэнт Януковіч, стане менш галасоў.

***— А пасля выбараў расклад сілаў можа змяніцца?***

— Пасля выбараў усё можа быць. Я думаю, у нашай інтэлігенцыі хопіць сілаў, каб другой дзяржаўнай мовы ў нас не было. Перад намі прыклад Беларусі, і ён вельмі яскравы і балючы. На пост-савецкай прасторы сістэма расійскай алігархіі дзейнічае так, што ў вялікай ступені ўвагу Крамля адцягвала Чачня. Сёння Чачня задушаная Кадыравым, які ўсталяваў там прапуцінскі рэжым. І таму Крэмль ізноў павярнуўся да Беларусі і Украіны.

***— Прыехаўшы гэтым разам у Кіеў, я заўважыў, што на ягоных вуліцах заўважна пабольшала расійскай мовы. Што з гэтым рабіць? Ці павінен паэт мірыцца з наступам чужой мовы?***

— Ён не павінен мірыцца, ён павінен ваяваць за ўкраінскую мову. Але — не рабіць ворагамі тых людзей, якіх апанавала расійская культура, расійская мова. Калі мы будзем рабіць з іх ворагаў, то справакуем урэшце грамадзянскую вайну сярод свайго ўласнага народу, які і так сёння далёкі ад адзінства. «Мячом Дняпра рассечана Ўкраіна», — сказана ў адным з маіх вершаў. Трэба людзей пераконваць нашым розумам, нашай талеранцыяй, нашым хрысціянскім стаўленнем. Я ведаю багата такіх людзей, якія самі не размаўляюць па-ўкраінску, але адпраўляюць сваіх дзяцей ва ўкраінскія школы. Творчыя людзі проста павінны ствараць і развіваць украінскую культуру — здымаць фільмы, пісаць вершы, музыку. Я за такі падыход.

***— Кіеўскія сябры папрасілі мяне выступіць у гарадской СШ № 235. Я спачатку не мог зразумець, што я маю рабіць ва ўкраінскай школе? Аказалася, яна не зусім звычайная — там я і бел-чырвона-белы сцяг пабачыў, і вершы Багдановіча і Купалы ў арыгінале пачуў ад вучняў. Школа носіць імя вашага паплечніка па «Руху» Вячаслава Чарнавола, які загінуў у аўтакатастрофе. Праз столькі гадоў ці адкрылася таямніца ягонай гібелі?***

— Калі я прыехаў на месца катастрофы, паглядзеў, дзе разварочваўся той прычэп з зернем, то зразумеў, што толькі ідыёт мог там разварочваць машыну. Нармальны кіроўца ніколі там не разварочваўся б. Таму я думаю, што гэта было падстроена. Але ўдава Чарнавола, якая нядаўна памерла, і ягоны сын, які жыве, дамагліся эксгумацыі і не знайшлі аніякіх слядоў, якія сведчылі б на карысць забойства.

***— Старшыня БНФ Зянон Пазьняк, які змушаны з 1996 года жыць за мяжой, на заклікі вярнуцца на радзіму неадназова адказваў, што ў Беларусі яму да гэтай пары пагражае фізічнае знішчэнне...***

— Я добра памятаю Зянона Пазьняка, ведаю таксама Станіслава Шушкевіча, раней мы нярэдка сустракаліся з ім за мяжой, прыкладам, на з'ездзе літоўскага «Саюдзісу». А цяпер яму не дазваляюць нават выязджаць з Беларусі. А ён жа, маючы такую маленькую пенсію, ездзіў за мяжу, чытаў лекцыі і такім чынам зарабляў сабе на жыццё. Цяпер ён і гэтага не можа мець. З гэтага я раблю выснову, што ў Беларусі сістэма стаўлення да такіх людзей, як Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч, да сапраўдных беларускіх патрыётаў, стала больш жорсткая. Таму я магу паверыць Зянону Пазьняку.

***— У Кіеве мне неаднойчы даваліся пачуць ухвальныя словы на адрас Аляксандра Лукашэнкі. І парадак там у вас, і прадукты больш якасныя, і заробкі большыя. Але гэта, мякка кажучы, не зусім так. Чаму ва ўкраінцаў склаўся такі памылковы стэрэатып адносна Беларусі?***

— У Лукашэнкі ёсць такое ўмельства — на чымсьці адным сканцэнтравацца, зрабіць, каб потым можна было паказваць: «Глядзіце, пра мяне кажуць, што я такі-сякі, а я вось што зрабіў». Напрыклад, паехалі нашыя з вамі добрыя знаёмыя Дмытро Паўлычка і Раман Лубкіўскі ў Беларусь і паглядзелі, якую бібліятэку зрабіў Лукашэнка. Які велічны будынак! Як там камфортна працаваць! А ва Украіне за апошнія 20 гадоў практычна нічога не зроблена, нічога не пабудавана. Так што тут спрацоўвае такое ўмельства беларускай улады — скарыстоўваць тое, што можна паказаць людзям.

***— Сёння пра аднаўленне імперскіх уплываў загаварыла нават Расійская праваслаўная царква. Як вы ставіцеся да такіх, зусім не царкоўных, ініцыятываў?***

— Вось мы часам ганьбім імперыю, называючы яе расійскай. Але гэта не зусім так. Вось глядзіце: у Пятра І быў адным з найгалоўнейшых дзеячоў Феафан Пракаповіч — знакаміты ўкраінскі пісьменнік. Ён жа потым стаў віцэ-прэзідэнтам расійскага Сіноду (прэзідэнтам быў сам Пётар). І Пракаповіч перацягнуў у Маскву вельмі шмат украінцаў, якія стварылі маскоўскую царкву на тэрыторыі ўсёй Расійскай імперыі. Такім чынам, украінцы — таксама творцы гэтай імперыі. А возьмем імператрыцу Кацярыну ІІ... Гэта пра іх Шаўчэнка пісаў: «Пётар Першы, што распяў нашу Украіну, а другая даканала ўдаву-сіраціну». І вось у гэтай немкі Кацярыны ІІ быў канцлерам украінскі палкоўнік Безбародка. Ці ўзяць Елізавету Пятроўну і род Разумоўскіх. Адзін князь Разумоўскі быў яе фаварытам, каханкам, а другі — прэзідэнтам Расійскай акадэміі навук. І гэта ўсё — украінцы, якія таксама стваралі вялікую Расійскую імперыю. І беларусы таксама яе стварылі — той жа Сімяон Полацкі, той жа Меншыкаў... Так што не звальвайма віну на адных расейцаў, мы таксама вінаватыя ў тым, што паўстала Імперыя, якая потым прыгнятала і ўкраінцаў, і беларусаў, і расіянаў. Будучыні, думаю, у яе няма.

***— Вашыя беларускія сябры, пра якіх Вы згадвалі напачатку гутаркі, у Беларусі знаходзяцца ў чорных спісах, для іх закрытыя дзяржаўныя СМІ. Што Вы ім можаце пажадаць?***

— Самыя шчырыя прывітанні і словы падтрымкі маім дарагім сябрам! Я з вялікім спачуваннем стаўлюся да Беларусі. Ёсць такі вядомы выраз — брацць на сябе чыйсьці боль. Мне здаецца, што Беларусь сёння ў вялікай ступені бярэ на сябе і боль Украіны. Беларусь ідзе першай — так склалася жыццё, доля падаравала ёй такую сітуацыю з Лукашэнкам... Але Беларусь перасцерагае нас: «Украінцы, глядзіце, якая з намі бяда! Вы хоць трымайцеся!». Гэта сапраўды хрысціянскі шлях, і мы за вас перажываем, як за сябе.

**Міхась Скобла, «Радыё Свабода»**

▾ ПАЛІЦА

## НОВАЯ КНІГА ВІКТАРА ШАЛКЕВІЧА

**Мястэчка G... і ваколіцы: дзевятнаццаць апавяданняў і п'еса / Віктар Шалкевіч. — Мінск: «Кнігазбор», 2012. — 112 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 30).**




У серыі «Кнігарня пісьменніка» Саюза беларускіх пісьменнікаў выйшла новая кніга прозы вядомага барда і літаратара Віктара Шалкевіча, у якую ўвайшлі дзевятнаццаць апавяданняў і п'еса.

«Гэта кніга перадусім не пра мястэчка G. і ваколіцы, а пра людзей, якія там жылі, таму што без людзей любое мястэчка робіцца звыклаю горбаю камення. Гэта кніга пра нашую прыгожую страчаную Айчыну — Вялікае Княства Літоўскае... Яго даўно няма на мапах, тым не менш, яно дзесьці глыбока сядзіць у кожным з нас», — анатацыйна абвяшчаецца аўтарам.

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 2 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Пры загадкавых абставінах» (Украіна).
**12.10** Рэальны свет.
**13.20** Мультфільм.
**13.30** Заўтра - гэта мы!
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.20** Каталіцкія святыні Беларусі.
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25, 00.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Тэлестужка цыклу «Лёс гігантаў».
**22.20** Драма «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**23.25** Серыял «Майстры жахаў».
**01.10** Дзень спорту.
**01.25** Рэальны свет.

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.00** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**00.15** Драма «Дорз».
**02.30** Начныя навіны.

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.00** Фільм «Аголеная зброя». Ганконг, 2002 г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Не хлусі мне!».
**14.45** «Доктар Тырса». Серыял.



**15.35** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Дзюплекс». ЗША - Германія, 2003 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.05** «Перамажы Покерстарз».
**00.55** Фільм «Бабнік». ЗША, 2009 г.

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Час футболу.
**11.00** Страсці па культуры.
**11.40** Дэтэктыў «Закон Лос-Анджэлеса» (ЗША).
**13.25** Серыял «Сяброўка Восень» (Беларусь-Расія).



**15.20** Беларуская кухня.
**15.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**18.15** Рэгіянальная праграма.
**19.20** Арэна.
**19.50** Фактар сілы.
**20.25** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.40** Крымінальная драма «Мітусня і рух» (ЗША).

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Усё будзе добра!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Пакой смеху».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Чужы твар».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «На сонечным баку вуліцы».
**22.25** Навіны - Беларусь.
**22.35** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм.

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.45** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў добры дзень!».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.30** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** «Таямнічая Расія».
**15.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Брацянікі-3».
**23.05** Ваенна-гістарычная драма «Выклік».

**00.00** Покер.
**01.00** Тэніс: «Матс пойнт».
**01.30** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў - 1/8 фіналу.
**09.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай.
**10.30** Чэмпіянат Свету ў класе Турынг.
**11.00** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў - 1/8 фіналу.
**12.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай.
**13.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай.
**16.30** Футзала: Кубак свету. Тайланд - Групавы этап: Італія - Аўстралія.
**17.30** Футзала: Кубак свету. Тайланд - Групавы этап: Іспанія - Іран.
**18.30** Усе віды спорту.
**19.00** Боўлінг: ЗША.
**20.00** Самыя моцныя людзі планеты: Ліга Чэмпіёнаў. Расія.
**21.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**22.00** Бокс.

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**07.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.15** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Невядомая Беларусь: «Выбары без выбару», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Усе святыя», маст. фільм, 2002 г., Польшча.
**23.00** Аб'ектыў.
**23.25** Эксперт.
**00.00** Вагон.

## 3 ЛІСТАПАДА, СУБОТА

**06.25** Існасць.
**06.50** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**10.00** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).
**11.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.10** Музычная камедыя «Вяселле з пасагам» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Мультфільмы.
**15.45** Прыгодніцкі фільм «Няўлоўныя мсціўцы» (СССР).
**17.20** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**18.20** Таямніцы следства.
**19.10** Камедыя «На спіне ў чорнага ката» («Беларусьфільм»).
**21.00** Панарама.
**21.40** Фільм-мюзікл «Мулен Руж» (ЗША-Аўстралія).
**23.55** Урачыстае адкрыццё міжнароднага кінафэсту «Лістапад-2012».
**01.00** Дзень спорту.
**01.10** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).
**02.05** Перазагрузка.

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.25** «Здароўе».
**10.35** «Смак».
**11.15** «Разумніцы і разумнікі».
**12.00** Мультфільмы.
**12.35** Камедыя «Сем старых і адна дзяўчына».
**14.10** Прэм'ера. «Хвіліна славы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.50** «Ды добра!».
**19.30** АНТ прадстаўляе: «Сардэчна запрашаем у Беларусь».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Камедыя «Службовы раман. Наш час».
**22.45** Прэм'ера. Фільм «Каламбіяна».
**00.40** Камедыя «Мы з вамі дзесьці сустракаліся».

**06.10** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.00** «Анфас».
**07.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**07.25** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**09.05** «Уявіце сабе!».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**11.10** Фільм «Дзюплекс». ЗША - Германія, 2003 г.
**12.50** «Прыгоды дылетанта».
**13.25** Фільм «Валянцін і Валянціна». СССР, 1985 г.
**15.05** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Вярнуць веру». Украіна, 2006 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Сайлент Хіл». Канада-Японія-ЗША-Францыя, 2006 г.
**22.30** «Гаспадыня тайгі». Серыял.

**07.55** Дабравест.
**08.20** Дакументальны фільм «Я часовы вандроўнік. Якуб Колас. Паэт і чалавек».
**08.50** Дэтэктыў «Закон Лос-Анджэлеса» (ЗША).
**10.30** Тэлебарометр.
**10.35** Альбарутэнія.
**11.10** Наперад у мінулае.
**11.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.20** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.25** Беларуская кухня.
**14.00** Лірычная камедыя «Падкідыш» (СССР).
**15.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Прамая трансляцыя.
**18.05** «Вышэйшая мера».
**19.00** Ваша лато.
**19.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.50** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке- шоў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**23.25** Музычная драма «Ліхаманка суботняга вечара» (ЗША).
**01.25** Шоў «Суперінтуіцыя».

**07.00** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.40** Фільм «Добраахвотнікі».
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «ХА». Маленькія камедыі.
**12.10** Тэлесерыял «Сямейны агмень».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Мацней смерці. Малітва».
**15.15** Фільм «Жонка Шціруліца» (2012 г.).
**17.05** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі.
**20.40** «Танцы з Зоркамі». Сезон-2012.
**23.35** Фільм «Каханне і трохі перцу» (2011 г.).

**07.10** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Вострасюжэтны серыял «Пагоня за ценем».
**15.05** «Жаночы погляд».
**15.55** «Паедзем, паямо!».
**16.25** Вострасюжэтны серыял «Брат за брата».
**19.00** Сёння.
**19.25** Вострасюжэтны серыял «Брат за брата».
**22.55** Дэтэктыўны трылер «Фірма».

**00.05** Конны спорт. Агляд тыдня.
**00.20** Аўта і Матаспорт.
**00.35** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай.
**01.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**09.30** Чэмпіянат Свету ў класе Турынг: Кітай - Кваліфікацыйны раўнд.
**10.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.30** Фігурнае катанне: Гран-Пры - Адвольная праграма Жанчыны.
**12.15** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай.
**13.30** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай.
**16.30** Футзала: Кубак свету. Тайланд - Групавы этап: Гватэмала - Калумбія.
**17.30** Футзала: Кубак свету. Тайланд - Групавы этап: Расія - Саламонавы выспы.
**18.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**19.45** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай.
**22.30** Амерыканскі футбол.

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Невядомая Беларусь: «Выбары без выбару», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.00** Форум (ток-шоу).
**11.45** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Гэй, слон!», «Таямніца шыфру Марабу».
**12.10** «Школа на санцапёку», серыял: 22 серыя.
**12.35** «Таямніца Сагалі», серыял: 3 серыя.
**13.05** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 8 серыя.
**13.55** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямніца «Цыцэрона».
**14.50** «Праведнікі», тэлесерыял: 7 серыя.
**15.40** «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 2 серыя, «Марцін Лютэр Кінг. Смерць у Мэмфісе».
**16.35** «Усе святыя», маст. фільм, 2002 г., Польшча.
**18.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**18.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзік Фантазік».
**19.00** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 5 серыя, «Міша і «рэвалюцыя ружаў».
**19.55** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**20.10** Зона «Свабоды».
**20.40** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.45** Суботні сеанс: «Маўчанне Лорны», маст. фільм, 2008 г., Германія–Францыя–Італія–Бельгія.
**23.25** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 9 серыя.
**00.10** Аб'ектыў.
**00.25** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 4 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**06.10** Музычная камедыя «Вяселле з пасагам» (СССР).
**07.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**08.30** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**09.55** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).
**10.55** Тэлестужка АТН цыклу «Лёс гігантаў».
**11.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.20** Мультфільм «Вакацыі Баніфацыя».
**12.40** Культурныя людзі +.
**13.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Прыгодніцкі фільм «Новыя прыгоды няўлоўных» (СССР).
**17.15** Мультфільмы.
**17.35** Каробка перадач.
**18.05** «25 гадоў на сцэне». Канцэрт А.Саладухі.
**19.10** Прэм'ера. Меладрама «Падвойная суцэльная. Каханне» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Трылер «Законапаслухмяны грамадзянін» (ЗША).
**00.25** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Фільм «Вакзал для дваіх».
**12.00** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.00** Шматсерыйны фільм «Участак».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Народная медыцына».
**17.10** «Анатоль Папанаў. Ад камедыі да трагедыі».
**18.10** Камедыя «Дыяментавая рука».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера. Фільме «Жнівень восьмага».
**23.35** Фільм «Пасажырка».

### СТВ

**06.15** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.05** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**07.15** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Жыць будзеце».
**09.55** «100 адсоткаў».
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**11.10** Фільм «Сайлент Хіл». Канада-Японія-ЗША-Францыя, 2006 г.
**13.30** «Добры дзень, доктар».
**14.05** Фільм «Сказ пра тое, як цар Пётр арапа жаніў». СССР, 1976 г.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**18.30** «Гарады, што спяваюць». Выніковы дзённік.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Аднакласнікі». ЗША, 2002 г.
**22.40** «Пякельная кухня».
**23.40** Фільм «Гэта здарылася ў даліне». ЗША, 2005 г.

### Беларусь 2

**08.00** Таямніца душы.
**08.25** Лірычная камедыя «Падкідыш» (СССР).
**09.55** Тэлебарометр.
**10.00** Альбарутэнія.
**10.35** Вышэй за дах.
**11.10** Школа рамонту.
**12.20** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.25** Пра мастацтва.
**13.55** Гандбол. Чэмпіянат Еўропы 2014. Мужчыны. Беларусь – Славенія. Прамая трансляцыя.
**15.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**17.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**18.35** Суперлато.
**19.25** Хакей. КХЛ.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Навіны надвор'я.
**22.10** Спорт-кадр.
**22.55** Крымінальны баявік «Цана страху» (ЗША).
**01.15** Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Белы наліў» (2010 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Тэлесерыял «Сямейны агмень».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Адроджаны шэдэўр».
**15.15** «Руская смута. Гісторыя хваробы».
**16.20** Фільм «Родная кроў».
**18.05** «Ізмайлаўскі парк». Вялікі гумарыстычны канцэрт.
**20.00** Весткі.
**20.40** Прэм'ера-2012. Фільм «Шпіён».
**23.45** Фільм «Алена» ((2011 г.).

### НТВ

**07.10** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.55** «Дачны адказ».
**12.00** «Ежа без правілаў».
**13.00** Сёння.
**13.15** Вострасюжэтны серыял «Пагоня за ценем».
**15.00** «Вяселле ў падарунак!».
**16.00** «Бывае ж такое».
**16.30** Вострасюжэтны серыял «Брат за брата».
**19.00** «Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Брат за брата».
**23.00** Крымінальная драма. «Квартал».

### EUROSPORT

**01.30** Ралі: Ралійная серыя IRC Кіпр. Дзень 1.
**02.00** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай.
**08.15** Чэмпіянат Свету ў класе Турынг: Кітай - Размінка.
**08.45** Чэмпіянат Свету ў класе Турынг: Кітай.
**09.45** Чэмпіянат Свету ў класе Турынг: Кітай.
**10.45** Фігурнае катанне: Гран-Пры.
**12.00** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай – Фінал.
**14.00** Футзала: Кубак свету. Тайланд - Групавы этап: Партугалія - Японія.
**15.30** Усе віды спорту.
**16.00** Марафон: Нью-Ёрк.
**19.00** Фігурнае катанне: Гран-Пры - Паказальныя выступ.
**20.00** Спартовыя бальныя танцы: Іспанія.
**23.00** Снукер: Міжнародны чэмпіянат. Кітай – Фінал.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік».
**07.45** «Школа на санцапёку», серыял: 22 серыя.
**08.15** «Таямніца Сагалі», серыял: 3 серыя.
**08.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**09.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.45** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.15** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**10.30** «Апантаныя», дак. цыкл.
**10.40** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**10.50** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.35** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**11.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік».
**12.45** «Школа на санцапёку», серыял: 23 серыя.
**13.10** «Таямніца Сагалі», серыял: 4 серыя.
**13.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.50** «Глыбокая вада», серыял: 8 серыя.
**14.35** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 5 серыя, «Міша і «рэвалюцыя ружаў».
**15.25** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.35** Невядомая Беларусь: «Выбары без выбару», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**16.00** «Маўчанне Лорны», маст. фільм, 2008 г., Германія–Францыя–Італія–Бельгія.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.10** Два на два (тэледыскусія).
**18.35** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзік Фантазік».
**18.55** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямнічы замак».
**19.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Джазмен з ГУЛАГу», дак. фільм, 1999 г., Францыя.
**21.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Я, Дон Джаванні», маст. фільм, 2009 г., Германія–Італія.
**00.15** ПраСвет.
**00.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**00.55** «Бульбаны», мультсерыял.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанк», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 044) 755 66 48, Марына

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня

Всего

Кассир

ВЫБАРЫ

# УНУКІ ГЕЙДРЫХА

Алег НОВІКАЎ

**Адным з вынікаў лакальных выбараў у Чэхіі, якія прайшлі 12–14 кастрычніка, стаўся заўважны рост папулярнасці мясцовых неанацыстаў.**



Здавалася, з улікам гэтай трагедыі любы чэшскі патрыёт павінен даць клятву ніколі не станавіцца пад карычневыя сцягі. Але ў чэшскіх неанацыстаў памяць кароткая

Гэтыя мясцовыя выбары, насуперак іх статусу, можна лічыць эпахальнымі. Іх галоўным вынікам стаў трыумф Кампартыі Чэхіі і Маравіі (KSCM), якая праз 23 гады пасля аксамітнай рэвалюцыі імкліва вяртаецца ва ўладныя кабінеты. Атрымаўшы на выбарах 20 працэнтаў, KSCM стала другой па папулярнасці партыяй у краіне пасля эсдэкаў (яны маюць 23 працэнты). Галоўнае — камуністы зрабілі сур'ёзную заяўку на стварэнне з «ружовымі» кааліцыйнага кабінета. Старшыня Сацыял-дэмакратычнай партыі Багуслаў Саботка заявіў: «Я магу ўявіць сабе супрацоўніцтва з KSCM у любым фармаце». Таксама важна адзначыць, што раней у камуністаў прайшла ўнутрыпартыйная чыстка, ахвярамі якой сталі самыя замшэлыя сталіністы.

У той час, як на левым флангу пануюць аптымістычныя настроі, на правым — смуткуюць. Вядучая чэшская правая палітычная сіла — Грамадзянская дэмакратычная партыя (ODS) — задаволілася на мінулых выбарах смешнымі 15 працэнтамі. Зрэшты, не ўсе правыя ў жалобе. Як прарыў разглядаюць эксперты вынікі выбараў для правай радыкальнай Рабочай партыі сацыяльнай справядлівасці (DSSS). На поўначы краіны спіс DSSS атрымала каля 4,3 працэнта, што можна разглядаць як сур'ёзную заяўку на добрую перспектыву.

Феномен правага радыкалізму ў Чэхіі ў чымсьці парадаксальны на фоне тых «бонусаў», што прынесла чэхам фашысцкая акупацыя. Дастаткова ўзгадаць, чаго каштавала нацы забойства падпольшчыкамі Рэйнхарда Гейдрыха — кіраўнік пратэктарату Багемія (марыянетачнага дзяржаўнага ўтварэння, абвешчанага нацыстамі пасля ліквідацыі Чэхаславакіі). У якасці акту помсты за смерць Гейдрыха нацыстамі былі расстраляныя 1331 чалавек, у тым ліку 201 жанчына. 9 чэрвеня 1942 года, у дзень пахавання Гейдрыха, у знак адплаты, была знішчана вёска Лідзіце. Усе мужчыны старэй за 16 гадоў (172 чалавекі) былі расстраляныя на месцы, 195 жанчын былі адпраўленыя ў канцэнтрацыйны лагер.

Здавалася, з улікам гэтай трагедыі любы чэшскі патрыёт павінен даць клятву ніколі не станавіцца пад карычневыя сцягі. Але ў чэшскіх неанацыстаў памяць кароткая. Галоўны міжнародным партнёрам DSSS з'яўляецца нямецкая Нацыянал-дэмакратычная партыя (NPD) — вядучая партыя неанацыстаў Германіі, якая на кожным кроку праслаўляе эру Гітлера. У 2002 годзе фюрэры NPD і DSSS нават заключылі пакт — так званы «Manifest von Riesa», які прадугледжвае «інтэнсіфікацыю міжпамежнага супрацоўніцтва на камунальным узроўні». Нават эмблема DSSS — малюнак шасцярэнькі — нахабна запазычана ў гітлераўскіх дызайнераў. У 1930-я гады ў нацысцкай Германіі гэта быў знак Германскага рабочага фронту (DAF) — аб'яднанага прафсаюза рабочых і прадпрымальнікаў.

Адказ на пытанне, чаму чэхі ідуць у неанацысты, ведаюць сацыёлагі. Паводле іхніх даследаванняў, сярэднестатыстычны прыхільнік DSSS — чалавек маладзейшы за 25 гадоў, які не мае вышэйшай адукацыі або беспрацоўны. Як правіла, стандартны неанацыст у Чэхіі — гэта выхадзец з сям'і з нізкімі прыбыткамі. Нядзіўна, што аргументы гісторыкаў для прадстаўнікоў гэтага асяроддзя не вельмі цікавыя, паколькі гістарычныя падручнікаў яны, хутчэй за ўсё, папросту не чыталі.

Таксама не дзіўна, што менавіта гэта катэгорыя маладых чэхаў склала ў 1990-х касцяк чэшскага руху скінхэдаў, чыя музыка прапагандуе культ гвалту і агрэсію супраць нацыянальных меншасцяў. Паколькі Чэхія не ведае праблемы арабскай ці афрыканскай эміграцыі, чэшскія ўльтра звярнулі позірк на цыган, якіх выставілі ў якасці галоўных вінаватых за ўсе праколы.

Магчыма, скінхэды і надалей проста танчылі б пад сваю музыку, калі б не адна акалічнасць. Напрыканцы 1990-х гадоў сканаў праект стварэння ў Чэхіі мясцовай Рэспубліканскай партыі (так называлася правая папулісцкая партыя ў суседняй ФРГ, якая тады была на слыху). Група маладых рэспубліканцаў пачала думаць пра стварэнне новых партый, разглядаючы ў якасці сацыяльнай базы тыя ж згаданыя вышэй моладзевыя субкультуры.

Менавіта экс-рэспубліканцы на чале з Тамашом Вандасам пачалі арганізацыйнае будаўніцтва правай радыкальнай партыі. Неўзабаве ў 2002 годзе каталог чэшскіх партый упрыгожыў яшчэ адзін палітычны суб'ект — партыя «Новая сіла», якая ў 2003 была перайменаваная ў Рабочую партыю (DS). На першых выбарах у 2004 (гэта былі выбары ў Еўрапарламент) за DS прагаласавала каля 4 тысяч чалавек, што склала ўсяго 0,18 працэнтаў. Пазней рэйтынг электаральных сімпатый да «рабочых» замацаваўся на ўзроўні 1,2 — 1,4 працэнта. Кардынальны пералом азначыўся з пачаткам крызісу.

У 2010 годзе суд забараніў Рабочую партыю за прапаганду неанацызму. Адразу ж пасля вынясення вердыкту Тамаш Вандас паабяцаў журналістам, што на гэтым ён не спыніцца. Неўзабаве на гарызонце з'явілася тая самая DSSS.

Паводле праграмы, DSSS з'яўляецца «народнай партыяй», якая супрацьстаіць адначасова як правым, так і левым, хаця ў прынцыпе ўвесь палітычны бамонд, уключна з камуністамі, называе «лібераламі».

«Рабочыя» крытыкуюць палітычны вопыт Чэхіі пасля 1989 года, разглядаючы гэты этап гісторыі як эпоху суцэльнай палітычнай карупцыі. Альтэрнатывай, на іх думку, можа стаць аўтарытарная карпаратыўная мадэль дзяржавы, у якой будуць пашыраны правы паліцыі і скончана з беспрацоўем. Рэалізаваць пастаўленую мэту ўльтраправыя збіраюцца за кошт пагалоўнай дэпартацыі эмігрантаў.

«Для таго, каб садзейнічаць развіццю малых чэшскай прадпрымальнікаў і прадпрыемстваў, неабходны прыняцце законных актаў супраць найму на працу замежнікаў і прадстаўнікоў некаторых меншасцяў (у прыватнасці, цыган і гомасексуалістаў). Гэта лепшая форма інвестыцыяў у стварэнне новых працоўных месцаў у Чэхіі», — гаворыцца ў праграме партыі. Некаторыя лідары ўсур'ёз лічаць, што пасля павальнай дэпартацыі эмігрантаў тыя, хто застануцца, павінны быць аўтаматычна асуджаны да смяротнага пакарання без права на судовы разгляд.

У галіне міжнароднай палітыкі DSSS патрабуе выхаду Чэхіі з ЕС і NATO. Чамусьці вялікае значэнне надаецца развіццю спорту і барацьбе з парнаграфіяй.

Відавочна, што ідэйная платформа «працоўных» досыць размытая. Таму стаўка робіцца на масавыя ксенафобскія настроі супраць цыган, якія слаба інтэграваныя ў грамадства і часта працуюць у шэрым, звязаным з крыміналам сектары. Так званыя антыцыганскія маршы DSSS — рэгулярная з'ява ў гарадах на поўначы Чэхіі. Пры гэтым партыя Вандаса працуе ў кантакце з нацыянал-аўтаномамі — новай вельмі агрэсіўнай праварадыкальнай моладзевай субкультурай. Абедзве групоўкі аформілі блок пад назвай «Нацыянальны супраціў».

Менавіта дзякуючы правакацыям супраць цыган Рабочую партыю заўважылі ў СМІ. Так, у 2008 годзе правыя радыкалы арганізавалі ў горадзе Літвінаве так званы мілітарны патруль, нібыта для аховы мясцовых жыхароў ад цыган, што заканамерна скончылася сутыкненнямі з цыганамі і паліцыяй. У лістападзе таго ж года DS сабрала ў тым жа Літвінаве дзве тысячы чалавек на маніфестацыю супраць цыган.

Заўважны сацыяльны рэзананс на падобныя выхадкі дае падставы чэшскім палітолагам казаць пра магчымасць стварэння ў краіне правай папулісцкай ксенафобскай партыі. Тым больш, што галоўная былая пратэстная партыя — камуністы — здаецца, наладжана на канструктыўны лад і збіраецца падацца ва ўладу.

Пра перспектывы DSSS можна будзе дакладней казаць пасля прызначаных на наступны год прэзідэнцкіх выбарах. Гэта будуць першыя ў гісторыі Чэхіі прамыя выбары кіраўніка дзяржавы. Фюрэр «рабочых» Тамаш Вандас таксама мае намер балатавацца на прэзідэнта. Цяпер ён і яго партыя гойсаюць па краіне ў пошуках 50 тысяч подпісаў, неабходных для рэгістрацыі ў якасці афіцыйнага кандыдата.



## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У той жа час нельга не заўважыць, што Лукашэнка (падчас інтэрв'ю) у чарговы раз даў сігнал Захаду, што гатовы весці размовы пра аднаўленне адносін. Праўда, для таго, каб дыялог адбыўся, Еўропа павінна прабачыць Лукашэнку «яго маленькія недэмакратычныя слабасці», праглынуўшы тэзіс пра тое, што беларуская дыктатура — гэта таксама дэмакратыя, толькі іншага ўзору. Але, як і беларускія тавары матэрыяльнага парадку, якія прадаюцца ўсё горш, паколькі зробленыя па саўковай тэхналогіі, так гэты ідэалагічны тавар не знойдзе збыту.

**«Независмая Газета» (Расія)**

Лукашэнка аспрэчвае інфармацыю пра падрыхтоўку хлопчыка ў якасці свайго пераемніка. Тым не менш ён ахвотна прызнае, што выхаванне сына адрозніваецца ад яго ўласнага. Ён быў выгадаваны маці-адзіночкай, якая працавала на малочнай ферме. Гэта было «катастрафічна цяжка», а Коля, па словах кіраўніка Беларусі, жыве ў «залатой клетцы». Клетка для большасці людзей у Беларусі значна горш залатой, асабліва цяпер, калі сусветны эканамічны крызіс ударыў па краіне і пагражае «беларускаму цуду», пра які даўно кажа Лукашэнка.

**«Independente» (Вялікабрытанія)**

Галоўным вынікам кіравання Лукашэнкі з'яўляецца тое, што ён не стварыў самадастатковую беларускую эканоміку, аператварыў краіну ў «бяздонную бочку» для вонкавай дапамогі і падтрымкі. Беларусь пераўтворана ў рэальную эканамічную «чорную дзірку», бо былы — ужо такі звыклы для афіцыйнага Мінска — аб'ём расійскіх датацый і прэферэнцый даўно недастатковы. Дапамога павінна павялічыцца мінімум у два разы, гэта значыць яшчэ дзесьці на 9–9,5 мільярдаў долараў на год. Пытанне, дзе іх узяць? Лукашэнка лічыць, што толькі ў Расіі…

**«Politobzor» (Расія)**

Аляксандр Лукашэнка прапанаваў Расіі адным ходам вырашыць усе наяўныя супярэчнасці ў нафтавай сферы: набыць беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы (НПЗ) у абмен на доступ беларускіх кампаній да расійскіх нетраў. Галіновыя эксперты ў Расіі сумняваюцца ў рэальнасці такога праекта. З геапалітычных меркаванняў можна было б пайсці насустрач і даць некаторыя льготы па распрацоўцы радовішчаў, дапамагчы крэдытамі, дамовіцца пра допуск да трубы. Але Мінск заўсёды можа адыграць усё назад.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Уласна, дзе б ні выступаў бацька — гэта заўсёды шоў. Аднак яго прамовы на адрас рускіх адрозніваюцца асаблівай глыбінёй і сілай. Навекі адлучаны ад крамлёўскага трона, у гэты дзень ён раз на год бярэ рэванш. Адводзіць душу. Адчувае сябе, груба кажучы, Пуціным.

**«Грани» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. НАЗАРБАЕВА ЗНОЎ ПАКІНУЛІ БЕЗ НОБЕЛЕЎСКАЙ ПРЭМІІ

Адзін з ускосных, аднак цікавых аспектаў выдачы апошняй нобелеўскай прэміі міру заключаецца ў тым, што Нобель зноў не дастаўся Назарбаеву, хоць наўрад ці знойдзецца ў свеце больш амбіцыйны ахвотнік стаць нобелеўскім лаўрэатам. Назарбаў намінуецца ўжо шосты раз. Цяжка сказаць, у чым сакрэт гэтага маніякальнага жадання. Так ці інакш, з 2003 года казахскі МЗС рэгулярна падбівае нейкія арганізацыі, дэпутатаў іншых краін, а часам і цэлыя парламенты (напрыклад, кіргізскі) прасіць у нобелеўскіх акадэмікаў прэмію для Назарбаева. Цікава пералічыць заслугі Нурсултана, якія пазначаюцца ў якасці прычыны для ўзнагароды казахскага прэзідэнта: «за барацьбу з распаўсюджаннем ядзернай зброі», «за ўнёсак ва ўмацаванне міру паміж народамі», «за закрыццё атамнага палігона ў Сяміпалацінску». Самую экзатычную матывіроўку прапанаваў у 2009 годзе нейкі чачэнскі дзіцячы дом: «За падтрымку асобаў — ахвяраў сталінскіх рэпрэсій». Цікава, ці будзе Нурсултан і надалей дамагацца прэміі? Шмат экспертаў лічаць, што пасля расстрэлу страйкуючых рабочых у Жанаазенне ў снежні мінулага года Назарбаеву на такіх марах трэба паставіць крыж.

**Паводле казахскай прэсы**

### ІРАН. ФАЛЬШЫВЫМІ БАКСАМІ СУПРАЦЬ ВАЛЮТЧЫКАЎ

Незвычайны спосаб, калі верыць заходняй прэсе, вынайшлі ўлады Ірану для барацьбы з інфляцыяй, якая пасля ўвядзення эканамічных санкцый супраць краіны з боку Захаду б'е ўсе рэкорды. Нагадаем, што за два апошніх тыдні дзяржаўная іранская валюта патаннела адносна долара на траціну. Зараз на чорным рынку курс складае 37 500 рыялаў за долар. Улады адрэагавалі на валютны ажыятаж ў духу ўсіх аўтарытарных рэжымаў: абвінавацілі ва ўсім валютчыкаў і правялі шырокамаштабны паліцэйскі рэйд, у выніку якога было арыштавана больш за два дзясяткі спекулянтаў. Іх чакае паказальны суд. Аднак на агульную сітуацыю на валютным рынку гэта ніяк не паўплывала, паколькі галоўныя шэрыя аперацыі з валютнай адбываюцца на ўзроўні чыноўнікаў, якія маюць магчымасць набываць для сваіх установаў валюту ў дзяржбанку па нізкім кошце, каб пасля прадаваць па рынкавым курсе праз «мянялаў» простым грамадзянам. З-за неэфектыўнасці звычайных сілавых метадаў аяталы пайшлі на незвычайны крок. Калі верыць заходнім СМІ, яны выкінулі на рынак фальшывыя долары. Называецца сума ў 8 мільярдаў падробленых баксаў, якія, быццам, надрукаваныя ў КНР. Страх перад тым, каб набыць фальшыўку, здаецца, трохі насцярожыў іранцаў. Калі верыць тым жа заходнім медыя, яны не так актыўна пачалі пераводзіць кроўныя сродкі ў «зялёныя». У выніку ў апошнія дні курс рыяла ўзмацніўся да 34 000 за долар.

### ГЕРМАНІЯ. АСУДЗІЛІ ЗА ЗАКЛІК ЕСЦІ ШАЎРМУ?

Незвычайны судовы працэс завяршыўся ў ФРГ. Судзілі Даніэля Гіса, імя якога нешта гаворыць толькі прыхільнікам карычневых дактрын. Гіс, якому больш за 40 гадоў, — зорка неанацысцкай музыкальнай сцэны. Аднак яго творчасць цікавая не толькі яго фанатам, але і спецлужбам, якія змагаюцца супраць прапаганды неанацызму. Таму нічога дзіўнага не было ў тым, што прыкладна год таму супраць Гіса распачалі справу за прапаганду нацызму ў яго апошнім альбоме пад красамоўнай назвай «Адольф Гітлер жыве». Гэта была банальная справа, якая пагражала Гісу штрафам і была мала каму цікавай. Аднак апошнім часам працэс над Даніэлем знаходзіўся ў фокусе інтарэсу СМІ. Сярод песняў на згаданым альбоме ёсць тэма «Doener Kiler», якую можна перакласці як «Забойца шаўрмы». Менавіта так называла сябе банда неанацыстаў з групы Нацыянал-сацыялістычнага падполля (NSU), якая сістэматычна забівала туркаў, галоўным чынам з тых, што прадавалі папулярныя ў немцаў донэр-кебабы, падобныя на вядомую нам шаўрму. Адразу ж пасля выкрыцця NSU следства выставіла Гісу новае абвінавачанне. Адпаведна гэтай версіі, Гіс ведаў пра дзейнасць групы і прапагандаваў забойства, натхняючы тэрарыстаў на новыя крымінальныя ўчынкі. Але адвакат прапанаваў сваю трактоўку зместу песні пра забойцу шаўрмы: Гіс пад выразам «забіць шаўрму» меў на ўвазе знішчэнне мяса (інгрэдыент шаўрмы), што не можа быць антызаконным. Нягледзячы на арыгінальны падыход адваката, суддзя схіліўся да версіі следства. Гіса прызналі вінаватым у прапагандзе забойстваў і пасадзілі на 7 месяцаў у турму.

**Паводле нямецкай прэсы**

### БЕЛЬГІЯ. БАРАЦЬБА З НЕЗАЛЕЖНІКАМІ – ІДЫЯТЫЗМ

Лідар фламандсцкіх нацыяналістаў Барт дэ Вевер выпадкова прыдумаў новы сепаратысцкі лозунг. Адбылося гэта на святкаванні перамогі яго партыі «Новы фламандскі альянс» на мясцовых выбарах, якія прайшлі ў Бельгіі на мінулым тыдні. Альянс стаў першай партыяй у фламандскай камуне, атрымаўшы каля 38 працэнтаў галасоў. Нацыяналісты зрабілі тое, што нікому не ўдавалася за апошнія 80 гадоў — пасунулі сацыялістаў з мэрыі галоўнага фламандскага гораду Антверпен. На хвалі перамогі дэ Вевер запатрабаваў ад бельгійскага ўраду, які ўзначальвае сацыяліст-франкафон Эліа дзі Рупа, «зрабіць высновы» і пачаць перамовы пра канчатковы падзел Бельгіі на дзве краіны. На тым самым мітынгу палітык нечакана ляпнуў: «Здымі ўжо гэтую кружэлку, ідыёт». Аказалася, што фраза была адрасаваная не прэм'еру, а гукааператару, які ўключыў падчас мітынгу не тую мелодыю. Дэ Вевер папросту забыў зняць мікрафон, які быў замацаваны на яго гарнітуры. Аднак публіка спачатку зразумела гэта не вельмі карэктнае выказванне як пасланне на адрас дзі Рупа, якога адразу пачала называць ідыётам-дыджэем. Апошні, між тым, здаецца, не жадае «здымаць кружэлку» і прапануе не разводзіцца, а пачакаць вынікаў прызначаных на 2014 год парламенцкіх выбараў.

**Паводле бельгійскай прэсы**

ДОСВЕД СУСЕДЗЯЎ

# ЧАТЫРЫ АРГУМЕНТЫ СУПРАЦЬ КС

Алег НОВІКАЎ




**Беларуская апазіцыя актыўна абмяркоўвае ідэю імпарту з Расіі мадэлі інтэрнэт-выбараў каардынацыйнага савету апазіцыі. У якасці сціплага ўнёску ў дэбаты хацелася б звярнуць увагу на слабыя бакі эксперыменту.**

## 1. Вар'яты ад палітыкі

Дэмакратычная формула абрання ў КС, якая давала магчымасць усім ахвочым выстаўляць кандыдатуры, дазволіла засвяціцца на публіцы звычайным гарадскім вар'ятам, якія называлі сябе дэмакратамі і тым кампраметавалі дэмакратычны рух. Пачытайце біяграфіі некаторых аматараў трапіць у КС, і вы стопрацэнтна падумаеце, што гаворка ідзе хутчэй пра выбары Каардынацыйнага савету «палаты нумар 6».

Напрыклад, Давыдзенка Дзяніс Вячаслававіч, прафесія — «прагрэсар» і «сацыяном». У яго біяграфіі, у прыватнасці, сказана: «Рыцар Ордэна Паўночнага Храма». А вось, напрыклад, нейкі Шатаў Станіслаў Мікалаевіч — «Рух светлыя сілы, ваяр святла». Гэты кандыдат у лідары дэмакратаў так апісваў свае заслугі перад прагрэсіўным грамадствам: «Правёў больш за 100 круглых сталоў і скайп-канферэнцый. Тэлевядучы Светлага тэлебачання, выйшла больш за 200 перадач. Рэдактар газет «Ваяр святла» і «За светлую будучыню!». Аўтар звыш 1000 артыкулаў. Аўтар 10 інтэрнэт-кніг з аўдыёвізуальным суправаджэннем серыі «Прывітанне з 38-га стагоддзя!».

Ну гэта яшчэ, як гаворыцца, самыя здаровыя хворыя. У каталозе кандыдатаў былі значна больш сур'ёзныя элементы. Так, на выбары зарэгістравалі Мікалая Валянцінавіча Каралёва. Тэрарыста, асуджанага пажыццёва за некалькі выбухаў у Маскве. У перапынках паміж тэрактамі Каралёў паспеў стварыць «Асацыяцыю белых палітвязняў і ваеннапалонных імя Рудольфа Геса, якая ўвайшла ў пан'еўрапейскую сетку правых зняволеных імя Андэрса Брэйвіка».

Няма ніякіх сумневаў, што ў Беларусі знойдзецца таксама такога кшталту вар'ят, які паспрабуе стаць сябрам тутэйшага КС.

## 2. Слабая палітычная культура дэмакратаў

Выбары ў Каардынацыйны савет выйгралі лібералы. Першыя пяць пазіцый занялі Аляксей Навальны, Дзмітрый Быкаў, Гары Каспараў, Ксенія Сабчак і Ілля Яшын. Не выпадкова свецкая львіца Ксенія Сабчак цалкам задаволеная. «Ура! У нас будзе ліберальна-цэнтрысцкі Каардынацыйны савет, а не радыкальна-сацыялістычны», — радуецца Сабчак у сваім твітары.

Прайграваць ніхто не любіць, і адразу ж усе лузеры сталі адмаўляцца ад праекту КС. Прадстаўнікі левага флангу ўжо заявілі пра бессэнсоўнасць выбараў. «Пасля такога галасавання адзіная апазіцыя перастала існаваць, — лічыць дэпутат ад «Справядлівай Расіі» Ілля Панамароў. — Яе трэба будаваць ад самага пачатку». «Што я магу сказаць: выбары КС не адлюстроўваюць рэальнага раскладу сіл у пратэстным руху нават блізка. Гэта погляд лібералаў на апазіцыю», — упэўнены эсэр.

Выбары ў Каардынацыйны савет апазіцыі раскалолі нацыяналістаў. Па словах Дзмітрыя Дзёмушкіна, які таксама прайграў выбары, «большасць нацыяналістаў краіны не ўдзельнічала ў галасаванні».

«Шараговыя нацыяналісты не звязваюць нацыянальна-вызваленчую барацьбу з выбарамі, арганізаванымі ліберальнай часткай апазіцыі ў кіраўніцтва гэтай самай апазіцыі. Не прагаласавала нават большасць паплечнікаў аб'яднанняў. Гэта значыць, дзясяткі тысяч актыўных рускіх людзей, якія выходзяць на «рускія маршы» па ўсёй краіне, аддалі перавагу не ўдзельнічаць у якасці выбарцаў у дадзеным працэсе», — адзначае Дзёмушкін.

Застаецца спытаць: нашто сам Дзёмушкін балатаваўся у КС?

Такі сцэнар цалкам прагназуемы і для нашых краёў. Ніколі той жа Рымашэўскі не пагодзіцца, што прайграў, напрыклад, Дзмітрыеву і г.д.

## 3. Падазрэнні ў фінансавых махінацыях і фальсіфікацыях

Ужо вядома пра пачатак крымінальнай справы па факце крадзяжоў унёскаў грамадзян для ўдзелу ў выбарах. Усяго ў Генпракуратуру паступіла 64 заявы ад пацярпелых, пасля чаго і была арганізавана праверка. Намеснік начальніка аддзела ГУ МУС Расіі па Маскве, разгледзеўшы матэрыял праверкі, паведаміў пра злачынства і распачаў крымінальную справу па ч. 1 арт. 159 КК РФ (махлярства).

Вынікі выбараў — перамогу фракцыі Навальнага — некалькі дзён таму «прадказаў» журналіст Алег Лур'е. Журналіст заявіў: «Расійская апазіцыя пайшла па слядах улады і выкарыстоўвае «чураўскія» тэхналогіі на выбарах у Каардынацыйны савет. Пераможцы галасавання загадзя вядомыя і ўзгодненыя». Алег Лур'е таксама апублікаваў свой варыянт спісу, які практычна супаў з канчатковымі вынікамі.

Як адзначае з гэтай нагоды блогер *fatherland*: «У выніку выбараў, якія арганізуе чалавек Навальнага, перамагае Навальны. Замест чаканых новых твараў у спісах з'яўляюцца яго намеснікі і прыхільнікі, яго самы моцны канкурэнт Удальцоў апынаецца толькі на 20-м месцы».

Вядомы левы інтэлектуал Барыс Кагарліцкі адзначае, што выбары ў КС з пункту гледжання дэмакратыі — правал, а з пункту гледжання інтарэсаў ліберальнай партыі — поспех. «Проста адно па логіцы не сумяшчальна з іншым», — кажа Кагарліцкі.

## 4. Эксгібіцыянісцкая дэманстрацыя маргінальнасці

Гаворка нават не пра тое, што ў выбарах удзельнічала ўсяго 80 тысяч расіянаў, а ў сацыяльным статусе тых, хто галасаваў. Яго лёгка вылічыць па імёнах, якія трапілі ў КС.

«Ідэя КС правалілася для ўсіх: для нацыяналістаў, для агульнаграмадзянскай апазіцыі, для яе лідараў — ад Навальнага да Бялова. І справа не ў персанажах, якія ўвайшлі ў КС, а ў «электараце», які з'явіўся ў асноўнай сваёй масе ў вобразе «хамякоў» (так на моладзевым слэнгу называюць актыўных аматараў інтэрнэту), што жывуць у кампутарах і фанацеюць ад Ксюшы Сабчак», — канстатаваў нацыяналіст Міронаў.

«Тут выяўляецца цікавы факт: ніводны з абраных у КС не мае ў рэгіёнах прыхільнікаў, якія на рэгулярнай аснове займаюцца дзейнасцю, больш асэнсаванай, чым пастаноўка зорачак і «лайкаў» у сацыяльных сетках і рэпосты ў блогах з маханнем сцягам раз на некалькі месяцаў. Уся праца з рэгіёнамі ў гэтых людзей зводзіцца... да твітаў то пра чарговы маскоўскі мітынг, то пра чарговага вязня», — канстатуе блогер *skalych*.

Фактычна, руская апазіцыя дзякуючы выбарам з КС распісалася ў тым, што яна страшэнна далёкая ад народа. Няўжо беларускім дэмакратам гэта таксама трэба?

КІНО

# БІТВА ДЛЯ КРЭЦІНАЎ

Алег НОВІКАЎ



**«Польская перамога, якая змяніла гісторыю», — пад такім рэкламным слоганам прыблізна паўгода таму пачалася раскрутка сумеснага польска-італьянскага фільма «Бітва пад Венай» рэжысёра Рэнца Марцінэлі .**

Фільм, прэм'ера якога адбылася 15 кастрычніка, прэзентавалі як самую вялікую падзею года на польскім кінарынку. Акрамя Польшчы стужку плануецца паказаць у 50 краінах свету.

Непасрэдна карціна распавядае пра бітву пад Венай. Бітва гэта адбылася 12 верасня 1683 паміж польска-аўстрыйска-нямецкім войскам (Святая ліга) пад камандаваннем польскага караля Яна III Сабескага і войскам Асманскай імперыі пад камандаваннем візіра Кары Мустафы. Скончылася баталія з удзелам каля 200 тысяч чалавек паразай Турцыі, якая пасля гэтага ўдару ўжо не аправілася і з таго часу ўжо не ўяўляла пагрозу хрысціянскай Еўропе.

З улікам перманентных скандалаў вакол ісламскай тэмы, фільм чакалі насцярожана. Шмат хто баяўся, што хрысціяне або мусульмане ўбачаць на экране нешта агіднае для сваіх канфесій. Аднак пасля прэм'еры ўсе ўздыхнулі з палёгкай. Фільм атрымаўся настолькі кепскім, што ніякага інтарэсу ў рэлігійных фундаменталістаў ён дакладна не выкліча.

Тое, што карціну адразу атакавалі спецыялісты па гісторыі, нікога не здзівіла. Цяжка зрабіць гістарычны фільм, а тым больш пра далёкае мінулае, без ляпаў. Іх у «Бітве пад Венай» хапае. Так, простыя польскія жаўнеры на экране, як запраўскія паліглоты, размаўляюць на амаль усіх еўрапейскіх мовах. Больш таго, у бой яны адпраўляюцца пад сказаную святаром фразу па-англійску: «In the name of God!» На ўніформе гусараў, што атакуюць басурман, — элементы ўніформы польскай арміі мадэлі 1927 года і г.д.

Аднак гэта ўсё дробязі. Галоўны парадокс карціны палягае ў тым, што яе стваральнікі свядома не хацелі, каб гістарычны фільм адпавядаў гістарычным рэаліям. Сапраўдны шок у гісторыкаў выклікаў эпізод з ваўком, у якога ўсялілася душа нейкага нябожчыка. Таксама пару разоў героі карціны на поўным сур'ёзе разважаюць пра ведзьмаў і іх магічную сілу, якую трэба выкарыстаць у барацьбе з нявернымі. Рэжысёр растлумачыў гэта імкненнем зрабіць фільм больш цікавым для гледача.

Аднак польская публіка такой трактоўкі гісторыі не зразумела. Некаторыя кінакрытыкі, напрыклад у ліберальным часопісе «Polityka», ацанілі карціну на адзін бал. Выданне, дарэчы, пратэстуе супраць таго, каб карціну аднасілі да жанру «гістарычны фільм». На думку аўтара рэцэнзіі, яе трэба аднесці да фільмаў з разраду «фэнтэзі».

А вось часопіс «Co Jest Grane» прысвоіў «Бітве пад Венай» намінацыю «кінематаграфічны кур'ёз». Іншая ліберальная газета «Gazeta Wyborcza» адносіць твор Марцінэлі да катэгорыі «рэлігійна-мілітарная байкай класу C». На думку газеты, фільм можна параўнаць з самымі прымітыўнымі прапагандысцкімі творамі часоў камунізму, бо рэжысёр трансфармаваў польскую гісторыю ў нейкую казку пра добрых каталікоў. У дадатак адзін з гледачоў праз газету патрабуе ад міністэрства адукацыі тэрмінова забараніць прагляд фільму для дзяцей, паколькі ён, відавочна, зроблены для крэцінаў. Не выцягнула фільм і гульня актораў. На думку той жа «Polityka», лепш за ўсіх выглядае актор, які грае гетмана і які за ўвесь фільм не сказаў ні слова.

Як вядома, польскае грамадства вельмі палітызаванае на ліберальны і кансерватыўны лагеры. Звычайна, тое, што падабаецца ліберам і левым, уключаючы культурныя прадукты, выклікае непрыманне ў іх ідэйных апанентаў. Аднак на гэты раз кантрасту ў ацэнках не назіраецца. Здаецца, што правальная праца стваральнікаў «Бітвы пад Венай» аб'ядлала ўсіх.

Правая газета «Rzeczpospolita» акцэнтуе ўвагу на тым, што палякаў на экране фактычна няма. Нават кароль Ян Сабескі гуляе нейкую амаль перыферыйную ролю. Між тым, у праспектах да фільму напісана, што задача фільму перш за ўсё заключаецца ў тым, каб папулярызаваць учынак караля Сабескага і праз яго ўсю гісторыю Польшчы. З'явілася версія, што ў пачатковым варыянце сцэнару фільма ніякага Сабескага ўвогуле не было. Блок пра караля ўключылі ў сцэнар з таго факту, што палякі пагадзіліся даць грошы на здымкі.

Аднак нават пры такім раскладзе Ян Сабескі — далёка не ў цэнтры сюжэта. Фабула фільму будуецца вакол прыгод манаха Марка з Фіана (марэчы, гістарычная персона, якога пазней прызналі святым), што ў той час аб'ехаў шэраг каралеўскіх двароў Еўропы і дамогся ад манархаў згоды на ўваходжанне ў тую самую Святую лігу. Ён быў папскім агентам і дзейнічаў адпаведна з інструкцыямі папы Інакенція XI. Паралельна з прыгодамі Марка паказана гісторыя візіра Кары Мустафы, якому даручана захапіць сталіцу Аўстрыі. У фінале абодва героя сустрэнуцца на поле бітвы. Дарэчы, у тых, хто глядзеў фільм, узнікла ўражанне, што Еўропа вызвалілася ад турэцкай пагрозы не столькі дзякуючы Сабескаму, колькі гэтаму самаму Марка з Фіана.

Другаснасць ролі караля Яна Сабескага на экране, безумоўна, выклікае гнеў палякаў, з кішэняў якіх часткова была прафінансаваная карціна праз дзяржаўны Польскі інстытут кінамастацтва. Дадатковы фактар: грошы на фільм былі выдадзеныя з бюджэту ў той час, калі з-за недахопу фінансавання скарачаюць штат польскіх кінастудый. Некаторыя палітыкі нават патрабуюць завесці крымінальную справу супраць тых, хто растранжырыў народныя грошы.

І добра б, калі яшчэ проста растранжырыў. Фільм выклікаў сапраўдную нацыянальную траўму. Бітва пад Венай мае асаблівае месца для Польшчы. «Для нацыі, гісторыя якой — бясконцыя ўнутраныя канфлікты, спрэчкі і трагедыі, гэта быў рэдкі поспех — вікторыя не лакальнага, але сусветнага маштабу. Гэта была сімвалічная перамога, якая назаўсёды даказала палякам, што слабы можа перамагчы моцнага», — так апявае газета «Newsweek» успрыманне падзей 1683 года ў польскай гістарычнай свядомасці.

І што пасля гэтага пабачылі польскія гледачы? У карціне «падзея сусветнага маштабу» выяўленая як шэраг батальных мікрасцэн, у якіх гусары ганяюць турак «з выкарыстаннем кампутарных эфектаў 1970-х гадоў» («Polityka»). Нехта нават параўнаў батальныя эфекты з фільмам «Пан Валадыеўскі», які Ежы Хофман зняў у далёкім 1969 годзе. Аказалася, што фільм Хофмана ў гэтым сэнсе на галаву вышэй за «Бітву пад Венай». Нават левыя аглядальнікі кажуць, што адчулі ад пабачанага ў карціне нейкі комплекс нацыянальнай агіды.

Стваральнікі кінахалтуры спрабуюць неяк апраўдацца. Так, прадзюсар карціны Аляксандра Леонэ апублікаваў ліст: «Крытыкі патрабуюць зрываць сеансы «Бітвы пад Венай» у кінатэатрах. Гэта выглядае як вайна. Аднак вайна супраць каго? Трэба зразумець, што фільм не можа быць прадметам нацыянальнай палітыкі». Ён таксама нагадвае, што ніводны фільм, зняты палякамі пра польскіх герояў (Шапэн, Капернік), у адрозненні ад «Бітвы пад Венай», не выйшаў за межы Польшчы».

Пакуль скандал вакол «Бітвы пад Венай» працягвае нарастаць, і ўсё ідзе да таго, што эмоцыі вакол карціны яшчэ не хутка суцішацца. Аказваецца, стваральнікі наздымалі матэрыялу, якога цалкам хопіць на серыял. Ужо вядома, што прэм'ера мыльнай оперы пра «Бітву пад Венай» адбудзецца праз год на адным з прыватных польскіх каналаў. Пасля сагу Марцінэлі пакажа італьянскае тэлебачанне.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ПАВЕЛ ЗЕНЬКОВІЧ



Павел Зеньковіч кіруе новым аддзелам пры адміністрацыі прэзідэнта Расіі. Дэпартамент называецца Упраўленне па грамадскіх праектах. Яго афіцыйная задача — наладзіць дыялог з грамадствам і сфармуляваць каштоўнасці патрыятызму, што па-сутнасці, на думку аналітыкаў, значыць — выпрацаваць чарговую ідэалогію расійскай дзяржавы. Арыенцір — мадэль грамадскай думкі ЗША, дзе, па словах Зеньковіча, «якія б там ні былі партыі, плыні і персаналіі — усё аб'ядната вакол пэўных каштоўнасцяў, у першую чаргу патрыятызму, павагі да закону, свабодаў і г.д. І гэтага ніхто не падвяргае сумневу». Аднак пакуль шмат хто не верыць у магчымасць падобнай формулы ў Расіі. Адзін з аналітыкаў лічыць: «У Расіі прынцыпова іншая канструкцыя сістэмы. У ЗША на празрыстай аснове ажыццяўляецца ўзаемадзеянне дзяржавы з грамадскімі арганізацыямі, без усякіх дапаможных структур. У нас, па-сутнасці, гаворка ідзе пра ўзмацненне кантролю над грамадствам з боку дадатковага ўпраўлення ў адміністрацыі прэзідэнта». З гэтым згодны адзін з былых галоўных піяршчыкаў Крамля Глеб Паўлоўскі, які пракаментаваў ініцыятыву Зеньковіча так: «Ідэя пра тое, што краіна непатрыятычная і яе трэба выхоўваць у нейкім кірунку, сама па сабе сведчыць пра таемны недавер улады да ўласных грамадзян, якія лічацца непатрыятычнымі».

### ДЖОРДЖ МАКГОВЕРН



Былы лідар партыі дэмакратаў ЗША памёр 20 кастрычніка ва ўзросце 90 гадоў і пакінуў пасля сябе цікавую спадчыну. У 1972 годзе ён катастрафічна прайграў выбары рэспубліканцу Рычарду Ніксану, набраўшы толькі 37 працэнтаў. Гэта было падобна да гістарычнага правалу. Нават сярод дэмакратаў узнікла ініцыятыва — «Дэмакраты за кандыдата рэспубліканцаў». Усё з-за таго, што напярэдадні Макговерн як заўзяты пацыфіст наведаў СССР і Кітай — тагачасных геапалітычных ворагаў ЗША. Аднак нягледзячы на крах, Макговерн здолеў адпомсціць Ніксану. Будучы сенатарам, ён дабіўся імпічменту прэзідэнта з-за скандалу Уотэргейт. Ён таксама спрабаваў пазней стаць кандыдатам ад дэмакратаў на выбарах прэзідэнта, аднак няўдала. Акрамя таго, Макговерн увайшоў у гісторыю як адзін з першых арганізатараў глабальнай кампаніі супраць голаду ў краінах трэцяга свету і адзін з самых паслядоўных праціўнікаў вайны ў В'етнаме, якую ён часта крытыкаваў зыходзячы з асабістага досведу вайсковага лётчыка падчас Другой сусветнай вайны. «Я быў на вайне, і я ведаю, наколькі вайна знішчае ўсё жывое навокал», — казаў Джордж Макговерн. Цікава, што адной з апошніх прамоў Макговерна быў выступ у 2009 годзе на вечарыне памяці Рычарда Ніксана (яго вечнага ворага) у Злучаных Штатах. Застаецца сказаць, што менавіта падчас адной з кампаній за намінацыю Макговерна на пасаду прэзідэнта ў 80-х гадах мінулага стагоддзя палітыкай зацікавіўся Біл Клінтан — будучы прэзідэнт ЗША, які ў той час далучыўся да выбарчага штабу Макговерна. Так пачаўся шлях Клінтана ў Белы дом.

### ЭДУАРД ПРУТНІК



Лідар групы дэпутатаў Партыі рэгіёнаў у Вярхоўнай Радзе патрабуе аднавіць у Кіеве помнік Пятру Сталыпіну. Той помнік стаяў на цяперашнім Майдане Незалежнасці і быў разбураны падчас лютаўскай рэвалюцыі 1917-га. Сваю ідэю аўтары аднаўлення помніку абгрунтоўваюць тым, што «істотна ўзрасла грамадская цікавасць да вытокаў гістарычнага развіцця Кіева, да аднаўлення гістарычнай памяці шляхам узнаўлення ранейшых помнікаў». Незалежныя каментатары, у сваю чаргу, кажуць, што гэта — чысты піяр, арыентаваны на русафільскую фокусную аўдыторыю, якую Партыі рэгіёнаў тэрмінова спатрэбілася падцягнуць на прызначаныя на наступны тыдзень парламенцкія выбары. Акрамя таго, Пётр Сталыпін — кумір цяперашняга прэм'ера Міколы Азарава. Азараў лічыць, што рэформы, што здзяйсняў Сталыпін, маюць паралелі з рэформамі, якія праводзяцца ва Украіне цяпер. Яго не палохае статыстыка: у гады прэм'ерства Сталыпіна — з 1906 па 1910 год — за палітычныя злачынствы было асуджана на смяротнае пакаранне 5 735 чалавек. Для параўнання, за перыяд з 1825 па 1905 год, гэта значыць за восемдзесят гадоў, якія папярэднічалі першай рускай рэвалюцыі, у Расіі былі асуджаны да пакарання смерцю 625 палітычных злачынцаў, а пакараны толькі 191 чалавек. Дарэчы, у студзені гэтага года кіеўская мэрыя адмовіўся прыняць у дарунак ад Расіі помнік Сталыпіну — вядомаму ў свой час украінафобу.

▸ **АСОБА**

# 1812 ГОД. ВЫБАР ГЕНЕРАЛА КАСЦЮШКІ

**Ігар МЕЛЬНІКАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

**Гісторыя жыцця Тадэвуша Касцюшкі да сённяшняга дня захоўвае вялікую колькасць недастаткова вывучаных гісторыкамі аспектаў.**

Выхадзец з Беларусі, нацыянальны герой Польшчы і ЗША, Касцюшка, нягледзячы на страту Рэччу Паспалітай незалежнасці і вымушаную эміграцыю, і ў пачатку XIX стагоддзя працягваў заставацца ўплывовай грамадска-палітычнай фігурай. Бясспрэчны аўтарытэт гэтага чалавека прымусіў Аляксандра I і Напалеона Банапарта задумацца пра тое, як прыцягнуць генерала на сваю службу. Кожны з імператараў разумеў, што поспех у гэтай справе абяцае значныя дывідэнды ў вырашэнні так званага «польскага пытання».

Пасля вяртання з ЗША на стары кантынент у 1798 годзе Касцюшка пасяліўся пад Парыжам. Дадзены факт выклікаў вялікую занепакоенасць у вышэйшых палітычных колах Расійскай імперыі. Устрывожаны міністр замежных спраў Расійскай імперыі граф Варанцоў запатрабаваў тэрмінова сабраць звесткі пра тое, што мяцежны генерал робіць у Парыжы, як да яго ставяцца французскія ўлады і асабіста Напалеон. Адказ, дасланы ў Пецярбург з Парыжа, супакоіў царскага чыноўніка. У дэпешы ад 10 сакавіка 1804 года паверанага ў справах Расіі ў Парыжы П. Убры дакладаў, што польскі генерал не меў адносін з французскім урадам.

Сапраўды, Касцюшка расчараваўшыся імперскімі амбіцыямі Напалеона, яго двухсэнсоўнымі і загадкавымі заявамі наконт лёсу Польшчы, абыякавым стаўленнем да салдат і афіцэраў польскага легіёна, якія змагаюся на баку Францыі ў Італіі і іншых краінах, вырашыў не ўмешвацца ў палітычныя працэсы ў Еўропе.

Аднак поспехі напалеонаўскай арміі ўсё больш усялялі ў палякаў надзею на адраджэнне Рэчы Паспалітай. Падчас адной з сустрэч Напалеона з генераламі ў лістападзе 1805 года хтосьці з французскіх военачальнікаў заўважыў, што Тадэвуша Касцюшку варта было б выкарыстаць для падрыхтоўкі і арганізацыі ўсеагульнага польскага паўстання. Да таго ж у французскім штабе мелі досвед наконт сучаснай тактыкі і стратэгіі вядзення бою, якую прапаведаваў былы кіраўнік паўстання 1794 года. Менавіта Касцюшка быў адным з першых у Еўропе, хто пачаў выкарыстоўваць манеўранасць пяхоты падчас бою. Гэта тактыка даказала сваю эфектыўнасць падчас вайны за незалежнасць у ЗША.

У 1806 годзе французскі імператар загадаў міністру паліцыі Ж. Фушэ прывезці кіраўніка паўстання 1794 года ў яго штаб-кватэру. Прыехаўшы ў Барвіль, французскі чыноўнік заявіў генералу, што Напалеон збіраецца ваяваць супраць Расійскай імперыі і польскі народ павінен дапамагчы Францыі ў гэтай справе. Але «пан Тадэвуш» запатрабаваў гарантый аднаўлення незалежнасці Польшчы, яе канстытуцыі і палітычнай роўнасці яе грамадзян.

Даведаўшыся пра патрабаванні Касцюшкі, Напалеон заявіў, што абыдзецца без яго. Аднак французы канчаткова не адмовіліся ад ідэі выкарыстаць знакамітага ўраджэнца Брэстчыны. Ж. Фушэ ад імя Касцюшкі стварае ілжывы маніфест з заклікам да палякаў падтрымаць Напалеона. Абураны генерал запатрабаваў абвяржэння фальшыўкі і раскрыцця імя сапраўднага аўтара дадзенага дакумента.

Падчас зімовай кампаніі 1806–1807 гадоў польская тэма зноў стала актуальнай. Прычым актыўнасць у гэтым кірунку пачала праяўляць і Расійская імперыя. Так, сярод эліт былога Вялікага Княства Літоўскага адна за другой сталі з'яўляцца ідэі адраджэння Рэчы Паспалітай пад скіпетрам Аляксандра I. Аўтарамі аднаго з праектаў былі былы ўдзельнік паўстання 1794 года Томаш Ваўжэцкі і былы пасол ад Брэсцкага павета на соймы 1782, 1786, 1788–1792 гадоў Станіслаў Нямцэвіч. Менавіта Нямцэвіч прадставіў у Пецярбургу міністру замежных спраў Расійскай імперыі А. Чартарыйскаму свой план «Myśli względem ziem litewskich i ruskich», у адпаведнасці з якім з зямель былога ВКЛ меркавалася стварыць аўтаномную дзяржаву. На жаль, не вядома, якое месца адводзілі стваральнікі плана асобе Тадэвуша Касцюшкі, але вялікіх сумневаў няма, што рэалізацыя любога дзяржаўнага праекта на землях ВКЛ і Рэчы Паспалітай не магла б абысціся без такой важнай персоны.

У гэты ж час на польскіх землях, якія знаходзіліся пад французскай акупацыяй, таксама абмяркоўваліся планы адраджэння Рэчы Паспалітай. У прыватнасці, князь Ю. Панятоўскі прапанаваў французскаму імператару аднавіць Польскае Каралеўства на тэрыторыях, якія адышлі пасля падзелаў да Прусіі і Расійскай імперыі. У Варшаве таксама былі чутныя заклікі аднавіць у Польшчы манархію, а каралём абвясціць... Тадэвуша Касцюшку.

Сам генерал увесну 1807 года накіраваў у напалеонаўскі генштаб дакумент пад назвай «Праект наступнай вайны ў Польшчы». У адпаведнасці з ім французскаму камандаванню прапаноўвалася сфармаваць з палякаў рухомыя кавалерыйскія атрады і накіраваць іх у дыверсійныя рэйды ў Брэсцкае ваяводства, іншыя раёны гістарычнай Літвы, а таксама на Валынь. Гэтыя атрады, пазбягаючы сутычак з буйнымі атрадамі рускіх, павінны былі руйнаваць тылавую інфраструктуру непрыяцеля і скоўваць перамяшчэнне буйных злучэнняў рускай арміі. Акрамя гэтага, дыверсанты вялі б выведвальную дзейнасць і правакавалі б антырускія выступы.

Эфектыўнасць гэтай стратэгіі была даказана яшчэ падчас паўстання 1794 года. Тады атрад пад камандаваннем С. Грабоўскага ў раёне Івянца перайшоў мяжу з Расійскай імперыяй і паглыбіўся на тэрыторыю Міншчыны. Рускі гарнізон у Мінску быў досыць шматлікім, таму Грабоўскі не адважыўся атакаваць горад і рушыў у бок Койданава. Насельніцтва ўсходняй Беларусі, нягледзячы на рускую прапаганду, у сваёй большасці са спачуваннем ставілася да «ліцьвінаў». Дыверсійны атрад пастаянна папаўняўся новымі добраахвотнікамі. Усё гэта дазволіла Грабоўскаму сходу захапіць добра ўмацаваны Бабруйск і знішчыць рускі гарнізон, які там знаходзіўся. Царскае камандаванне было настолькі занепакоена дзейнасцю дыверсантаў, што на барацьбу з імі з Заходняй Беларусі адклікала 4 тысячы рускіх салдат. Факты паспяховай дзейнасці дыверсійных падраздзяленняў Касцюшкі былі, безумоўна, вядомыя французскім генералам, што прымусіла іх з усёй уважлівасцю падысці да вывучэння прапановы генерала.

Пасля пачатку руска-французскай вайны 1812 года Касцюшка працягваў чакаць і назіраць. Прадстаўнікі Генеральнай канфедэрацыі Польскага Каралеўства спрабавалі прапанаваць генералу ўзначаліць гэты орган. Угаварыць састарэлага Касцюшку павінна была княжна Ганна Сапега. Але генерал адмовіўся ад прапановы, матывуючы сваё рашэнне тым, што «канфедэрацыя не можа гарантаваць цэласнасць межаў Польскага Каралеўства».

Як вядома, руская кампанія Напалеона скончылася поўным правалам, і мноства палякаў, што падтрымалі французаў, назаўсёды засталіся ляжаць на заснежаных палях «матухны Расіі». Іншыя адступілі з рэштка-мі «вялікай арміі». Навіну пра тое, што рускія войскі ўвайшлі на французскую зямлю, Касцюшка сустрэў з непрыхаваным натхненнем. У лютым 1814 года ён нават прымаў у сябе рускіх казачых афіцэраў і забараніў жыхарам сваіх уладанняў аказваць супраціў «вызваліцелям».

Пасля падзення напалеонаўскай імперыі «вырашэннем» лёсу польскіх земляў заняўся Аляксандр I. Рускі манарх, як і яго французскі візаві, не мог не ўспомніць пра Касцюшку, тым больш што генерал нагадаў аб сабе сам. 9 красавіка 1814 года ён накіраваў цару ліст, у якім прасіў абвясціць для палякаў усеагульную амністыю, стварыць у Польшчы канстытуцыйную манархію і, нарэшце, праз дзесяць год адмяніць прыгоннае права і надзяліць сялян зямлёй. Праз месяц Касцюшка атрымаў адказ ад Аляксандра I. У лісце цар рассыпаўся кампліментамі і запрашаў Касцюшку да супрацоўніцтва. 5 мая 1814 года генерал быў урачыста прыняты царом у Парыжы. У 1815 годзе адбыўся Венскі кангрэс, па выніках якога было створана Царства Польскае. З гэтага моманту рускі імператар ужо не цікавіўся асобай «знакамітага ліцьвіна». Хутка генерал выехаў у Швейцарыю, дзе і памёр у 1817 годзе.

Будучы сапраўдным патрыётам І Рэчы Паспалітай, Касцюшка з болем перажываў трагедыю падзелаў сваёй краіны ў канцы XVIII стагоддзя. «Ліцьвін» па паходжанні, ён стаў сапраўдным «палітычным» палякам, які жадаў адрадзіць з попелу некалі магутную Айчыну. Як бы ні было, герой паўстання 1794 года не стаў марыянеткай у чужых палітычных гульнях, чым прымусіў паважаць сябе і сучаснікаў, і нашчадкаў.



Тадэвуш Касцюшка



Рынграф



RADA NAYWYZSZA NARODOWA

Odebrała od Naywyższego Siły Zbroyney Narodowey Naczelnika Uniwersał Urządzaiący Włościan i skuteczną dla nich opiekę Rządową zapewniaiący w Osnowie następuiącey:

TADEUSZ KOSCIUSZKO

NAYWYZSZY NACZELNIK SIŁY ZBROYNEY NARODOWEY.

DO KOMMISSIY PORZĄDKOWYCH WSZYSTKICH ZIEM I POWIATOW.

T. KOSCIUSZKO

(M.P.)

Paланецкі ўніверсал Тадэвуша Касцюшкі



Бітва пад Рацлавіцамі

СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ПА СЦЯЖЫНКАХ КАРУСЯ КАГАНЦА

Лявон ЦЕЛЕШ

**Вёска Вялікія Навасёлкі, што ў васьмі кіламетрах ад Дзяржынска, славіцца сваімі садамі, добразычлівымі, працавітымі людзьмі, а таксама гісторыка-краязнаўчым музеем, які размяшчаецца ў мясцовай сярэдняй школе. У ліку іншых славутасцей вёскі кожны мясцовы жыхар назаве былую сядзібу Кастравіцкіх, парк, стайню і бровар.**


Карусь Каганец


Гіём Апалінэр

Цёплым восеньскім днём краязнаўчы сверб закінуў мяне ў гэтую вёску. Кіраўнік музея педагог і краязнаўца Вячаслаў Уладзіміравіч Кавалеўскі правёў мяне па залах музея, асобны куточак якога прысвечаны жыццю і творчасці Каруся Каганца — вядомага беларускага пісьменніка, драматурга, мастака і скульптара. Радаводнае дрэва шляхецкага роду Кастравіцкіх, кнігі Каганца, малюнкі, фотаздымкі. Побач — стэнд, прысвечаны стрыечнаму пляменніку Каганца, вядомаму французскаму паэту Гіёму Апалінэру. Пасля знаёмства з музеем Вячаслаў Уладзіміравіч праводзіў мяне да магілы Каруся Каганца, якая знаходзіцца на ўскраіне вёскі, непадалёку ад школы, пад шатамі магутных дрэў. Вучні і настаўнікі школы часта наведваюць яе, саджаюць кветкі.

Шляхецкі род Кастравіцкіх, з якога паходзіць Карусь Каганец, мае глыбокія карані. У XV стагоддзі жыў праваслаўны шляхціц і скарбнік Мсціслаўскага княства Іван Кастравіцкі. Літаратурныя і гістарычныя крыніцы нагадваюць, што ў больш познія часы Кастравіцкія валодалі землямі на Астравеччыне, Навагрудчыне, Дзісненшчыне. Мелі Кастравіцкія і радавы герб «Байбуза». Па адной з версій, з віленскіх дваран Кастравіцкія былі пералічаны ў мінскія: у 1834 годзе Мінскі дваранскі сход запісаў Кастравіцкіх у кнігу Мінскай губерні. З таго часу прадстаўнікі адгалінавання роду Кастравіцкіх валодалі і землямі на Койданаўшчыне (зараз Дзяржыншчына).

Карл Самуілавіч Кастравіцкі, бацька будучага пісьменніка, атрымаў ніядрэнную агранамічную адукацыю, быў вялікім аматарам музыкі. Ад нараджэння меў фізічны недахоп — быў гарбаты. У саракагадовым узросце Карл Кастравіцкі пабраўся шлюбам з 19-гадовай Аленай Тадэвушаўнай, якая была з багатай сям'і, адукаваная (скончыла Віленскі інстытут). За актыўны ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага Карл Кастравіцкі быў высланы ў сібірскі горад Табольск, а яго маёмасць, акрамя невялікага фальварка Навасёлкі, канфіскаваная. У хуткім часе да Карла прыехала і яго жонка. 10 лютага 1868 года ў Кастравіцкіх у Табольску нарадзіўся сын Казімір Рафаіл Карлавіч Кастравіцкі (Карусь Каганец). Па злой іроніі лёсу, неяк малы Казік выпаў з вакна, моцна пакалечыўся, і хлопчык, як і бацька, стаў гарбатым.

Удзельнікам паўстання быў і брат Карла, Міхал Апалінары Кастравіцкі. Каб пазбегнуць пакарання, ён з'ехаў у Італію. У 1880 годзе ў дачкі Міхала Апалінара нарадзіўся сын Вільгельм, у будучым сусветна вядомы паэт Гіём Апалінэр (поўнае імя — Вільгельм Альберт Уладзімір Аляксандр Апалінэр Кастравіцкі). Пасля высылкі Кастравіцкія атрымалі дазвол вярнуцца на радзіму. З Табольска яны дабраліся на санях спачатку да Масквы, а потым цягніком да Мінска. Абсталяваліся на Стаўбцоўшчыне, у вёсцы Засулле. Там неўзабаве, у 60-гадовым узросце, бацька Каганца памёр, і маці засталася з чатырма дзецьмі. Каб вылезці з галечы, яна ўзяла ў прымы селяніна Кардэцкага, ад якога нарадзіла яшчэ трох дзяцей, і з Засулля пераехала ў вёску Прымагілле (Юцкі).

У вялікай сям'і малы Казік быў нялюбым не толькі з-за сваёй выродлівасці, але і з-за таго, што сябраваў з сялянскімі дзецьмі, моладдзю, размаўляў з імі на беларускай мове. А «простая» — гэта значыць беларуская мова — у сям'і Кастравіцкіх не падтрымлівалася. Хлапчук з дзяцінства ўмеў добра маляваць, займаўся самаадукацыяй. Вучыўся ён спачатку ў Мінскім гарадскім вучылішчы, а потым у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства. Аднак на завяршэнне вучобы не хапіла грошай.

Сваю літаратурную дзейнасць Казімір Кастравіцкі пачаў з 1893 года з апрацоўкі беларускіх легенд і казак: «Вітаўка», «Прылукі», «Адкуль мядзведзі», «Машэка», а таксама з напісання невялікіх апавяданняў («Ваўчок», «Навасадскае замчышча» і інш.). З'явіліся і яго першыя вершы: «Наш покліч», «Наш сымболь», «Згадка пра Галубка». Тады ж ён узяў сабе і псеўданім — Карусь Каганец. Каганец — гэта прымітыўная сялянская свяцільня, у пераносным сэнсе — «светач», той, хто нясе асвету ў народ. А імя «Карусь» узяў у памяць бацькі, бо некалі на Беларусі ўсіх Карлаў звалі Карусямі.

Ён марыў свяціць народу, дапамагчы ўсвядоміць сябе як нацыю. У тыя часы існавала легенда, быццам кожны дзень Карусь блукае па Мінску з ліхтаром і шукае… беларуса. Сучаснікі Каруся Каганца адзначалі, што з усімі, нават з панамі і падпанкамі, ён размаўляў толькі на беларускай мове.

Калі Каганцу споўнілася 30 гадоў, ён ажаніўся з Ганнай Пракаповіч, якая нарадзіла яму двух сыноў — Янку і Мірона, і двух дачок — Галіну і Мілену. Са сваёй сям'ёй Карусь абсталяваўся жыць на ўрочышчы Лісія Норы, паблізу ад Прымагілля (Юцкоў). Жылі небагата, глеба была неўрадлівая, таму Каганец мусіў працаваць у розных мясцінах Беларусі і за яе межамі. Дый працу яму было знайсці цяжка: з-за рэвалюцыйнай дзейнасці яму амаль паўсюль адмаўлялі.

У 1903 годзе Карусь Каганец разам з Антонам і Іванам Луцкевічамі, Элізай Пашкевіч (Цёткай), Вацлавам Іваноўскім і Аляксандрам Бурбісам стварае Беларускую рэвалюцыйную грамаду.

Каганца можна лічыць ці не заснавальнікам беларускай палітычнай карыкатуры. Гэта на сёння ўжо хрэстаматыйныя — «Пахаванне Свабоды» і «Віншую з Новым годам!». У 1904 годзе Карусь Каганец распрацаваў праект газеты «Палессе» — газеты для працоўнага сялянства. Але дазволу на выданне не атрымаў. У той жа час яго стрыечны пляменнік Апалінэр у Парыжы таксама прыкладаў намаганні, каб стварыць уласны часопіс, але ў яго таксама, хаця і па іншых прычынах, нічога не атрымалася.

Зімой 1905 года Каганец на Кoданаўшчыне арганізаваў антыцарскі мітынг, за што быў арыштаваны і зняволены ў мінскую пішчалаўскую турму (зараз турма па вуліцы Валадарскага), але праз некаторы час па хадайніцтву сваякоў і сяброў быў адпушчаны на волю. У маі 1906 года было заснавана першае беларускае легальнае выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца». Першай выпушчанай у свет выдавецтвам кнігай стаўся «Беларускі лемантар» аўтарства Каруся Каганца і з яго ж 19-цю малюнкамі. У тым жа годзе адно з пецярбургскіх выдавецтваў заказала Карусю Каганцу малюнкі для сваіх выданняў, а ў 1909 годзе — малюнкі да вокладкі кніжкі Якуба Коласа «Другое чытанне для дзяцей беларусаў».

У пачатку 1908 года Карусь Каганец едзе ў Вільню, дзе працуе ў рамеснай школе пры касцёле св. Стэфана і адначасова стварае бытавую камедыю «Модны шляхцюк», якая карысталася вялікай папулярнасцю: гэта быў адзін з першых твораў нацыянальнага тэатральнага рэпертуару. «Модны шляхцюк» быў нязменным спектаклем у рэпертуары вандроўнага тэатра Ігната Буйніцкага.

Па старой судовай справе 1905 года Віленскай судовай палатай Карусь Каганец у красавіку 1910 года быў асуджаны на год зняволення, і адбываў пакаранне ў той жа мінскай пішчалаўскай турме. У турме ён пазнаёміўся і пасябраваў з Якубам Коласам. За кратамі Колас напісаў шмат твораў, многія з якіх Карусь Каганец аздабляў сваімі малюнкамі. У лісце з турмы да жонкі ён пісаў: «Маляваць я маляваў усё найбольш беларускія тыпы. Ажно два малюнкі з турэмнага жыцця, а то нарысаваў 12 рысуначкаў Якубу Коласу да яго твораў…». На вялікі жаль, гэтыя турэмныя малюнкі Каруся Каганца не захаваліся.

Як ні дзіўна, але ў гэты ж час яго стрыечны пляменнік Апалінэр Гіём таксама на некалькі месяцаў трапляе ў парыжскую турму па падазрэнню ў крадзяжы «Джаконды» Леанарда да Вінчы. Паэт, нягледзячы на апраўдальны прысуд, доўга не мог адысці ад спалоху. Але тым не менш пачатак 1900-х гадоў быў паспяховым у творчым плане для абодвух Кастравіцкіх.

Пасля вызвалення з турмы Каганец робіць спробы ўладкавацца на працу на Украіне, у Вільні, пасля чаго вяртаецца ў Мінск і жыве ў малодшай сястры Мані. У гэты час з'яўляецца яго апавяданне «Што кажух, то не вата», ён стварае шмат скульптурных работ і карцін, якія экспанаваліся на выставе ў Мінску.

У альбоме мастака з'явіліся малюнкі жабракоў, земляроба з плугам. А што да Гіёма Апалінэра, то пасля выхаду з турмы ён падрыхтаваў выпуск свайго першага паэтычнага зборніка «Алкаголі», куды ўвайшлі вершы розных гадоў.

Пасля турмы здароў'е Каганца значна пагоршылася, ён хутка пачаў згараць ад хваробы, і 20 мая 1918 года памёр ад сухотаў у вёсцы Прымагілле (Юцкі) у брата па маці і быў пахаваны, як ужо згадвалася, у Вялікіх Навасёлках. У 1988 годзе на яго магіле быў пастаўлены помнік. А праз паўгода, 9 лістапада 1918 года, пайшоў з жыцця і выдатны французскі паэт, беларус па паходжанні, Гіём Апалінэр, якому так і не давялося наведаць радзіму сваіх продкаў.

У 3-х кіламетрах ад месца апошняга спачывання Каруся Каганца, праз тры гады пасля яго смерці, у вёсцы Малыя Навасёлкі нарадзіўся выдатны беларускі гісторык, паэт, грамадскі дзеяч Мікола Ермаловіч.

Шануюць на Беларусі памяць выдатнага сына беларускага народа Каруся Каганца. У Мінску, у мікрараёне Лошыца, яго імем названа вуліца, а адно з сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у Стаўбцоўскім раёне таксама носіць імя Каруся Каганца.

У 1910 годзе, калі Карусь Каганец знаходзіўся ў турме, Максім Багдановіч прысвяціў яму выдатны верш — «Каганцу»:

*«Змоўк пясняр, затаіў свае песні,*
*Ён іх болей ужо не пяе».*

Свой верш «Маналог Каруся Каганца» прысвяціў нашаму выдатнаму суайчынніку і Міхась Скобла:

*«Я прысвячаю табе.*
*Свой лёс, Айчына, дару чаю…».*

Віктар Шніп таксама напісаў верш «Балада «Каруся Каганца»:

*«І турма на зямлі на беларускай — турма,*
*І зіма на зямлі на бацькоўскай — зіма».*



Магіла Каруся Каганца

▸ КІНО

# ЯК ГЛЯДЗЕЦЬ НУДНЫ ФІЛЬМ

Андрэй РАСІНСКІ

**Усе мы любім цікавыя фільмы. Але іх мала, нудных — значна болей. Здараецца, трапіш на суцэльную цягамоціну, а сысці няма як. І мусіш пільнаваць за гадзіннікам, і ўсё не дачакаешся, калі ж гэта ўсё скончыцца.**

Дык ці можна глядзець нудны фільм і атрымліваць асалоду?

Ёсць розныя нудныя стужкі — і да кожнай патрэбны свой палюбоўны падыход. Нуда — адваротны бок экстазу: калі адны шалеюць ад нечага, зусім не факт, што тое ж будзе з іншымі.

Самыя паважаныя нудныя фільмы — аўтарскія. Менавіта іх збіраюць на фестывалі, абмяркоўваюць, узнагароджваюць, пестуюць. І дасюль здараецца, што чалавека лічаць разумным, калі ён здольны сказаць нешта ўзнёслае пра карціну, ад якой мухі дохнуць.

Як ні дзіўна — і на гэта не зважаюць — большасць аўтарскіх стужак абапіраюцца на нармальныя сюжэты: каханне і любоўныя закалоты, прыгоды і гангстэрскія гісторыі, гістарычныя драмы і хронікі. Але з гэтых сюжэтаў наўмысна выразаецца ўсё, што чакае глядач. Мы хочам пабачыць перастрэлку, а нам падсоўваюць доўгую панараму двароў, дзе нічога не адбываецца. Мы прагнем эмоцый, але замест гэтага — тупы твар непрафесійнага акцёра хвілінаў на дзесяць. Мы гатовыя разрыдацца, а нам прапануюць нешта настолькі мудрагелістае, што карціць зарагатаць.

Замест чаканых паваротаў сюжэту аўтар устаўляе свой роздум, прыём і эксперымент. Менавіта гэтай гульнёй з формай і апраўдваецца нуда. Паказваецца не тое, што варта бачыць, а тое, як гэтаму бачанаму выкручваюць рукі, скрыляюць мантажнымі склюдамі і катуюць закадравымі шумамі. Узорным кіназанудай, які ўвайшоў у падручнікі кіно, быў Мікеланджэла Антаніёні. Ягоныя «Прафесія: рэпарцёр», «Чырвоная пустыня» (і асабліва «Прыгода», асвістаная нават канскай публікай) — гэта зацягнутыя карціны з пасланнем і фармальнымі экзерсісамі.

Але і яму не параўнацца ў занудстве з авангардыстам Эндзі Уорхалам, чые «фабрычныя» стужкі ажно шэсць гадзінаў паказвалі, як чалавек спіць, — і толькі ў сярэдзіне карціны дапускалася дзеянне: герой паварочваўся на другі бок.

Многія рэжысёры любяць занудзіць, каб схаваць уласную пустату; у карцінах знікаюць нават парэшткі сюжэту, а прыёмы крадзеныя. Няшчасны глядач, якога закідаюць у нуду — паводле Сартра, экзістэнцыйную — вядзе сябе, як небарака, захоплены тэрарыстамі. У цёмным пакоі, прыкуты да крэсла, ён спрабуе захопніка палюбіць — і адшукаць сэнс там, дзе яго няма. І што яму яшчэ застаецца?

Але большасць нудных карцінаў — гэта не аўтарскае пасланне, не эксперымент і нават не фестывальная эксплуатацыя нуды. Гэта — няздольнасць распавесці жанравую гісторыю, халтура, зллепленая абы-як, ці, прынамсі, пракол годнага рэжысёра, які стаміўся — і гоніць вал замест таго, каб крышачку адпачыць.

Такія стужкі — самыя ўдзячныя для нуднага прагляду. Вам не трэба шукаць чорнага ката ў цёмным пакоі, дзе нікога і няма, не трэба лавіць прыёмы і пільнаваць мантажныя чыхі. Можна расслабіцца — на такія карціны варта хадзіць кампаніяй. Можна сачыць за ляпамі і дасціпна каментаваць. Можна прадказваць развіццё стужкі на колькі крокаў наперад — і адчуваць сябе мудрацом, чые прароцтвы збыліся на 200 адсоткаў. Можна заняцца падлікамі: колькі разоў і якіх абставінах герой менавіта з такім тупым тварам, і колькі разоў ён сказаў, напрыклад, «эх».

Можна дазволіць сабе глядацкае хуліганства — уявіць героямі тых, хто зусім не пасуе карціне (сяброў на праглядзе і саміх сябе, палітыкаў, дурных кіраўнікоў). Пародыя, зробленая ўласнымі рукамі ў рэжыме жывога кінапрагляду, скасуе вымушаную нуду.

Дазволю падсумаваць парады кароткай інструкцыяй, заснаванай на 20-гадовым досведзе прагляду і нудных, і цікавых карцінаў.

Напачатку трэба абавязкова вызначыцца, на які фільм вы ідзяце. Не варта чакаць ад баевіка доўгіх сцэнаў з мыльнае оперы і наадварот.

1. Фільм нудны: праверце, ці не памыліліся вы кіназалаю.

2. Фільм усё роўна нудны: вярніцеся да пункту 1.

Памылкі няма — фільм нудны.

**Варыянт а)** аўтарскі фільм:

— Сачыце за прыёмамі.

— Калі вам усё роўна нудна, а фільм прадугледжвае форму і сэнс — паглядзіце дома тлумачэнні, вярніцеся ў кінатэатр.

— Нягледзячы на ўзмоцненыя веды, фільм застаецца нудным: пакіньце фільм фестывальным крытыкам, няхай пакутуюць, і смела сыходзьце з кінатэатру.

**Варыянт б)** фільм жанравы:

— шукаем ляпы;

— дасціпна іх каментуем;

— займаемся кінапрароцтвамі;

— калькуем пацешныя дробязі.

Лічым героямі антыгерояў і цяпер глядзім пародыю, палітычны трылер, нестандартную драму.

Нясумнага вам прагляду!



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1101

Падпісана да друку 26.10.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.